Яўхім Стрыгун. То хіба ўжо й мяне ўпісвайце. Я таксама падаюся, што ні бог ні дасьць.

**Бяжыць Настася.**

Настася. Што робіцца! Каморнікаў нейкіх, ці ніжаняроў панаяжджала. Страшэнная моц! Іду гэта я паўзагуменьню, аж бачу...

Голас. А колькі іх?

Настася. Я двух бачыла.

**Рогат.**

Голас. Дзе-ж яны?

Настася. Сюды мусіць ідуць. Нейкую жоўтую трыножку нясуць пры сабе. Прыпас нейкі: а што яны гэтым прыпасам будуць рабіць, аднаму богу вядома.

Голас. Няўжо й вам, цётка невядома.

Настася. Не.

**Рогаг.**

Галасы:

— Учора плянавалі яны месца пад забудову нейкага льнаводнага тэхнікуму.

— Дзе? У нас?

— Не, у мястэчку, каля нас.

— А ў нас што?

— А пазаўчора на Агрэстаўскім балоце былі. Тычак панатыкалі, паляў панаганялі.

— Я чуў, што чыгунку будуць рабіць і электрастанцыю таксама будаваць.

**Костусь становіцца на нескарыстаныя рэшткі будаўнічага матэр'ялу каля аборы. Паднімае руку. Натоўп заціхае. У гэты час па адным падыходзяць з сваімі струмэнтамі музыкі—калгаская капэля ў поўным складзе. Яны хаваюцца недзе наперадзе натоўпу, так што толькі дзе-ні-дзе льга заўважыць музыку з струмэнтам.**

Костусь. Таварышы! Мы скончылі добра прыборку з поля збажыны. Мы як ударнікі працавалі з гонарам. Мы аддалі ўсе клопаты свае на ўзмацненьне калгасу. Мы вырасьлі ў новай працы. Гэтая праца нам—справа гонару. Зьменьваемся, каб жыць пачалавечы, ня толькі мы. Зьменьваецца ўся мясцовасьць. Да нас прыехалі інжынэры. На Агрэстаўскім балоце будзе будавацца вялікая электрастанцыя. Яна дасьць сьвятло і рухавую сілу

нашым тутэйшым калгасам і саўгасам. Праца наша лягчэць будзе ад машын, ад электрычнасьці. У нас-жа, у гэтай спрадвечнай глушы, будавацца будуць школы, электрастанцыі .. Няма больш глушы...

**У часе яго прамовы зьяўляюцца інжынэры і рабочыя. Яны з струмэнтамі. Як толькі яны падыходзяць да натоўпу, гранула капэля. Спачатку толькі музыка, пасьля, у адзін момант, да музыкі далучыўся хор людзкіх галасоў. Натоўп і капэля выконваюць гімн калгасьніка.**

З А С Л О Н А.

---

**Міхась Лынькоў.**

# Саўка-агіцірнік

(*Апавяданьне*)

Моўчкі ўсходзіць сонца над лесам, падкрадваецца ці-і-іханька, ціха з-за высокіх шчарбатых ялін. І як зірне, зірне—над полем, над лугам, над пахучымі гародамі, азяродамі сатлелымі, ды над стрэхамі жухлымі, саламянымі, заглядзіцца ў шыбкі, сьляпыя, закураныя. І пашло тады ўсё, пашло гоманам, рухам. Жураўы скрыпяць. Атрасаючы сон і дымныя ляпёхі на росны пыл дарогі, ідуць паважна каровы, і ад іх цяплынь: салодкая, парная, як густы сырадой у даёнцы.

А на платох, на парканах расьцьвітаюць макамі пеўні. Дзюбы да сонца, хвост пад воблакі, ды крыльлямі як залапочуць, як загалосяць—закукарэкаюць, хоць ты вушы тады закладай.

— Ну й голас, каб на цябе ліха, як у таго пана былога... Ізноўжа шыбельнік, праз паркан курэй вядзеш, да гуркоў дабіраешся... Акыш, зладзюга, я ўжо цябе спаймаю, увесь хвост абскублю, зброда.

Любіць Саўка пару гэтую, сонешную, ранішнюю. І з пеўнямі ўраз узьнімаецца. Ходзіць па двары, прыслухоўваецца да песень тых нямудраных, вераб'іных, на старой і аблезлай ігрушы. Забіяцкія песьні, задзірлівыя. Прыглядаецца да рассады ў кутку—пара-б садзіць. Паправіць тую—другую жэрдку ў страсе хляўчука, што выперла абадраным шкілетам з-пад ускудлачанае, узьбітае ветрам саломы, Пад страхою карова Саўчына. Ляжыць, жвачку жуе ды бурштынавым вокам узіраецца ў шчыліну, што ў сьцяне дзіравай. Сонца адтуль сьвердлам бліскучым і цярушацца ў ім залатыя пылінкі, нават саломінка на кароўім баку як драцінка гаручая.

— Эх ты, енаральша, усё-б на баку ляжаць, пысаю чмыхаць. Айда, уставай,—і рукой па храсцох, па бакох заняпалых, дзе прысталі дзяды, ды галышкамі папрысыхалі зьлінялыя шматкі бруднай поўсьці. А пад брухам лямец—лямцам—ліняе небарака.

— Але-ж і падла ты, каб ды ня сурочыць... І вясна табе не ў папраўку, шчэ дзякаваць, што на ногі ўстаеш...

Саўка церпяліва чакае, пакуль, выгнуўшы дугой сьпіну і хвост дудой, справіць лысая ўсе свае цэрэмоніі—ня гожа, каб на чужыя палі, на межы чужыя разносіла-б жывёла дабро гаспадарскае. Якні-як тры дзесяціны ў Саўкі: трэба і бульбіну ўкінуць, і пад ячмень, не пакінеш і ільнянішча так. Дый гародчык ізноў—нішто ня хоча жыць бяз гною. А дзе ты яго набярэшся з худобіны гэтай ды з трох падсьвінкаў шалудзівых, ходзяць вунь, як тыя шчупакі перахлябленыя.

Таму і чакае церпяліва Саўка.

А выганіць карову на вуліцу і дзялоў тых—шукай ня знойдзеш. Дзіва то з трыма дзесяцінамі. Тады йдзе Саўка праз гароды да суседзкага прыгуменьня. За гумнамі поле, шырокае, вялікае. І ні межаў на ім, ні боразнаў. Абапрэцца Саўка на шула, прыхіліцца, прышкне шчакой да шурпатае і глядзіць, пакуль ня ўшчыпне за нос мураш які руды—казявіна тая кусачая.

Глядзіць Саўка, сочыць вокам па полі. Ходзяць па зямлі паркі коняй, людзі нокаюць. Аруць, скародзяць, пад ячмяні мяшаюць. А каторыя паркі бораны цягаюць, дыскавыя. Аж мулка воку ад іх пад сонцам, от-жа бліскучыя. Глядзіць Саўка, прыглядаецца. І адчувае, як набракае сэрца непамернаю злосьцю, гнуткаю, цягучаю, хіліць аж да сырое зямлі, прыгінае, палыном ахінаючы думкі. І, сьцяўшы кулакі, патрасае імі Саўка, пагражае камусь, і голасна пра сябе:

— Ну й сволачы, ай-жа гады... Жытку маю загубілі, сэрца маё змаглявалі... Пастойце-ж, прычакаеце.

Ня ўсё-ж праўда ваша...

І сьцятыя кулакі пагражаюць, трасуцца. У той бок, дзе паркі, дзе бораны дыскавыя, на якія мулка глядзець, бо сонца на іх ды расою ўмытае. Трасуцца рукі, трасуцца лахманы загарэлыя і праз іх ружавее Саўчына цела: як хрысьцілі—мытае, прусамі абгрызенае, пад сіверкамі тымі парэпанае.

— Ня ўсё-ж ды праўда ваша...

Чыю праўду Саўка мае на ўвазе?

---

Узялі чалавека ў жменю ды сьціснулі. І ўсе духі выціснулі, засталася адна хударлявіна. Ходзіць—усё да зямлі хіліцца, шкрэбае лапцямі тымі, пыл заграбае. Шапка-лапавушка на бок, з вэнтыляцыяй. Ды пад шапкай вочы ў ямінах заняпалых, чорных. І ў вачох сум, зьзяе ён ліхаманкавымі агеньчыкамі. Як вятрак шэрыя рукавы сьвіткі—усё ў роскід:

— Як-жа так: каб мяне ды з калгасу?

Гэта пра сябе, на самоце.

А з жонкай — куды там. Вунь, ляжыць яна на печы, каторы дзень ляжыць, ніяк не ачухаецца пасьля радзін. Да Саўкі ўсё чэпіцца

— Саўка?

— Ну...

— Чаго ты нялюдзкі такі?

— Чаму?

— От-жа ўсе людзі як людзі...

— Яшчэ што?

— І працуюць і ўсе ў гурце адным... Каб-жа то што, а то ўсё сяло бадай у калгасе.

— Ну?

— От-жа нелюдзь ты, нукала... Дык пытаю цябе, ці-ж раўня якім там, якіх у калгасе не бяруць, ці-ж мы кулакі якія,або тыя ворагі, зладзеі?

— Нешта ты ўжо дужа за калгас стаіш. Ці ня цябе залетась жыўцом цягнуў туды?

— Тое-ж летась... Ты паглядзі толькі: колькі ільну таго засеялі, а колькі бульбы... Ды колькі вунь пад ячмень рыхтуюць...

— А табе што за карысьць?

— Ат-жа з табой прыдбаеш карысьць, пакуль лыткі не працягнеш і з дзецьмі... ці кайстру адзень ці камень на шыю ды ў пельку...

— Дурніца, май-жа цяпер на двары...

— Каб ты ўжо да крывёю заліўся з жартамі сваімі ды ня людзкімі, пудзіла ты сусьветнае.

Хіба-ж абмяжуеш Саўчына цярпеньне?

Ходарам усходзяцца шэрыя рукавы сьвіткі і зіркімі агнямі распаляюцца ў чорных ямінах вочы:

— Ты... Ты падумай толькі, каб я... Выгналі-ж мяне, як сабаку тую шалудзівую выгналі. А за што, я цябе пытаю? Ты думаеш, прасіць пайду? Трасцы, бокам выйдзе ім, не дачакаюцца.

— Табе дурному хутчэй яно выйдзе бокам... І так ужо выходзіць... Усё-ж людзі пры парадку...

— Усе, усе... не пра ўсіх гавару я... Можа-б яно і лепшы парадак быў, каб лепшыя ўправіцелі, а то ўсё пад свой бок горнуць...

— Цябе-б'от пасадзіць!

— А ты думаеш?

— Да ўжо-ж... З тваім языком дабра не прычакаеш. Праз язык пакутуеш, няма на яго ўгамону. Так да сьмерці ўжо і прабадзяешся няпрыкаяным, пудзіла языкатае...

— Не язык, а праўда наша, вось у чым справа.. А праўда, брат...

— Праўда? Вунь яна ў цябе духі падцягнула.

— Ні-і-чога... Гонар маю за тое, чалавек я з правілам.

— Дужа з твайго гонару пад'ясі.

— Эт, з табой нагаворышся...

І каб разьвеяць нуду, ідзе Саўка на людзі, каб паслухаць каго, слова новае ўчуць, распытаць, а ці ўсюды ў людзей яно так, як на іхным сяле, ці ўсюды яна праўда аднолькавая. Куды-ж пайсьці, як не ў сельсавеце: заўсёды там людзі тоўпяцца, свае і чужыя часам. І ў кожнага справа, у кожнага словы свае. Старшыня, скажам, і той запытае:

— Ну што Саўка, ці рашыў?..

— Не.

— Так-такі і ня пойдзеш у калгас?
— Хваробы... Раз выключылі, квіта...
— А ты-б падумаў!
— Няхай яно ўжо коні думаюць...
— От-жа чалавек, от-жа натурлівы...
А Саўка ўжо да другога, распытвае якога чалавека чужога.
— Ну як яно ў вас? Таксама?
— Што?
— Беднату таксама з калгасаў выганяюць?
— Ды што ты, чалавеча, хіба-ж то можна?
— Гм... Можна... Бачыш, яно так і быць павінна. А як-жа ты з ёй, беднатой, зробіш, калі, скажам, у яе насеньня нямашака. Ня пускаць-жа яе ў калгас тады, адна ад яе калгасу тады згуба.

— Згуба, кажаш?—і глядзіць чалавеча зьдзіўлена: „Ліха яго ведае і яго словы... Бядняк, здаецца, а паслухаеш, дык можа ён з тых...“

А вясёлыя хлопцы падміргваюць, чалавеку падказваюць:
— Ты, брат, ня дзівіся, ён у нас з прынцыпам!
— З якім гэтым прынцыпам?
— Упорысты такі прынцып мае, ці як наш старшыня калгасны кажа, худую цяньдзенцыю: і тое яму ня ў лад і гэта яму ня ў пору. Адным словам, агіцірнік наш...
— Уга-а...

Каму ахвота з агіцірнікам справу мець, ды яшчэ з гэтай страшнай цяньдзенцыяй. Ды з гэткім жа надакучлівым: зачне як шашаль тачыць: і тое ня так і гэта не к дабру, разьвесь толькі вушы ды слухай. Няма ахвоты з непакойным чалавекам зьвязвацца—адзін толькі клопат. І ходзіць Саўка, крысамі свае шэрае сьвіткі размахвае, носіць крыўду сваю, захоўвае. Ды рукавамі толькі часам як вятрак той усходзіцца:
— Ня ўсё-ж ды праўда ваша...

---

Калупаўся адвячоркам Саўка ў хаце, віў атосы вераўчаныя—ня з трох-жа дзесяцін хлеб кусаць, трэба і прымысл сякі-такі ў руках мець. Цярушылася пад рукамі кайстра, ападала. на шчарбатыя тыя масьціны клалася Шурпатая кайстра, калючая. Не пянь--стырбуны адны, ня вымякла, ня выляжалася. І думкі ўсьлед, такія-ж настырбучаныя: на любую з іх наколешся, аб любую рукі, жытку сваю ашарпаеш.
— Эх ты...—уздыхнуў Саўка.
— Каб табе ўжо ды на сьвеце тым уздыхалася так... Дужа люба мне чуць твае ўздыхі, няйначай на клодаўе зьбіраешся...—бубніць жонка на печы.

— Ды ўжо-ж, даўно яно па табе плача... Вяроўкі от толькі саўю дамавіну спускаць...

— Каб ты ўжо на іх засіліўся ды божага сьвету не забачыў, як люба мне гаварыць з табой...

І чым-бы гэтая бяседа скончылася—невядома. Прыбеглі тут дзеці Саўчыны—па вуліцы туляліся. І адно перад адным, мурзатыя лахманы тыя задрыпаныя.

— Дык-жа на сяло прыехалі, у калгас пашлі!

— Хто?

— Дык-жа з гораду, кажуць, рабочыя, ці што парцейныя, ды з раёну.

— Чаго?

— Сход, кажуць, сабіраць будуць, от, як калісь шэфы тыя...

— Навошта?

— Ад-жа нелюдзь, да дзяцей чэпіцца, дзяцей пытае, калі самому няўпрыцям, сваёй галавой не ўшалопіць... Ідзі, ідзі ўжо, гаварок... ізноў дагаворышся...

— Маўчы ты ўжо... Маўчы, кажу... Табе-ж лягчэй, бакі ня так муляцца...

— Табе от язык не замуліць ніколі...

Шапку ў рукі ды клямкай бразнуў. Пашоў Саўка, крысамі памахваючы, атрасаючы з рукавоў кайстру калючую. З рукавоў тых шэрых, зашмальцаваных. Ветраком каб іх, у роскід:

— А мо дый наша праўда будзе...

---

Ідзе гамонка ў хаце, з дымам тым узьнімаецца аж да столі закуранае. Вось і сход распачаўся. Гавораць усё тыя, з гораду. Саўка ў кутку сядзіць, маўчыць, прыслухаецца. Зрэдку і на яго хто вокам кіне, з сваіх: як гэта ён так Саўка—самы што ні ёсьць агіцірнік—ды маўчыць, а ні слова ня ўставіць якога, задзірлівага, шурпатага. Але Саўка маўчыць ды толькі думае:

— Што-ж, людзі праўду кажуць, чаго там...

Але-ж і свае пачалі гаварыць, праўленскія. Вунь і старшыня калгасны Мацей аб дасягненьнях усё, аб працантах.

— ...Ільну трыццаць працантаў, аўса столькі і столькі, ды бульбы...

Настаражыў вушы Саўка, на лаве заёрзаў, ня ўседзіць ніяк.

— ...І цялят вядзём мы ў блісьцяшчай лініі... Кароў гадуем эканамічаскі...

„Ах каб цябе нарад?"—аж падскочыў на лаве, рука—крыло тое ветраковае з парусамі выпетранымі—угору, ды на хату на ўсю:

— Брэшаш? А колькі, запытаць цябе, цялят за гумны пацягалі, ды са скурамі пазакопвалі? А кароў? Эканамічаскі, кажаш? Усе лужкі стравілі, сена тое дзе будзеш касіць, колькі разоў казаў.

— Ціха ты, няма на цябе ўгамону,.. то разявіўся...—загаркалі каторыя з боку.

— Тут народ, можна сказаць, сур'ёзны, а ён... з цяля-я-та-мі... яшчэ-б што сказаў?

А каторыя маўчаць, за сьпіны другіх туляцца. Абмяк ужо Саўка і сам ўтуліўся. Дзе ты тут з праўдай, калі ня любяць яе. А за сталом шэпты пашлі, перашэпты.

— Не зважайце ўжо, чалавечак такі, агітуе ўсё... Дужа-ж непакойны, усё не па-ягонаму...

— Як гэта агітуе?

— Да ўжо так яно ў яго і выходзіць, супроць усё... Ты яму слова а ён два... З цяньдзенцыяй худой чалавек з паскуднай цяньдзенцыяй.

— А ўсё-ж?

— Ды так-жа, супроць усё агітуе...

— Брэшаш! Праўды ня любіш—не сьцярпеў тут Саўка.—Ты пра цялят зубы не загаварвай цяньдзенцыяй, а скажы...

— І сапраўды, чаго там, хіба-ж гэта няпраўда?—пачуліся ўжо галасы каторыя ціхія з куткоў, ад дзьвярэй, ад самага мыцельніка.— Ты з сваёй цяньдзенцыяй пачакай, бокам яна каторым з нас вылазіць...

Пачуў Саўка падмогу, плечы распрастаў, у думках сьмялей:

— Эге, ня ўсё-ж вы, ня ўсё-ж вам ды клёцкі малочныя...

А тыя ўсё, за сталом што, пытаюць:

— Дык давайце-ж гаварыць будам! Грамадзянін Саўка, давайце праўду сваю, слова бярэце!

— Мне што...

— Як што, хіба назад?

— Не аб тым я... Хіба мне паперад кідацца, перад людзьмі? І без мяне ёсьць...

— Ды вы не саромейцеся!

— Сораму мне не баяцца, і без яго вочы выелі...

— Дык чаму-б гэта вам да не сказаць?

— А захачу дык і скажу!

— От так бы і раней!

— Ну вось... І скажу, нічога не стаю, баяцца мне нечага.

І пачаў Саўка, разышоўся, толькі рукі тыя як вятрак—усё шпарчэй, шпарчэй.

— Я от, гражданін,—да стала гэта, да прэзыдыуму,—я, можна сказаць. пралетарыя самая найапошняя на сяле... Хіба-ж я парадкаў ня ведаю, як яно што, да чаго... Ну добра... Зямлі ў мяне, можна сказаць, на тры лапці зьбярэш—дзе ж ты з яе пракормішся. Добра, што ў колішнія годы прымысл меў—конь быў, паяздаў тых з пару, адным словам, цягаўся як той балагол... Там настаўніка, там пошту

часам, там каменьня таго калі ці бярвеньня з дзялянак купецкіх вазіў. Глядзі—так-сяк і хатку сабе згораў, дзеці тыя, як лапушыньне пашлі адно за адным. Ну добра... І от, грамадзянін, калгас у нас. На новае, значыцца, на жыцьцё. Як гэта ў законах у нас прапісана, каб кожная ў нас пролетарыя, каторая сьвядомая. . Ладна. Уступіў я ў калгас, прынялі. Я і кароўку туды—каня даўно ня было, і насеньне якое было і паязды тыя, і нават шыны тыя з круга яшчэ ня ўжываныя—усё туды спляжыў. Ну і сам з жонкай і з дзяцьмі. Добра. Працую. Хаджу сабе, прыглядаюся, прыкмячаю ўсё. А прыкмечу, от тут-жа, на сходзе, як на далоні тэй і вылажу. Але-ж моршчацца. Бачу, словы мае каго ў нос б'юць. Ня зусім гэта, каб да беднаты, каб да слоў яе прыслухаліся. І праўленьне... Што казаць, ня зусім там з нашым братам лічацца, бо кулакі не кулакі, а народ, можна сказаць, падабраўся там не з бяднейшых, з нас нікога няма, ды сваяцтва яшчэ пры тым... Глядзіш, лапа лапу і мые. Хіба-ж няпраўду кажу, няхай людзі скажуць.

Але-ж ня ў гэтым яшчэ і клопат той. Узяць сабе хоць-бы з працай. Шчэ вясной леташняй—цяпер то крыху прылаўчыліся. А тады... Начальства таго хоць адбаўляй: і старшыня, і намесьнік, і члены, і бухгальтэр, і рахункаводаў аж два—гэта на трыста тых га... Ды конюхі, пастухі, ды зборшчыкі па малаку... Ды кожнае ў начальства глядзіць. Адзін занятак: па вуліцы шнураваць, ды дзяўчат мацаць—ці цупкія іх спадніцы. А каб да плужка руку прыкласьці, каб гэта з бараною прайсьціся, ці з сявенькаю, ці сьлед які касою пракласьці—хоць-бы сабе для прыкладу таго—і ня блізка. Як-жа, то-ж справа ня нашая, не начальніцкая... Добра... Ну от... А народ за начальнікам, як начальнік, так і ён, такая павядзёнка ўжо. Сонца ўзыйдзе, раса абсыхае, добрыя людзі за працаю ўжо вымерхаліся, а ў нас яшчэ зьбіраюцца. Сонца ўжо паўкруга прайшло, а ў нас толькі коні прыводзяць з пашы. А кармоў ім—ні званьня таго, ні каліва. Яшчэ-б яно нішто, каб адразу іх у плуг, ды і ўзараў там кавалак які. Дык пакуль гэта коні людзей прычакаюць, дык спарожніцца пасьпеюць. Хіба-ж яны тады плуга пацягнуць. Каб гэты авёс скажам, ну, дык справа другая. Але-ж і авёс, калі ды з бязглузьдзіцай—усё роўна без карысьці. Дык от і праца-ж такая. Шчэ мужчынскі пол сюды туды, а з дамскім полам—і не падходзь, адна рэвалюцыя штодня. У тае палотны ня белены, у тае буракі не праполаны у тае проста няма прычыны, дык ізноў-жа хвароба там якая-небудзь—на жывот, скажам, села, ці на іншае там месца якое далікатнае. Адным словам, сьвяткуюць штодня. Я ўжо не кажу пра Праскоўю якую, ці сераду пераплаўную, пра сьвяты тыя—ага, на паўлапцы, тады не падыходзь... Ты да яго за работай, а ён табе, дамскі пол, фіндос пад нос, ці па-нашаму—дулі тычаць.

Прысьпеў гэта час бульбу сеяць, дык хоць ты плач. Хоць ты Насту кульгавую—сюды-туды яшчэ баба—за плуга стаў, а мужыком кошыкі ў рукі, каб бульбу гэта па баразёнках цягалі. Ізноў-жа сяўба.

Без парадку сеюць, абы тыя гэктары з пляну збыць. А як яно пасеяна—аб гэтым клопату няма. Дык от і праца. Колькі то я гаварыў, колькі то я лаяўся. Нічога-ж не бярэ, і слухаць ня слухаюць. Ладна. А там пшаніцу пакралі. Пад самы магазын падабраліся, прасьвідравалі гэту дзірачку, яна і сыплецца. І вартаўнік сабе сьпіць, нібы от толькі так для прыліку сьпіць. Колькі мяшкоў выцягнулі. Спаймалі. Дык дай-жа рады. Ізноў-жа накрыліся, нібы і ня было нічога. Адзін—членаў сын, другі—дзедаў, вартаўніка гэтага самага, трэці яшчэ там сватаў, ці кумаў. Так яно ўсё і зашылася. Пагаварылі, пагаварылі і замаўчалі. Вялікі-то клопат—гэта-ж не сваё, калгаснае...

Такая і работа. Каб гэта ды так яе паставіць, што-б сіла тая раніцой па поле, як хваля ішла... А то дзе-ж, калі сіла гэтая ды па кутках сваіх шныпарыць, усё ля хат сваіх ацірае парогі, па гародчыках гноем цярушыць. Як-жа: канапелькі свае, свая бульбінка.. шпанічка свая на блінцы. Сьмешна сказаць, але-ж і коні нават на гароды ідуць, аж падбрыкваюць, адкуль той і авёс бярэцца... Яно, канешне, і гароды патрэбны, я ня супроць іх, але-ж дайце вы рады полю, па-першае. Гаварыў я—крывіліся.

Ладна. Прывёз я па восені жыта на пасеў тры мяшкі, абагуліць. Стаіць маё жыта дзень, стаіць другі, стаіць і трэці—усё парадку яму не даюць. Добра, чакаю. І штодня, бачу, завіхаюцца хлопцы ля мяшкоў, праўленскія, з канцылярыі—там яны і стаялі мяшкі. Дзюрачку гэта пад хахлом праткнуць, яно і цярушыцца сабе. Паглядзеў я на мяшкі, а яны навярху ўжо як навалкі тыя пустыя, матляюцца. Што-б то сабе, думаю. Прыгледзеў, канешне. Цэлую ліпавачку насыпалі. А куды, запытацца, ліпавачку падзелі? Пілі-ж потым цэлага дня, аж да зьмярканьня. Я да старшыні. „Узваж, кажу, жыта, абавязкова ўзваж, бо я-ж яго за пятнаццаць пудоў здаваў, узваж перад тым як сеяць“. Ды дзе там. Узлажылі на воз і так і адвезьлі на поле. От вам і ліпавачка. А старшыня яшчэ мне: „Кінь ты, кажа, свае дурыкі нялюдзкія, адзін неспакой ад цябе, ва ўсё носам тычыш“. Добра, тычу...

І от ужо адсеяліся гэта па восені, павёз я жыта ў млын, на муку каб гэта крыху там перацерці. Прыяжджаю другога дня, а мне і кажуць:

— Ну, Саўка, свабодны ты цяпер чалавек. Выключылі цябе, аслабанілі...

— Як гэта аслабанілі, кажу, такую іх ды разгэткую...

— А так, непакойны элемэнт, бачыш, агітуеш усё, свавольствам займаешся...

— Якім гэта свавольствам?

— А запытай, брат, у праўленьні, ім лепш ведаць.

Так і выключылі... Зіму сяк-так пратуляўся. А тут вясна, сьнег падаўся, кожны каменчык абрастаць пачаў. „Як-жа так,—думаю,—каб

я ды не ў калгасе?" Пашоў гэта зноў. Пра насеньне пытаюцца. Ня буду маніць, здаў я ў загатоўкі пудоў з дзесяць аўса ды бульбы з паўсотні.. Няхай-бы от яны каторыя разумцы, па сіле сваёй... Дык дзе там, ня ўсё-ж па пляну здалі, па квітанцыях яно відна... А мае квітанцыі пры мне, хоць зараз пакажу... Ну і засталося ў мяне ячменю пудоў са тры, ды аўса таго пудоў на пяць, ды семя таго лубка якая. З бульбай, праўда няхватка. Я і кажу—„Даю ўсё, што маю, а чаго ня маю, дык-жа па восені вылічыце". Паглядзелі яны на мяне ды ў рогат.

— Ідзі ты, Саўка, ды хаця курам сваім пасып, гэта з насеньнем, значыцца, тваім. Ня можам мы без насеньня цябе прымаць. Ізноў-жа і чалавек ты такі...

Так і ня прынялі. Праўда, старшыня сельсавету ўгаварваў мяне потым, каб заяву падаў. Ды дзе там. Каб пасьля такой крыўды. Каб я, гражданін, каб я, можна сказаць, чалавек, які ўсе іржавыя трубы прайшоў... Каб я дый прасіць у іх, у зараз гэтых. Ды няхай яно ўсё захлынецца. Вот яно як, гражданін, ды з праўдай нашай. Карэўкі буду насіць, а ім не паддамся... От-жа... Управіцелям гэтым дурным.

І бокам, бачком, падаўся ад стала Саўка, падаўся ў куток свой. І ўсе адхінуліся, далі дарогу. А ў хаце гармідар узьняўся. Кожны хацеў перакрычаць другога, кожны хацеў слова сваё, крыўду сваю вылажыць. Ды каб чулі яе, каб услухаліся ў яе. І ўсе крычалі туды, у кут, дзе сядзелі яны, дзе сядзеў «гражданін-прэзыдыум». Паплыла Саўчына праўда, расплылася, ахінула ўсіх у берагі свае.

— Ня ўсё-ж ды ваша...

* * *

Позна ішоў Саўка да хаты. Ня ішоў, а падскакваў, заграбаючы лапцямі цэлыя гуры пылу. Лёгка па ім, духавітым, ліпучым. Ня прыкмеціў, як і парог пераскочыў, ды ўраз да печы, да чарэнітае.

— Ну, жонка... ды што жонка... Гэй, супруга мая, супружніца, мяне паслухай...

— Ці ня выпіў ты здуру, часам, чаго па начы ўсхадзіўся, дзяцей устурыш.

— Нішто, цэлы будуць. Дык от, брат, ў калгас заўтра пішуся я.

— А каб цябе ўжо на памінкі запісала. Пішацца ён...

— Ну ты і скажы ёй. І лягла нават ізноў як калода, нібы і ня цікуе...

— Дык-жа сапраўды пішуся, от-жа убачыш.

— Ды ўжо-ж, на язык ты хвацкі, языком ты горы варочаеш. Язык твой—звадыяка твой.

— Ізноў тое самае... Не язык, а праўда мая. Наша праўда ўзяла, вось у чым справа... Ды хіба-ж яна зразумее, хіба-ж з ёй нагаворышся. Ты да яе са словам цёплым, а яна да цябе... вунь адвярнулася.

Крыху садніла сэрца Саўчына. Дзесьці прусы шархацелі за комінам, нібы от хто ціха, ціха цярушыў пад стольлю авёс з мяшка. Пяяў цьвіркун. ды скрозь сон мармытне часам дзіцянё каторае.

— Бач ты іх, сны трызьняць. Ну што-ж, няхай...

Садніла крыху сэрца і соладка шчаміла. Але-ж нішто, ня ў гэтым справа. Галоўнае:

— А ўсё-ж такі, ды наша ўзяла, праўда нашынская...

Крупскі раён, 1932 г.

Алесь Верас

# Мы

Мы з гораду—
з фабрык,
з заводаў,
Мы з вёсак савецкай краіны,
Каб зьнішчыць былога руіны—
Мы выйшлі ў бой, як адзін.—
У бой за ўдарныя тэмпы,
За якасьць рабочай рукі!
Ударным
Напружаным тэмпам—
Мы пройдзем
ў другія вякі!

У шахтах глыбокіх Данбасу,
У халоднай Якуцкай зямлі,
У палёх украінскіх калгасаў,
Дзе шэлест руйнеючых ніў,
У балотах глухіх Беларусі,
У нетрах Сібірскай тайгі,—
Мы здацца старое прымусім,
Мы сьвет пабудуем—
другі!

За плян пяцігодкі вялікай,
Каб долі ня ведаць былой,
Каб панскай пазбыцца пазыкі,—
Брыгадамі выйшлі мы ў бой!
Мы зьдзейсьнім жаданую мэту—
Ня спыніць нас скогат ліхі—
На зьмену адцьвіўшаму сьвету
Мы сьвет пабудуем—
другі!

# Машыніст Сакалоў

З работы
прышоў
машыніст Сакалоў,
і сеўшы
на крэсла старое,
ня мог ён суладзіць
ні думак,
ні слоў
з сягоньнішнім
прыкрым настроем.
адна акалічнасьць
вастрэй чым агонь
і нэрвы
і сэрца паліла:
— Няўжо насумысьля
брыгадзе яго
была
нарыхтована міна...
Таму
і рабілася
прыкра і зьле,
што нехта
нашкодзіць быў рады
таму,
хто стаіць
як герой начале
ударнікаў
спарнай брыгады.
Яго паравоз
акуратнасьці тэй
як
точнасьць плянэтная
верны...
На трыццаць працэнтаў
адмерыў далей
таго,
што
належыла мерыць.

Яго паравоз
не нагоніць аском,
усім недарэкам
на сорам—
накормлен
уволю
Данбаскім аўсом,
і
ёсьць эканомія
корму.

І вось яму тое,
што страшна спаткаць,
страшней
чым бяздоньне магілы:
ў сярэдніх вагонах
чыясьці рука
шчапныя крукі
падпіліла.

Таму
і здарэньне:
на першым пуці,
пад станцыяй №-скай
з разгону
на рэйках,
дзе
мусіў кур'ерскі ісьці,
адстала
пятнаццаць вагонаў.

І шчасьце,
што будачнік дбайны
пасьпеў
ледзь-ледзь
папярэдзіць крушэньне...

Напружаны нэрвы
і мускулы-ўсе
ад гэтых
кашмарных здарэньняў.

Крушэньне
ня нова
на №-скім вузьле,
дзе
праца ідзе
самапасам...

Тут
воўчыя зубы
стаяць начале
над хэўраю
чорнае касы.
Пазбавіцца
трэба і гэтых зубоў,
і чорнае касы
паветра...
На вуліцу вышаў,
як цень Сакалоў
з сябрамі
разважыць
пра гэта.
І тут
няпрыемнасьць:
нідзе ня душы,
разважыць,
параіцца
з некім;
адны—
на вячэрнюю зьмену
пайшлі,
другія—
на сходзе ячэйкі.
Прышоў у чытальню—
і там
апроч сьцен,
ды
ценю дзяжурнай—
нікога...
Чытаю абвестку:

| |
|---|
| Сягоньня ў сем<br>зачынены сход ячэйковы. |

На згорблены
цень свой
зірнуў Сакалоў
нібы
на страшылішча сьвету...

З тугою сябруючы
сеў за сталом—
чытае
абзацы газэты:
„Калі
у магілу
сыйшоў правадыр—
сусьвет
скалыхнуўся
ад болю...
У партыю
сотнямі тысяч
тады
пайшлі
вэтэраны будоўлі.
Пайшлі
каб вялікую справу яго
панесьці
праз буры
і стромы,
каб
з кожнае
Ленінскай іскры
агонь
быў полымем
творчых настрояў“...
Ці
стол пахіснуўся
ці
сам Сакалоў.
На момант
апору тут
страціў...
І
думка,
адна толькі думка
прышла да яго
ад тых
гістарычных абзацаў:
— Хіба-ж я ня ўдарнік?
ня творца жыцьця?

Дык
хто-ж
мне адкажа
нарэшце:
ці варты я сёньня
каб
Ленінскі сьцяг
у Ленінскай партыі
несьці.
І ў шэрагах
партыі
пільна глядзець,
аддаўшы на гэта
ўсе лепшыя сілы,—
каб часам
у хутры
звычайных авец
зьвярыная здань
не хадзіла...
І раптам
па нэрвах
прайшоўся агонь:
адказам
на гэтыя словы,
як тонная гіра
чыясьці далонь
лягла
на плячо Сакалова:
— Пра тое здарэньне
што
сёньня было,
я ведаю, дружа,
нялёгка забыцца...
Але-ж
ці ня гэта
цябе прывяло
да думкі
зрабіцца
партыйцам.
Ты слаўны таварыш,
а ўсё-ж—
пэсыміст,
герой да работы,
а пільнасьці—
мала...

Як быццам у сэрцы тваім,
машыніст,
чужая бяда
начавала.
Зьвярынага зроку
драпежны агонь
хіба-ж ты
раней
няпрыкмеціў...
Хіба-ж ты ня бачыў
што постаць яго
хаваецца
ў хутры авечай...
Каб зьнішчыць наскокі
зьвярыных зубоў,
і чорнае касы
паветра—
скажы,
ці прышоў ты хоць раз,
Сакалоў,
сказаць
на ячэйцы пра гэта.
Ты помніш
Кастрычніка
громы і сьвіст,
ты помніш
далейшага часу
аблічча...
Ня будачнік дбайны,
а сам машыніст
ня даў пахіснуцца
хадзе гістарычнай.
Умеў ён
разгадываць
моракі дзёй,
ён
бачыў здалёку
агні вартавыя...
Праз лютыя громы
гарматных сьмярцей
ён вёў,
і ён з гонарам
вывеў.

Хіба-ж
тое полымя
у нас не гарыць
яго шматстароньняй
натуры?..
Дык пільнасьці болей
дык будзем тварыць
другое жыцьцё
і культуру...
Ды працай ударнай
абгонім гады...
Дай пяць,
што праедзем свой рэйс
за чатыры...
І цэхі нам скажуць:
„Вы варты заўжды
білетаў партыйных“...
А наш паравоз
не нагоніць аском—
усім недарэкам
на сорам—
накормлен уволю
Донбаскім аўсом,
І,
ёсьць
экономія корму.

---

В. Леанідаў

## Лясны камбінат

Нядаўна высокай
Зялёнай сьцяной
Тут стромкія сосны стаялі;
І сонца кідала
Праменьняў вянок
На мора іглістых вяршалін.

У гэным бары,
Сярод ночнай цішы,
Ваўкі перад раніцай вылі.
Ды час надышоў—
І ў лясістай глушы
Зашоргалі вострыя пілы.

Па целе смалістым
Сасонак, ялін
Забегала вострае зуб'е.
Смалістыя сосны
Наўкол паляглі
Ад моцнай рукі лесаруба.

І гэтак за працай
Праходзілі дні,
Валіліся дрэвы да долу.
І там,
(Дзе ніколі ніхто і ня сьніў)
Вырастаў рабочы пасёлак.

Была дзе навокал
І цемень, і глуш,
Дзе сум навявала жалейка,—
Прасеклі вякоў
Легендарную мглу
Чыгункі зьмяістыя рэйкі.

Ішлі цягнікі
(Мо' у тысячу тон)—
Гручэлі па рэйках сталёвых.
Падвозілі цэглу,
Цэмэнт і бэтон
Да месца вялікай будоўлі.

А людзі прыходзілі
Зноўку і зноў,
Каб моцнасьцю рук падзяліцца.
Лажылі штодзённа
Зьвяно за зьвяном,
Уздымалі ўвысь камяніцы.

Зьмянілася лесу
Аблічча наўкол,
І нетраў былых не пазнаць.
Там вырас, як волат,
На славу вяком
Магутны лясны камбінат.

**Май, 1932 г.**

---

Р. Хацкевіч

## Разьвітаньне

Ты ня будзеш сумаваць, Ганупя,
Выціраць нязвыклую сьлязу,—
У гарачым сэрцы пад кашуляй
Я цябе на курсы павязу.

Нас жыцьцё аднолькава люляла,
Гадаваў аднолькава нас лёс:
Ты была батрачкай Мікалая,
Пастухом я у Дзяніса рос.

Вось таму
у „**Ленінскую працу**",
Даўшы бой сьмяртэльны кулаком,—
Ты прышла
Дзяўчынаю-батрачкай,
Ну, а я—
Хлапчынай пастухом.

Вось таму, забыўшыся на ўтому,
У штодзённай нашай барацьбе,
Гэтак моцна, шчыра і пяшчотна
Я люблю і працу, і цябе.

Калі дні запахнуць майскім лістам
(Будзе гэткі, дарагая, час!),
Я зьвярнуся добрым трактарыстым
У наш родны, малады калгас!

Дык бывай-жа, любая Ганупя,
Звонкім сьмехам разальлецца сум!
... Вось пад гэтай, вышытай кашуляй
Я цябе з сабою павязу.

Ратуцічы.
Чэрвеншчына.

---

Ал. Пальчэўскі

# У тыя дні

(*Апавяданьне*)

Чацьвёрты дзень дрыжыць Заямніна ў трывозе. Кожны грук на вуліцы, мацнейшая гаворка—выклікаюць неспакой на сэрцы заямнінцаў. Шмат клопату зазнаў Уладзя з гэтым неспакоем. Ні бацькі, ні Хвядоса, ні Алеся ўсе гэтыя дні няма дома. Толькі ён ды маці засталіся на ўсю хату, на ўсю гаспадарку.

Добра, што ночы ўлетку кароткія, ды Ўладзя не такі баязьлівы (яго ў дзяцінстве ніколі не палохалі ўвечары страхамі, не пагражалі жабракамі, мядзьведзямі), а то пакіне маці яго аднаго на такую вялікую хату, а сама пойдзе на вуліцу пагаварыць з суседзямі, паслухаць навіны.

Усё думаецца Ўладзю, але не паддаецца ён страхацьцю. Хай-бы толькі хто-небудзь пачаў палохаць Уладзю—ён доўга не чакаючы хапіў-бы яго накрыжкі і кінуў-бы вобземлю, як кладзе заўсёды Апанасавага Рыгора...

Ледзь чутна ўваходзіць маці ў хату—асьцярагаецца, каб не разбудзіць сына. Але Уладзя ня сьпіць, ён чуе яе крокі і паціху, такім-жа голасам, як мацін крокі, пытае

— Чаму вы мама ня сьпіцё? Вы змарыліся гэтак.

— Боязна, сынок, усё. Грабіцелі гэтыя падпаляць яшчэ, дык пагарым з душамі, жывымі ня выскачым—садзіцца маці на ложак.

Уладзю агортвае жаль—яму шкода сваю старую маці. Яна чацьвёрты дзень, ад таго часу, як выехаў з дому бацька, ня мае супакою, ня мае адпачынку.

— Мама, я буду пільнаваць, а вы сьпеце,— гаворыць Уладзя.

— Ляжы, сынок, не ўставай. Нахадзіўся ты за дзень, твае ног, забалелі,—гладзіць маці русую галоўку сына, а сама хіліцца ніці зьліпаюцца яе вочы.

— Не, мама, мне ногі не баляць,—даводзіць Уладзя і згінае сваю нагу ў калені,—паглядзеце адно.

— Што, сынок, што?—перапытвае маці спрасонку і, не дачакаўшыся Ўладзівага паўтарэньня, дадае:

— Сьпі, от! Сьпі, сынок...

Гэта толькі Уладзя матцы гаворыць так, што не баляць яму ногі, што ён ня змораны, а сапраўды, дык хапіла-ж з яго за гэтыя чатыры дні. Схадзі кожны дзень у Загатычы—ня блізенька гэта.

А бываюць дні—два разы трэба схадзіць. Баляць пад вечар ногі, торгае кроў у жылах, пякуць ступні ад жарствы, ад лясных калючак, але Уладзя нікому ня скардзіцца.

— Час такі трывожны,—думае Уладзя,—каму тут будзеш гаварыць—маці? Дык яна-ж больш як я стомліваецца за дзень, і ўночы,—каторую ноч ужо не адпачывае...

Моцна, на ўсю хату храпе Алена. Уткнуўшыся галавой у падушку сьпіць яна, апусьціўшы ногі на падлогу. Як сядзела пры Ўладзю, так і заснула. Сон неўзаметкі, павольна, схіліў стомленую постаць на падушку, палажыў галаву на правую шчаку, вачыма да вакна, і здаволены перамогаю налажыў на Алену руку свае ўлады.

...Трывожныя дні перажывала Заямніна, неспакойны сон прыносілі з сабою цёплыя, летнія ночы.

---

У канцы заямнінскіх палёў, у густым лесе шмат хто знайшоў сабе прытулак. Ня ведаеш туды ходаў—ніколі ня трапіш. Лясныя нетры ня выдадуць тых, хто ведае іх сьцежкі.

Доўга ішоў Уладзя па лесе са сваімі таварышамі, выкручваліся яны па вузенькіх сьцежачках між густога ельніку, сасоньніку, пакуль ня трапілі да бацькоў, братоў.

Адразу, што кінулася Ўладзю ў вочы, як ён прышоў упяршыню да бацькі—гэта вялізарная колькасьць вазоў.

Тараса каля вазоў ня было. Тут паціху хадзіла некалькі мужчын, якія наглядалі за вазамі, напакаванымі дабром.

— Завядзі ты іх, Мікола, да мужчын,—сказаў адзін з вартаўнікоў, паказваючы на прышоўшых дзяцей.

Той, да каго адносіліся гэтыя словы, устаў з-пад воза, пацягнуўся і павёў цэлы гурт хлапцоў далей у ельнік. Ён паказаў куды катораму ісьці, а сам вярнуўся назад.

Дома Ўладзя апавядаў маці пра першыя свае ўражаньні:

— Ну, каб вы, мамачка, паглядзелі адно, што там творыцца! Вазоў адных—як абоз які. Здаецца, у нашай вёсцы і няма столькі. А коняй, дык нідзе ня ўбачыш. Толькі потым мы знашлі іх у гушчары, нас завёў туды Мікола Саўкаў. Тата казаў, што яны сумысьля коні ад вазоў паадводзілі:

— Можа наляцяць гэтыя халеры, дык тады з коньмі ўцячы лепей, як ня будзем каля вазоў.

— А ты-ж ня бачыў там Алеся, ці Хвядоса?

— Не. Тата казаў, яны далей за імі ў гушчары знаходзяцца.

— Толькі-ж ты, сынок, нікому пра гэта не кажы, а то...—

— Я ведаю, мне тата гаварыў,—перапыняе Ўладзя маці. Ну на што перасьцерагаць хлопца?—ён не з такіх, каб хваліцца кожнаму пра тое, што бачыў ці чуў. Ён знае,—ня ўсё трэба абы каму гаварыць што ведаеш.

Уладзя памятае, як ён, прыехаўшы з начлегу, гаварыў у сваёй хаце.

— Мусіць, зноў будзе вайна, бо надта-ж моцны грукат гармат чулі мы сёньня каля рэчкі. Усю ноч не маглі спаць...

Тады Тарас на Ўладзявы словы сказаў:

— Малы ты яшчэ, каб умешвацца ў такія справы. Маўчы от і не кажы больш нікому, а то дагаворышся—забяруць зноў бацьку...

І Ўладзік змоўк.

Ён бачыў, як у той дзень на заямнінскай вуліцы пачыналі зьбірацца натоўпы людзей, бачыў як адпала ў іх ахвота да працы, як яны не пайшлі з косамі на сенажаць. Адна гаворка, адно сэймікаваньне заўладала заямнінцамі: ратавацца і ратавацца, як найхутчэй.

Увечары Ўладзя сам памог падмазаць бацьку колы, намасьціў у воз маладога, пахучага сена, травы, а маці з Хвядосам і Алесем зьбіралі ўсё каштоўнае, выкладалі з куфра свої палатна, убраньне—зьвязвалі ўсё гэта ў клункі і адносілі на воз.

У тую-ж ноч з напакаваным скарбам ехалі заямнінцы загуменнымі сьценкамі ў цёмны лес...

А назаўтра, каля паўдня ўвесь заямнінскі дзядзінец уставілі хурманкі: тут былі карэты, брычкі, вазы, кары. Па зялёным моры няскошанай сенажаці хадзіла жывёла. Пан даваў апошні баль усім прыежджым паном. Нічога не шкадаваў, нажытага не сваім потам, не сваімі рукамі. Цэлую ноч грала музыка ў пакоях Квяткоўскага. А ледзь сонца паказалася на зямлю—сьціхла ўсё. Па пыльнай дарозе затарарахкалі колы: доўгім гужам пацягнуліся хурманкі на захад. Усьлед за імі ішлі рыкаючы каровы, бляялі авечкі...

Настала гарачая пара.

---

Перад навальніцаю, калі бачыш, як з палёў адзін перад адным сьпяшаюцца з вазамі высушаных снапоў людзі, калі кожны стараецца ўімчаць сухое ў гумно—яшчэ большая трывога ахоплівае істоту чалавека. Бо менш страшна сама навальніца, як момант перад яе пачаткам. Запырскаюць першыя каплі і пачынае паволі супакойвацца чалавек...

У ліпені Заямніна жыло праднавальнічным часам. Уладзя адчуў—надыходзіць нешта страшнае, жахлівае. Час нагадваў леташнюю восень. Толькі тады адбылося ўсё неяк скора, раптоўна. Раніцаю маці ўвайшла ў хату з надворку і сказала:

— Ну, дзеткі, вы сьпіцё, а ў нас ужо другая ўласьць. Невядома ці вернецца хаця бацька з канём?—чулася трывога ў голасе Алены. Раней за братоў усхапіўся Ўладзя з пасьцелі, адзяваўся ён з аднэю думкаю—паглядзець на людзей новае ўлады.

— Чаго там глядзець на іх? Хай яны на сьвет белы не глядзяць сынок!

Але дзе ты ўтрымаеш Уладзю, калі матчыны словы не ўгаворваюць, а больш казычуць, заахвочваюць паглядзець, выскачыць на вуліцу. У момант ня стала хлопца ў хаце. А вярнуўшыся назад Уладзя расказваў:

— Мамачка, якія яны страшныя! Шапкі рагатыя, а гавораць усе не па нашаму... Злосныя, злосныя...

Уздыхнула Алена, аблілася сьлязьмі.

— Ад гэтых, сынок, збавеньня не чакай. Пан дабра ніколі не жадае свайму падуладнаму, як-бы той ні працаваў яму, як-бы ні стараўся. Няхай цешыцца Капусьцінскі, няхай весяліцца Зайковіч— гэта іх радасьць, а для нас новая ўласьць—пакута.

— Яны цяпер стаяць каля Зайковічаў, а Капусьцінскі ўсё нешта расказвае ім, сьмяецца.

— Свой свайго пазнае скора.

Такія былі першыя развважаньні ў Тарасовай хаце пра новых уладароў.

... Не прайшло і тыдня—заямнінцы адчулі на сваіх плячах новыя парадкі. Вечарэла ўжо, калі чатыры ўзброеных коньнікі заехалі на Тарасаў двор Тарас, пачуўшы грукат конскіх ног, выбег з павеці, абвёў вачыма няпрошаных гасьцей і міжвольна падбег да сьвінушніка, замкнуў яго і стаў прыпёршыся плячыма да дзьвярэй. Коньнікі здагадаліся дзе спажыва—кінуліся да Тараса.

З хаты павыскакалі Алена, Хвядось, Алесь. Гэта паскорыла напад. Адзін з коньнікаў, высокі, чарнамазы падбег і штурхнуў Тараса ад дзьвярэй. Той кінуўся вобземлю, але-ж у гэты міг усхапіўся і адкінуў лягіена, што прабаваў ламаць замок.

— Мяне, брат, голымі рукамі ня возьмеш. Я праз пазыцыю прабраўся дахаты...

Тады другі лягіён хвасянуў Тараса праз усе плечы бізуном.

На гэты час з другога канца вёскі прыбег Уладзя са сваімі таварышамі. Ён глянуў на разадраную бацькаву рубашку і, нічога ня кажучы, з лямантам выскачыў на вуліцу.

На крык Уладзі беглі ўсе: малыя, дарослыя, старыя. Праз некалькі хвілін на Тарасовым двары гудзеў вялікі натоўп заямнінцаў, а Уладзя ўсё яшчэ плакаў і крычаў, стоячы пасярод вуліцы. Па твары яго цяклі рагамі сьлёзы, ён выціраў іх зрэбнаю рубашкаю і гукаў на ўсю моц, усхліпваючы:

— Та-ту б'юць! Б'юць та-ту!

Гэта было пад вечар. А назаўтра Заямніна абкружылі вялікім ланцугом лягіёнаў. У вёску прыехаў разам з камэндантам пастарунку пан Квяткоўскі.

Сагналі ўсіх людзей пад Зайковічаву хату. Хмуры стаяў натоўп, чакаў прысуду.

Закурыў камэндант папяросу, усьміхнуўся тым, што стаялі наперадзе і лагодна распачаў гаворку:

— Так, панове, вы значыць новай уладай нездаволены?

— Мы, пане...

— Так, так, разумею. Шкода бальшавікоў вам?

— Бальшавікі, пане, як сабе не кажэце, хоць і галодныя...

— Знаю, знаю, не кажы больш,—перабіў Квяткоўскі.

Камэндант падыходзіў з другога боку.

— А скажэце, у каго хацелі ўчора купіць нашы жаўнеры парсюка?

— У мяне, пане. Але яны ня куплялі, а так хацелі забраць, рабавалі.

— Ага так. А хто-ж вам памог ня даць.

— Ды от свае людзі. Цімох, Антось,—паказаў у натоўп Тарас,—настаўнік слова закінуў.

— Так. Значыць, арганізаванае паўстаньне супроць улады на чале з настаўнікам.

— Што вы, пане, што вы? Якое паўстаньне?..

— Мы толькі свaё абаранялі,—загаманілі з натоўпу.

— Маўчаць! Разьюшаныя хамы. У турмах пагнііцё...

... Бяз путаў, бяз ланцугоў стаяў скованы натоўп.

Камэндант з Квяткоўскім наводзілі парадкі.

— Зараз яшчэ за разрабаваны маёнтак адкажаце. За спустошаную зямлю заплаціце ў дзесяць разоў.

— Чужым не забагацееш!—цешыўся Зайковіч.—Я казаў: ня сейце на панскай зямлі, не гнявеце Квяткоўскага, цяпер няхай паскачуць.

Уладзю ў сёньняшняй цішыні ўспамінаецца той час надзвычайна яскрава.

Тады-ж забралі з сабою ў дэфэнзыву Тараса, забралі Цімоха, забралі настаўніка, забралі Мікалая і Алеся. Тады-ж Квяткоўскі на першы пачатак перагнаў з заямнінскіх хлявоў у сваю абору 12 кароў. Плакалі маткі, плакалі дзеці ў Заямніне, як забіраў нядоеныя каровы увечары панскі цівун з жандарамі. Самі заямнінцы вазілі сена, ярыну з сваіх гумнаў.

Новыя людзі прышлі з новымі, адменнымі парадкамі.

Уладзю цяпер уяўляецца, як варочалі ўсё ў іх хаце, як штыхамі ўзрывалі падлогу, як забралі іх „Лысу“.

Тады-ж Уладзя чуў—адзін з лягіёнаў, стоячы на варце, каля іх варот гаварыў другому:

— Мучаць нявінаватых людзей. Самі заварылі ўсё, а цяпер шукаюць каго пакараць, каго ўстрашыць.

— Ціха, камэндант ідзе,—шапнуў другі і выцягнуўся на ўвесь рост.

... Праз тры месяцы вярнуўся Тарас з Цімохам дахаты, а настаўніка і двух другіх хлапцоў так і ня ўбачылі больш у Заямніне.

Адны казалі—іх выслалі ў глыб Польшчы, а другія даводзілі, што з імі разьлічыліся, як з паўстанцамі. У дэфэнзыве-ж сваяком адказалі коратка, адказалі з насьміханьнем: „Узнагарода выдаецца па заслугах“.

Вярнуўся Тарас з дэфэнзывы ўночы. Уладзя і гэты момант добра памятае. Яны чакалі бацькавага звароту кожны дзень. Ноччу прыслухоўваліся ці не пачуецца яго хада.

— Тата прышоў, тата вярнуўся,—узрадаваўся Ўладзя, як увайшоў бацька ў хату.

Вярнуўшыся Тарас нічога не расказваў. Сказаў адно, што пусьцілі іх саўсім.

Не самкнуў больш вачэй у тую ноч Уладзя. Ён прыслухоўваўся да бацькага сну.

— Мама, чуеце, як стогне тата? Чаго гэта ён так?

— Білі, сынок, тату. Моцна білі, каты гэтыя.

— А за што яны білі?

— Сьпі, Уладзічак, ня думай пра гэта. Захоча пан пакараць, дык знойдзе прычыну зрабіць чалавека вінаватым,—папраўіла маці сыну падушку і сама павярнулася на другі бок.

Але Ўладзю сон ня браў. Яму хацелася стаць скарэй вялікім, каб адплаціць за бацькаў стогн, за бацькавы пакуты.

А панскія парадкі ўваходзілі ў сілу: аднагаловы арол упіваўся кіпцюрамі ў жывое цела працоўных. Ярмом прыдушвалася бурлівасьць. Штыхамі падтрымлівалася права.

---

Не пашанцавала сёньня Ўладзю. Чатыры дні хадзіў, нічога не здаралася, а сёньня так не пашанцавала. І ўсё сам вінаваты, бо і сёньня, як і тыя дні, перад адыходам маці перасьцерагала;

— Глядзі, сынок, ня ідзі па дарозе, не ганіся, што сюдою бліжэй. Асьцерагайся, а то будзе работы.

— Не. На што гаварыць?.. Хіба я ня ведаю сам?—нават трохі пакрыўдзіўся Ўладзя.

— Памятай, сынок, каб хаця... нешта яшчэ хацела сказаць Алена, але Ўладзя быў ужо за дзьвярыма.

.. Мяжою між высокага жыта ідзе Уладзя. Гойдаюцца сьпелыя каласы ядранага збожжа. Яшчэ 3—4 дні і востры серп зашуршыць каля кораня, зрэжа сьпелую ніву важкіх каласоў. Іншым пачне выглядаць поле: высокія мэндлікі будуць стаяць уздоўж палосак, як вартаўнікі, панакрываўшыся шапкамі, пакуль не зьвязуць іх сухіх у гумно.

Ідзе Уладзя, цешыцца прыгожасьцю. Успамінаецца яму верш пра жаўцеючую ніву. Той верш вучыў Хвядос на памяць, а ён малы слухаў яго і ўсьлед за Хвядосам вывучыў.

— Якое харaство навакол! —прабегла думка, а ўспомніў пра вёску і жах ахапіў—у Заямніне нікога няма, іх вёска апусьцела...

Уладзявы думкі перабіла птушка, што каменем кінулася з вышыні.

— Што-ж бы гэта такое з ёю?—зьдзівіўся раптоўнасьці Уладзя,—адно з двух: ці якое няшчасьце здарылася, ці яна тут вядзецца,—вырашае ён, і стаўляе на зямлю збанок, кладзе каля яго хлеб і нагінаецца шукаць птушкі. Паціху крадзецца Уладзя. Вось ужо зусім блізка, два крокі засталося падыйсьці, а яна:

— Фыр-р,—і зноў проста над галавою сьвідруе паветра.

— Ды гэта-ж жаваранка!—узрадаваўся Уладзя. І цяпер яшчэ большая цікавасьць прыцягнула яго ўвагу.

— Думай ты, якая яна, махае, махае крыльлямі і ўсё ляціць проста ўверх. А адтуль, як камень назад імчыцца і ня ўдарыцца.

З такімі думкамі прастаяў Уладзя некалькі хвілін. Палажыўшы руку на лоб, каб не траплялі ў вочы праменьні сонца, ён глядзеў на жаваранкаў, а тыя ўсё кружыліся над ім, заліваліся пералівамі сьпеваў. Ім адным ня было цяпер клопату аб трывожным часе. Блакітная вышыня ня мела межаў, ня мела загародак—птушкі вольна ляталі ва ўсе бакі, наглядалі адтуль, як паўзьмежках украдкаю прабіраліся людзі з вёскі ў лес, а з лесу ізноў у Заямніна.

Ляскатаньне колаў парушыла Уладзява нагляданьне. Ён азірнуўся налева і заўважыў—на дарозе ўзьнімала пыл нейкая фурманка. Стаў на дыбчыкі, прыглядзеўся больш—з боку ідуць людзі, у аднаго з іх на плячох стрэльба.

— Лягіёны!— мільганула думка. Бягом кінуўся па збанок і ў хлеб. Схапіў іх і даў ходу па ўзьмежку ды толькі позна было—гэта заўважылі белапалякі.

— Стой! Сто-ой!—прарэзаў крык.

— Ба-ах, ба-ах!—глуха паўтаралі слова стрэлы.

Але ні ўзяць ім Уладзіка запалохваньнем. Густое жыта схавала яго ад вачэй ворага.

— Не паслухаў маці, а яна добра навучала,—казыча думка.

— Каб ня птушка, дык усё добра было-б—перабівае другая.

Далёка прабег Уладзя. Ужо і лес блізка. Спыніўся, паглядзеў навокал—нідзе нікога ня відаць. Пасьмялеў трохі. І пашоў павольнаю хадою да бацькі. Яшчэ далекавата да таго месца, дзе стаяць коні, а Уладзю сустрэлі мужчыны. Твары іх устрывожаныя.

— Па кім гэта стралялі?

— Ты адзін ішоў?—пасыпаліся пытаньні.

— Лягіёны мяне забіць хацелі.—Перапалоханым голасам адказаў Уладзя.

— Адкуль яны ехалі?

— З Навінак.

— З Навінак?—перапытаў Міхась Плостак.

— А чаго ты ішоў тудою?

— Я ішоў сьценкай, а яны ўбачылі і пачалі страляць,—зманіў Уладзя.

— Чаго-ж бы іх ліха гнала сюдою?

— Але, што ім тракту няма?

— І шмат ехала?

— Я ня ведаю пэўна. Бачыў толькі, што ішлі каля возу.

— Адкуль яму ведаць гэта,—уступіўся Міхась.

... Назад Уладзю вывяў з лесу бацька.

— Ідзі-ж, сынок, сюдою, каб зноў не папаўся на вочы ім,—паказаў Тарас больш глухую сьцежку, што выходзіла ў другі канец іхняе вёскі.

---

Гэроем ідзе Уладзя дахаты. Ото будуць яго таварышы дзівіцца, як даведаюцца пра здарэньне. Ён ідзе мяжою, зрывае сінія званочкі і, падкінуўшы іх угору, ловіць нахаду. Уладзю ўсё тут знаёма. Гэта самыя далёкія іхнія палеткі. Летась увосень сюды прыводзілі на маладую атаву пасьвіць коняй. Ах, як гэта было весела!

— Будзе і сёлета добра, як усё супакоіцца, як вытураць паноў,—думае Уладзя.—Зноў будзем прыводзіць раніцою на іржэўнік коні, як сажнуць жыта, зноў будзем пячы бульбу...

Жніво для Уладзі—вялікая радасьць. З дому ён прыносіць на поле полудзень, ходзіць па ваду збанком у крыніцу, а пад вечар разам з бацькам зносіць снапы. Уладзя ведае, што калі надвор'е ня выглядае на добрую пагоду, дык авёс трэба складаць у крыжыкі, таксама, як складаюць малое жыта. Яго навучыў бацька, як класьці першыя снапы на зямлю, каб не прарасталі яны ад вільгаці ў дажджлівае надвор'е.

За кожны колас, за кожнае зярнё дрыжыць бацька.

— Усё менш купляць прыдзецца ўвесну, а то вечна бясхлебіца ды бяскорміца не дае дыхнуць,—вучыць Тарас Уладзю і ў словах яго чуецца скарга на сваю долю, на сваё жыцьцё. З маленства прывучае ён сына шанаваць мазольную працу.

Перапоўнены марамі, Уладзя захапляецца тым, як ён будзе зносіць снапы, як увечары разам са ўсімі жнеямі будзе ісьці дахаты, а яны зацягнуць вясёлую песьню, ад якой рэха разьнясецца далёка па абшарах палеў...

— Мальчык, а мальчык,—чуецца голас у аўсяным шэпце. Спалохаўся Уладзя незнаёмага голасу, крокі павялічыў, галаву павярнуць баіцца.

А просьба ўсё мацней і мацней даносіцца да Уладзі.

— Слухай, мальчык, слухай. Толькі на адну мінутку...

Спыніўся Уладзя, глянуў направа і стаў, як укопаны. На трэцяй мяжы, прысеўшы на куркішкі, выглядала паверсе аўса чалавеча» галава з ускудлачанымі валасамі.

— Сюды падыйдзі, сюды,—ківае пальцам чалавек.

— А што, калі гэта лягіёны?—набягае думка.

— Ня бойся, хадзі сюды,—зноў чуецца голас.

— Пайду,—вырашае Уладзя,—а як спытаюць адкуль іду, дык скажу: „хадзіў памагаць маме бярозку рваць“.

Сьмелымі крокамі ступае Уладзя на зямлю, расхінае ў бакі авёс, каб не патаптаць яго надарма, каб ня зброджваць без патрэбы ярыны.

— Ну вось і малайчына!—усьміхаецца чалавек, што клікаў.

Глядзіць Уладзя на яго і вачам сваім ня верыць: на мяжы ляжыць зялёненькі шлём з нашытаю зоркаю малінавага колеру, на папрузе шабля вісіць з боку, а ў левай руцэ вінтоўка.

— Вы бальшавік?!—здагадаўся Уладзя.

— Ціха,—шапнуў незнаёмы,—садзіся!

Тады яшчэ большая радасьць ахапіла Уладзю. Захацелася раптам расказаць у гэты міг пра тое, як зьбілі жандары бацьку, як загінуў бяз ведама настаўнік з іхняе школы, а яны ўсю зіму ня вучыліся праз гэта.

— А я думаў ты не асьмелішся падысьці,—усьміхнуўся чырвонаармеец.

— Я сьмелы,—азывіўся Уладзя пачуўшы пахвалу з вуснаў незнаёмага яму чалавека. Па мне сёньня лягіёны стралялі, а я ўцёк.

— Даўно?

— Пасьля абеду. Яны ехалі з Навінак у нашу вёску, а я ішоў сюды, дык яны думалі, мусіць, што я бальшавік.

— А цяпер ці ёсьць у вашай вёсцы лягіёны?

— Я ня ведаю, можа і ёсьць, калі не паехалі. Яны хацелі нашу вёску спаліць пазаўчора. Усё коняй дамагаліся ў абоз.

— А ў вёсцы ня далі коняй?

— Не, нашых коняй няма дома, забралі ўсіх у падводы,—адказаў Уладзя так, як адказвалі ўсім у Заямніне, калі хто пытаў пра іхнія коні.

---

Скора здружыў Уладзя з чырвонаармейцамі. Недалёка ад таго месца, дзе яго спыніў той высокі, з загарэлым, нябрытым тварам чырвонаармеец, у ляску было яшчэ трох яго таварышоў. Яны стаялі каля коняй і чакалі чацьвертага. Чырвонаармейцы з дарогі ўбачылі як мяжою ішоў Уладзя. Тады збочылі ў лясок, прыпыніліся тут і адзін з іх прыгнуўшыся пабег па ярыне на пярэсьцігі, к Уладзю.

Згаладаныя коні абшморгвалі зубамі з маладога бярэзьніку лісьця і жавалі іх. Надаедлівыя сьляпцы не давалі ім тхнуць. Коні

раз по разу стукалі капытамі аб зямлю, выгнуўшыся хваталі за свае бакі, ляскаючы зубамі,—адганялі назолу.

— Ідзе з некім. Крадуцца ўдвух па мяжы,—сказаў адзін з чырвонаармейцаў, што ўвесь час выглядаў праз густы лясок на поле. Сказаў і твар яго расплыўся ў вясёлую ўсьмешку, радасьцю заіскрыліся вочы.

— Ну, вось вам яшчэ адзін разьведчык,—далажыў чырвонаармеец, падышоўшы з Уладзем да сваіх таварышоў.

— Дзе ты яго адшукаў такога?—спытаў адзін.

— Малы ён для разьведчыкаў,—адказаў другі.

— Малы, але сьмелы. Па ім сёньня белапалякі стралялі.

— Яны крычалі: сто-ой, сто-ой, а я ходу ад іх, дык яны давай тады па мне пыляць,—дадаў Уладзя да слоў чырвонаармейца.

— Малайчына, малайчына,—пахвалілі і гэтыя чырвонармейцы Уладзю, а ён толькі ўсьміхаецца ад задаволенасьці. Хочацца яму яшчэ больш расказваць чырвонаармейцам што небудзь аб сабе. Але тыя раяцца, абмяркоўваюць далейшы шлях.

— А я гэты лясок ведаю. Мы сюды па грыбы прыходзілі летась. Тут баравікі надта родзяць,—пачаў апавядаць Уладзя з адною думкаю,—выклікаць на гаворку чырвонаармейцаў.

— Многа?—спытаў адзін з іх.

— Шмат бывае, але сюды усе прыходзіць, дык вызьбіраюць скора.

— Ідзі сюды, мальчык,—паклікаў Уладзю той чырвонаармеец, што прывёў яго ў гэты лясок,—раскажы, якімі сьцежкамі прайсьці да Заямніна, каб ніхто не заўважыў.

— Я правяду вас. Ніхто ня ўбачыць.

... Паціху ідуць яны, у руках за павады коняй вядуць, да кожнага руху, шэлесту прыслухоўваюцца. Паперадзе ідзе Уладзя, радасьць у яго нявыказаная на сэрцы. Каб гэтак ня было тут чырвонаармейцаў, дык ён напэўна скакаў-бы цяпер праз межы, праз кусты быльніку, выяўляючы ў гэтым сваю радасьць. Як сабе не кажэце—ёсьць чаго цешыцца: ён першы вядзе тых, хто выратуе іх вёску ад пакуты, ад гвалту.

— Вось і Заямніна за гэтаю горкаю,—паказвае Уладзя,—у лагчынцы яно стаіць, можа сто крокаў адгэтуль.

Крадуцца мяжою Уладзя і два чырвонаармейцы. Высокае жыта на загуменнай паласе хавае ад людзкога вока першых весьнікаў волі.

— Вы чакайце тут, а я пайду на вуліцу, пагляджу, што там робіцца, спытаю ў мамы пра лягіёнаў.

— Толькі не кажы нікому, нават і маме сваёй, што мы тут.

— Не. Не. Я гэта ведаю,—сур'ёзна сказаў Уладзя і зьнік між будынкаў.

---

Гадзін чатыры стаяць ужо на вуліцы тры лягіёны з хурманкаю. Распрэжаны конь ляжыць каля воза. Прытуліўшыся да плоту, ён глядзіць сваімі асалавелымі вачыма на азьвярэлых людзей, абыякава ўспрымаючы іхнія пабоі кійком, штуршкі наскамі ботаў, пагрозы. Сухія ногі ня могуць узьняць зьнясіленага цела.

Лягіёны ахоплены роспаччу.

— Што мы будзем рабіць?—пытаюць адзін другога.

Перад імі шляхоў няма. Кінуць кулямёт—пакарае палявы суд. Іх часьць ня лічыцца на пазыцыі, а кідаць у такіх выпадках кулямёт ня можна. Несьці яго на сабе —далёка не панясеш. Ды і невядома, дзе яны напаткаюць сваю часьць. А тут, з кожнаю хвілінаю сонца апускаецца ніжэй, каб заўтра засьвяціць новым, радасным сьвятлом. Надыходзіць ноч, хоць летняя, кароткая, але ўсё-ж такі ноч са змрокам.

— Напэўна і самі мы ня трапім да сваіх і кулямёта не даставім,—падаў адзін лягіён думку поўную роспачы і разьбежнасьці.

— Як-то не? Мы мусім быць у сваёй часьці. Што ты за ваяка, калі думаеш барбарам - бальшавіком жывым у палон аддацца!—Ускіпеў другі,—я зараз дастану каня, сказаў трохі сьцішаным голасам.

— Ты ўжо некалькі разоў хадзіў і не дастаў..

— Я іх вёску спалю, застрэлю каго-небудзь, а дастану каня,— і пайшоў уздоўж вёскі.

На вуліцы былі тыя лягіёны, што стралялі па Уладзю. У Румку яны больш забавіліся, чым гэта трэба было і там адсталі ад сваёй часьці. Зблудзіўшы ў Навінках,—накіраваліся ўсьлед за коньнікамі, што ехалі на Заямніна. Коньнікі доўга ў Заямніне не стаялі і пакуль прыехалі сюды гэтыя трох лягіёнаў—іх ужо ня было. Тут у апошні раз конь адмовіўся слухаць і гаспадара свайго і прыганятых— лягіёнаў.

Гаспадар сядзеў цяпер на цімохавых весьніцах і глядзеў, як дайходзіў яго карміліц-конь. Глядзеў на клункі награбленай у Румку вопраткі і думаў:

— Панясеці цяпер самі і кулямёт і нарабаваную маёмасьць Думалі, канца краю ня будзе вам. Апошняе багацьце у людзей забіралі...

Зьнячэўку захапіў лягіён Уладзю на вуліцы—ні даў дайсьці яму дахаты.

Дзьве розныя думкі мільганулі ў іх, калі глянулі адзін на другога.

— Вось зручны момант! Тут будзе больш адвагі, як сёняшнія ўцёкі з-пад страляніны,—падумаў Уладзя.

— Вось хіба, хто мне скажа, дзе коні,—падумаў лягіён і, падышоўшы пад самага Уладзю, згроб яго за зрэбны каўнер рубашкі.

— Дзе конь? Дзе ойцец?

Зьбялеў Уладзя. Спалохаўся, маўчыць

— Гавары дзе?

— Я ня ведаю.

— Ведаеш, псякрэў. Гавары дзе?—і моцна страсянуў Уладзю.

— Тут яны ўсе,—паціху захоўваючы ад людзкіх вушэй выкрыцьцё вялікага сакрэту, прамовіў Уладзя.

— Дзе тут?—узрадаваўся першай удачы лягіён.—Пойдзем, і ён ня выпускаючы з рук Уладзю павёў яго да хурманкі, дзе стаялі яшчэ два лягіёны.

Пачула гамонку Алена, выскачыла яна на вуліцу. Заламала рукі, з просьбаю кінулася на дапамогу сыну.

— А паночкі мае, што-ж вы робіце з дзіцём? Ды ён-жа нічога ня ведае.

— Адступіся, а то дастанеш бізуна,—пагразіў лягіён ня выпускаючы Уладзю.

— Сыночак ты мой, што ты натварыў?—прыгаворвала маці ідучы ўсьлед. Сям-там з хат пачалі выходзіць на вуліцу жанкі, спатайка глянуць на новы гвалт.

— Ну прапала, цяпер ўсё.

— Трасцу, яны пабаяцца ісьці ў лес напач.

— А чаго-ж яны тут дачакаюцца?—чуліся развражаньні між жанок.

— Дайце рады,—плакала Алена,—вышаў хлапец на вуліцу, а ён увабраў яго за карак ды давай дамагацца, пагражаць, каб сказаў дзе коні.

— Ну і ён пойдзе паказваць?

— Мусіць павядзе, спалохаўся вельмі. Дзіця, што вы хочаце,— плакала Алена.

— Дык трэба перасьцярэгчы мужчын,—калі так вышла,—парадзіла Агата.

— Янэк, пойдзем, гэты хлапчук знае дзе коні, а ты, Змыслоўскі, будзь на варце,—аддаў загад сваім падуладным камандзір кулямёта.

---

Неахвотна ідзе Уладзя, упіраецца, але яго падганяюць, цягнуць наперад.

Вось яны мінулі ўжо гумно, садок за гумном. Уладзя чуе адрывісты голас зязюлі. Апошнія дні кукавала яна ў тым годзе, як дажывалі апошнія дні паны ў сваіх маёнтках, войты ў гмінах, а жандары па дэфэнзывах.

Вядзе іх сьцежкаю Уладзя, а сам адно думае: „Як-бы знак падаць? Дрэнна, што ня ўмовіліся на ўсякі выпадак“.

А вось і месца, дзе яны знаходзяцца. Прыглядаецца Уладзя. Толькі некалькі крокаў прайсьці праз Тарасава поле і яны там.— Хаця каб не заснулі на мяжы, непакоіцца ён,—а то ўсё прападзе.

Чуюць чырвонаармейцы хаду людзкіх ног, а баяцца падняць галаву, паглядзець хто там. Разьведка—рэч асьцярожная: выдасі сакрэт—ўсё загінула і сам прападзеш.

— А можа хлопец здрадзіў?—трывожыць думка,—можа вядзе на нас лягіёнаў? Што рабіць?—Поглядам сваіх вачэй пытаюць адзін у аднаго чырвонаармейцы і мацней сьціскаюць у руках вінтоўкі.

У гэты час заплакаў Уладзя.

— Мае дзесяць капеек тут кінуліся. Пусьцеце мяне,—я пашукаю іх.

— Янэк! дай яму дзесяць капеек, чуюць чырвонаармейцы.

— У мяне няма,—даносіцца праз хвіліну адказ.

— Но ідзь, заўтра знойдзеш,—цягне за каўнер лягіён.

— Я заўтра забудуся дзе шукаць,—настойвае Уладзя, а ў самога адна думка: „як-бы выклікаць іх?"

Бачыць Уладзя—усё спакойна, тады кінуўся ён на зямлю і нарабіў крыку:

— А ма-амачка, ратуйце, б'юць!

— Нам сыгнал,—шапнуў чырвонаармеец і даў знак раптоўнага налёту.

Некалькі скачкоў па схіленым жыце і... крык

— Рукі ўгору!—прарэзаў надвячорную ціш.

... Зьбянтэжаныя стаялі лягіёны з паднятымі ўгару рукамі. Не чакалі яны, што сьпелыя каласы жыта ператворацца ў сталёвыя рулі вінтовак, а белыя хустачкі жней— у зялёныя шлёмы з чырвонаю зоркай. Усяго маглі чакаць яны ды толькі ня гэтага, бо не здаралася ім бачыць цуды за ўвесь час свайго жыцьця, а гэта вышла для іх сапраўдным цудам, сапраўдным дзівам.

— А што знайшлі коняй? Паедзеце цяпер?—сьмяяўся Уладзя, а лягіёны скрыгіталі зубамі, лаялі самі сябе за неасьцярожнасьць.

— Ай, малайчына ты, Валодзя, ай-да разумнік,—хвалілі чырвонаармейцы Уладзю, абмацваючы кішэні лягіёнаў.

— Я вам казаў, што я сьмелы,—усьміхаўся Уладзік.

---

Як забіты спаў гэту ноч Уладзя. Назаўтра раніцаю, калі сонца ледзь-ледзь паказала свае першыя праменьні—Заямніна жыло новым жыцьцём.

— Уладзік, Уладзік! Сынок, уставай ты, ды глянь на сьвет белы,—радасным голасам будзіла сына Алена.

Уладзя ўсхапіўся і ня можа ўцяміць дзе ён: па хаце тупае бацька, прыглядаецца больш—нейкі знаёмы чырвонаармеец сядзіць.

— Не пазнаеш?—усьміхаецца ён.

— Хвядос?—крычыць Уладзя і кулём саскаквае з ложку.

— А мы, сынок, думалі, што вы загінулі дзе-небудзь, бо ведама-ж ніякае весткі, ніякага слыху ні ад вас, ні пра вас,—рыхтуючы сьнеданьне дарагому госьцю жаліцца Алена.

Яна расказвае Хвядосу пра здарэньні за гэтыя дні.

— Дык учора і Уладзік наш таксама адлічыўся. Я думала, што ён натворыць бяды, ажно па інакшаму вышла.

— Уга, бяды... Вы мне ніколі ня верыце,—загневаўся Ўладзя.

— Ну, ну, што ён такое зрабіў?—палажыўшы на стол ложку зацікавіўся Хвядос.

— Ты еш, сынок, еш, а я буду гаварыць.

— Мама, я сам раскажу.

— Ты так не раскажаш. Ідзі лепей памыйся ды будзеш сьнедаць з Хвядосам.

І маці расказвае сыну. Здаецца шэсьць дзён не такі вялікі час, а колькі навін назьбіралася ў Алены. Ужо болей, як гадзіну, яна апавядае Хвядосу пра жыцьцё апошніх дзён, а ён час ад часу дадае аб сваім. Яшчэ ня скора скончыць Алена нават з большага, гаварыць пра перажытае. На гэта трэба цэлыя дні, каб перадаць усё тое, што адбылося за час іхняе разлукі.

— Сьпяваюць недзе, чуеце?—настаражыўся Ўладзя, выціраючыся ручніком.

„Все пушки, пушки грохотали,
Трещал наш пулемет.
Паны по-удирали,
Товарищи вперо-од"...

Словы разносіліся па вуліцы, заляталі ў хаты і выклікалі на сустрэчу дарагіх гасьцей.

У Заямніна ўваходзілі першыя калёны пяхоты.

Хвядос глянуў ў акно:

— Наша часьць. Яны тут трохі адпачынуць.

— Дык і ты ўжо разам з імі пойдзеш, сынок.—Падышла Алена к сталу.

— Разам, мама, разам. Яшчэ далёка наша апошняя астаноўка.

— Хай-бы можа бацька падвёз цябе?

— Ёсьць каго, мама, падвозіць, а не мяне,—глянуў у матчыны вочы Хвядос.

Уладзя бягом выскачыў на вуліцу. Калёна павольна спынялася.

— Прывал-ал,—пачулася працяжная каманда. У адзін момант ад стройнае калёны не засталося ніякага сьледу. Чырвонаармейцы разьбегліся па хатах, толькі два адразу-ж падышлі да камандзіра.

Яны хвіліну нешта гаварылі і пашлі разам утрох уздоўж вуліцы.

— Вось тут, на гэтым месцы, мы узялі іх,—паказаў чырвонаармеец на зьнясіленага каня, што ляжаў каля плоту яшчэ ад учарашняга.

— Дзе-ж вы кулямёт дзелі?

— Зараз, таварыш камандзір, прынясём,—і яны пашлі па ўчарашніх сьцежках.

... Трэцяга лягіёна і прырыхтаваны да стральбы кулямёт ім удалося ўчора лягчэй забраць, чым першых двух. Уладзя правёў чырвонаармейцаў загуменьнем і яны паціху, неўзаметкі вышлі на вуліцу. Лягіён сядзеў на возе і ня думаў зусім, што ў перапранутай вопратцы вернуцца другія людзі.

Праз некалькі хвілін чырвонаармейцы былі каля сваіх таварышоў. Кулямёт з сабою яны не панесьлі. Пранёс яго трохі адзін загуменнаю сьценкаю і выняўшы замок пакінуў, каб ніхто ня ведаў, у жыце.

Гэта было ўчора, а сёньня яны пашлі па яго, па сваю здабычу,

---

Вельмі ж узрадаваўся Ўладзя свайму падарунку. На адным месцы хвілінкі пастаяць ня можа. А хлопцы, таварышы Ўладзявы, зайздросьцяць яму, водлазу ад іх няма, усё просяць „пакажы", ды „пакажы" ім. Ня далі адысьціся нават.

Вось Петрык, найлепшы таварыш Уладзяў, трымае ў руках сваіх яго падарунак. Пакручвае, памераць хоча, але Ўладзя перапыняе:

— Вытрыся, а то папэцкаеш.

Пакуль Петрык абцірае рукавом свой твар, Уладзя дае глядзець другому таварышу—Юзіку. Надзеў той і нацешыцца ня можа, уяўляючы, што гэта яго падарунак, але Ўладзя напамінае:

— Аддавай назад.

— Ай-ей, шкода табе вельмі,—загневаўся Юзік.

— Ня шкода, а заслужыць трэба раней.

— А ён табе ідзе добра,—яшчэ большую ахвоту і замілаваньне выклікаюць хлопцы.

Але Ўладзя ня можа стаяць тут больш з імі, калі матцы, бацьку Хвядосу ён не паказваў яшчэ свае заслугі.

Кулём бяжыць Уладзя дахаты паказаць сваю ўзнагароду, а таго н.л ведае, што і маці, і бацька, і Хвядос бачылі ўсё гэта самі. Бачылі, як ён чырванеў, калі браў свой падарунак, чулі, як камандзір спытаў:

— Колькі табе гадоў?

— Чатырнаццаты ад Сёмухі пашоў, казала мама,—бойка адказаў Уладзя.

— А як-жа цябе зваць?

— Валодзя.

— Малайчына ты, Валодзя. Слаўны хлопец. Падарунак табе даць трэба за такую справу. За гэта цэлая ўзнагарода належыць. Толькі што-ж бы даць?—ні то пытаючы ў каго, ні то сам сабе прамовіў камандзір.

А Ўладзю толькі гэтага і трэба было. Ён доўга ня думаючы, выказаў сваё пажаданьне:

— Мне каб шлём, вось такі, зялёны з чырвонаю зоркаю.—Ён надта-ж Уладзю спадабаўся ўчора, калі ўбачыў яго у руцэ чырвонаармейца на мяжы.

— Гэта можна—усьміхнуўся камандзір.

Паволі сыходзіліся чырвонаармейцы, заямнінцы паглядзець што за натоўп сабраўся сярод вёскі. А камандзір гаварыў:

— ... Адзін з іх ідзе ў маёй часьці, другі таксама змагаецца недзе з панамі і трэці, якому толькі чатырнаццаты год пашоў, паказаў сябе гэроем... Перад вамі, таварышы, вялікая задача. Гэраічная Чырвоная армія вызваліла працоўных ад белапольскіх зьдзекаў, а вы дапаможэце цяпер дабіць паноў. Дайце для змаганьня з імі сваіх сыноў, братоў, дапамагайце Чырвонай арміі хлебам, хурманкамі...

Усе праціскаліся наперад, каб лепей пачуць што гаварыў камандзір, усе хацелі бачыць таго, з каго гаварыў ён браць прыклад. Бо шмат хто, нават, з заямнінцаў ня ведалі яшчэ пра Ўладзяву заслугу.

... Праз момант камандзір сказаў, паглядзеўшы на гадзіньнік: мы трохі забавіліся. Час ісьці наперад у новы пераход, і скамандваў:

— Калёна стро-оіцца. Кулямёт і патроны забраць на хурманку. Замок увінцеце, каб зброя была у спраўнасьці.

Перад адыходам Цімошыха прыімчала ўверчаны у шматок белае хустачкі хлеб і кавалачак сухога сыра:

— Вазьмеце з сабою, а то вы ўсё нам гаварылі, растлумачвалі, а самі нічога не перакусілі,—падала яна камандзіру.

— Дзякую,—сказаў ён нахаду і зьвярнуўся да калёны:

— Сьпяём можа?

— Давайце.

Зноў гукі бадзёрае песьні панесьліся ў прастору.

... Уладзя прыбег з падарункам пад сваю хату, тады, як калёна была пастроена ўжо на вуліцы, а Хвядос разьвітваўся з маткаю каля весьніц. Тут-жа стаялі суседкі, абкружыўшы і Хвядоса і Алену.

— Ну, мама, мне пара. З татам яшчэ ў дарозе пабачуся.

— Як скора прабегла гэта гадзіна з табою,—уздыхнула маці.

— А пра Алеся не бядуйце. Будзем жыць, дык убачымся. Ён можа таксама, як і я чырвонаармейцам ўжо служыць, калі не змагаецца дзе-небудзь з лесу разам з другімі партызанамі.—І Хвядос нагнуўся пацалаваць, можа ў апошні раз, матчыну руку.

— Ай-ёй, як загарэла твая шыя за гэтыя дні, сынок,—толькі цяпер заўважыла Алена, як-бы ёй больш ня было чаго сказаць.

Трывожны час, бяссонныя ночы зьмяніліся ў Заямніне новымі днямі, зьмяніліся жыцьцём поўным радасьці, барацьбы, надзеі, сьветлай будучыні.

---

Зноў калёна рушылася ўздоўж вуліцы, а з боку каля чырвонаармейцаў ідзе Ўладзя. Паказвае Хвядосу свой падарунак, нацешыцца ім ня можа. Вось яны мінулі апошнюю заямнінскую хату, вышлі ў сьпелыя жытнёвыя палі, а Ўладзя усё ідзе. Ён апавядае брату аб сваіх прыгодах за апошнія дні. Расказвае, што гаварыў камандзір, як даваў яму шлём.

Слухае Хвядос Уладзяву гаворку, радуецца з свае зьмены. Ня хочацца разьвітвацца з братам, але далёка адышла калёна ад Заямніны.

— Можа-б ты вярнуўся, Уладзік?—прапануе Хвядос.

— Прайду яшчэ трохі, ды зараз вярнуся,—неахвотна, з жалем адказвае Ўладзя, пасьля паціху дадае:

— Хвядос, і я пайду разам. Буду памагаць чым небудзь табе, усім вам.

— Ня прымуць цябе, Валодзя,—адказвае Хвядосаў таварыш.

— Прымуць, я папрашуся.

— Вярніся лепей дахаты. Будзеш памагаць маме ў рабоце, а то тата невядома калі вернецца з абозу. Будзеш лісты пісаць мне, Алесю. А тваё яшчэ усё наперадзе...

Уладзя ідзе яшчэ некалькі крокаў побач з Хвядосам, а пасьля паступова, неахвотна адстае і адстае ад брата. А ў галаве яго вярзецца неадступная думка: „Усёроўна пайду. У другую часьць пайду. Прымуць“...

Г. Менск. 1931—1932 г.

---

Макар Пасьлядовіч

# Хада ў заўтрае

## Аповесьць

(*Канец*) [1])

Разьюшанай зьвярыною нікае Баравік па вёсцы. Лютая злосьць кіпіць у яго нутрэўі. Ганяе яго з хаты ў хату. Але мала ўжо засталося каго са старога стану: Гарнастая і Зьмітровіча, кладаўшчыка, забралі. Застаўся другі Зьмітровіч, былы старшыня. Але ён, як барсук той у нары, сядзіць у сваёй хаце. Бутэльку за бутэлькай жлукціць гарэлку. Ні пагаварыць з ім, ні памеркаваць пра што. Калі ня п'е, дык сьпіць, калі ня сьпіць, дык п'е. Усё няма яму часу і пратхланьня.

От і цяпер, грукаючы ботамі па мёрзлых грудках вуліцы, Баравік як ліс, дробнымі крокамі, падаецца ў бок Вострыкавай хаты. У кішэні, яго клякоча, зьвініць пляшкай гарэлка. З хат шчэраць сьветлымі вачыма шыбы вакон. Відаць праз вокны: хто вячэрае, хто бубніць газэту. Сьпераду ў цемені залапаталі мужчынскія і жаночыя галасы, дружна затупалі насустрач Баравіку. Апошнія Зьмітровіцкія няпісьменныя ішлі ў школу пазбывацца цемры, пасягаць навуку і новыя разуменьні пра жыцьцё.

— Капяратарчык пацёгся,—пачуў Баравік, праміну ўшы барадатых школьнікаў.—Мінулася кату масьляніца...

— Дзе-ж яго трымаць, калі столькі тавараў растранжырыў.

Гаварылі, як наўмысьля моцна, каб упікнуць Баравіку.

„Пачакайце, як Бабоўскі пагандлюе!"—падумаў ён, заварачваючы да Вострыка.

У галаве ўжо высьпяваўся плян помсты. Пагналі з крамы яго, Баравіка. Але-ж застаўся там і цяпер памоцнікам Пракоп Цягун. Дык ён падгаворыць гэтага Цягуна, каб няпрыкметна ўсю краму расьцёгаў. А тады рэвізія і—дастанецца таму камсамольскаму самакрытыку! Цягун—свой хлапец. Абмагляваць можа.

Потым яго злосьць перакідаецца на Зосю Ясючэню, Раманчука, Колера.

— Каб ня прыехала гэтая халера з заводу, усё-б добра было. Але паглядзім, ці па яго выйдзе!—як у голас не гаворыць ён, бяручыся за клямку вострыкавых дзьвярэй.

---

[1]) гл. № 3, 4, 5 „Б. К."

Вострык сядзіць на пяколку. Нечага ярасна скрабецца пад пахай. Двое дзяцей поўзаюць па глінянай, усыпанай лушпіньнем ад гарбузікаў, падлозе. Гарбаты хлапец з ясным дзявоцкім тварам карпее над кніжкай. Сьцёганая клопатамі за сябе, за недарэчнага мужа, за ўсю сям'ю, ціха стогне жонка на палку.

— Што з ёю?—спытаў Баравік у Вострака.—Захварэла?

— А якую ёй трасцу выдумаць,—пазяхае гаспадар.—Усе бабы такія.

Ён злазіць з пяколку, накідае на плечы кажушок і падыходзіць да стала

Сын-гарбун боязна пасоўваецца ад бацькі.

— Сядзі, дзікун!—шыкае на яго стары. І кажа Баравіку:—Бачыш, якія цяпер дзеці! Бацьку не давяраюць. Свой погляд ужо маюць.

Палок рыпіць, калі на ім пачынае варушыцца і стагнаць жонка.

— А хто-ж іх, дзяцей, давёў да гэтага, калі ня бацька п'яніца? Хто, абармот ты гэтакі! Чыя рука калекамі іх навек зрабіла?

У голасе-плачы—вялікая нянавісьць. На худым, зморшчаным ад цяжару жыцьця твары, агнём палаюць вочы.

— Здох бы ты ўжо лепей, як ты мучыш мяне, дзяцей! За трыццаць вёрст пашла-б ад радасьці сьвечку ў цэркаўцы паставіла-б, кат халерны! Азіят, губіцельнік!..

Яна аж захлынаецца ад плачу. Вострацъ слых ад гэтае сваркі дзеці. Заходзяцца плачам двое, што поўзалі на падлозе. Выціраюць мокрую соль вачэй забруджанымі далонямі.

Як абухом, грыміць Вострык скручаным кулаком па стале:

— Ці-х-хх-ха! От як устану з лаўкі, ўсім дам рады!

Яго твар крывяніцца ад разьюшанай злосьці. Але плёскае, калі паварачваецца да вакна Баравік, гарэлка ў пляшцы. Адразу адыходзіць, спадае злосьць. Агеньчыкі жаданьня матаюцца ў ваччу.

Жонка ўжо ўтаймавалася з плачам. І загаварыла ціха, празьмерна стомленая пякельнай паўторнасьцю гэтых зьяў.

— Вунь другія, як мы, аднадзесяцінькі цяпер толькі і аджылі. Самі робяць, што дзеці падмагаюць. Дык і хлеба з калгасу атрымалі. Бо мужыкі ня ў пляшку, а на работу глядзяць. Стараюцца. А ты як той труцень, век смактаў мае жылы. Бяседы з багацеямі разводзіў. Дык вось да чаго мы дажыліся. Сорам на вуліцу выйсьці. Дзеці калекамі растуць...

Баравік яшчэ раз звонка плёскае ў бутэльцы гарэлкай. Гэты пляск, як нажом, пісажыць па жанчыне.

— А ты, звадыяш пранцаваты, чаго прыпёрся? Вон, каб і твайго паскуднага смуроду ня было ў маёй хаце! Вон!—ускочыла яна, трасучыся да нянавісьці на палку.—Зараз, як вазьму качаргу, дык абодвум галаву рашчаплю!.. Вон зладзюга! Думаеш ніхто ня ведае, якія вы шэпты разводзіце на згубу людзям?..

Запрасіўшы яшчэ Матрунчыка і брата кладаўшчыка Зьмітровіча, яны высушваюць бутэльку ў Баравіковай хаце. Нізенькая, шыроказадая гаспадыня прыносіць яшчэ дзьве пляшкі. І ўжо, калі падыходзяць да дна апошняе, Зьмітровіч пачынае выкладваць прызапашаныя за дзень навіны.

— І другі сьвінарнік заўтра канчаюць. Калі ўжо адвезьлі ўсю хлебную і бульбяную загатоўку, дык дваццаць шэсьць чалавек штодзень працавала над абсталяваньнем. Гэты рабочы там праз усе суткі сядзеў: усё падзуджваў, каб рабілі хутчэй. А на праўленьні яшчэ прэміі вымеркавалі, дык тыя брыгадзёры ў захапкі рабілі. От дурні, дурні. Каб ведалі, што на сваю галаву робяць...

— Чаму „на сваю галаву"?—перапытаў Матрунчык, наліваючы чарку.

— Ці-ж ты ня ведаеш, што цяпер сьвінкі яшчэ мудрэй пачнуць сьцягваць? У іх ужо даўно пляны прызапашаны. У каго трое сьвіней—дзьвёх бяруць на фэрму. Хлявушкі ўсе вычысьцяць. Дык хто вінаваты? Самі, дурні калгасьнікі! Як быў сход, сто шэсьцьдзесят галасоў налічылі за дабраахвотнае абагульваньне. Тамака запісалі колькі павінна паступаць штодзень на фэрму і ад каго. Штаб нейкі выдумалі. каб лепш сьвінак ад людзей выманьваць... А якія рызыканты, ня дай ты божачка: ужо лічаць, што 200 сьвіней, на якіх далі калгасьнікі падпіску, як і стаяць у сьвінарніках—даглядчыкаў на іх вызначылі. Не забілі мядзьведзя, а ўжо скуру зьдзіраюць...

Ён гаворыць, што ў другім калгасе Зьмітраўскага сельсавету „Новым сьвеце" спынілі камплектаваньне, бо пачалі дохнуць ад чумы сьвіньні. Што чума ёсьць і ў Зьмітровічах: Вінцэсь Лук'яновіч трох такіх сьвіных мацёр выцяг на выган сёньня. Ды яго-ж сьвіньні ўжо другі дзень нічога ў рот не бяруць...

— Чакай, чакай!—спыняе яго Баравік.—Добра, што ты пра чуму сказаў.

Яго рукі трасуцца ад нейкай новай ідэі, што раптам заварушылася ў галаве. Ён нахіляе бутэльку і плюскоча агнёвай вадой то ў чарку, то на абрус.

— Табе трэба здаць адну хворую сьвіньню на фэрму. Усёроўна ў цябе, як цьвярдака, забяруць. А так ты сам прыводзіш і кажаш: „бярыце на здароўе. Гадуйце прыплод з мае сьвіньні, бо я асазнаў, што ў калгасах і сьвіньням жыць можна". Дык яны цябе і на чырвоную дошку падсадзяць, і грошы заплацяць, і,—у горле Баравіка ўсё аж захлюпацела зьвярынай радасьцю,—усе калгасныя сьвіньні здохнуць ад чумы! Тады яны спужаюцца і брацы больш ня будуць! От!

Зьмітровіч ціха хіхоча.

— Я сьцягняка ад Лук'яновічавае сьвіньні падкідаў ужо. Хацеў у клеткі дапяць, але гэты паскуда, Міна Смык, ня сьпіць... Яшчэ мо' што прыдумаць?

23

Канчалі ўжо пракладку рэек у адным і другім сьвінарніку. Работа ў тым будынку, дзе яшчэ ня было сьвіней, ня спынялася праз круглыя суткі. Дваццаць чатыры будаўнікі былі падзелены на тры брыгады: працавалі ў тры зьмены. Ясючэня і Шагун тут і днавалі і начавалі. Ужо ўсе ведалі, што Шагунова жонка пасьля доўгае сваркі за пададзеную заяву ў калгас нарэшце паладзіла. Нават тады сяды прыносіла на работу падмацунак, калі ён ішоў ня еўшы. Верабей стараўся ля кухні; трэба было яшчэ пакласьці столь і прысыпаць піском. У сярэдзіне кухні, у куце, за два дні спусьцілі ў студні цэмантовыя колцы. Вада была пад рукамі. Аграмадны склеп для хаваньня бульбы вывернулі за тры дні. Ён быў злучаны праходам у кухню, дзе ўмуравалі чатыры катлы. Другая палова кухні абсталёўвалася для збору і адпачынку сьвінароў і сьвінарак. Тут у гэтым прасторным і цёплым пакоі, меркавалі праводзіць і вытворчыя нарады работнікаў фэрмы.

Насьценная газэта, якая раней штодзень вывешвалася ў канцылярыі праўленьня, цяпер перасялілася на фэрму. Тут, у грукаце тапароў і шурганьні гэблікаў, у звоне піл выраслі цэхі сацыялістычнай фабрыкі мяса. Тут трэба было сачыць, каб не праглынуў распачатае працы застой, каб людзі ведалі, што і як яны зрабілі сёньня і што каму трэба зрабіць заўтра. І тыя, хто выробляў больш і лепш, каб не забываліся ўсім калектывам. Пра пастанову праўленьня аб вызначэньні на 200 рублёў прамтавараў для будаўнічай брыгады калгасьнікі ўпяршыню даведаліся ад насьценгазэты. Насьценная газэта ня супакоілася да таго часу, пакуль ня была выканана пастанова ячэйкі пра здачу бульбы і хлеба дзяржаве, пра ліквідацыю абязьлічкі, пакуль апошні гэктар іржышча ня быў успластаваны плугамі. Цяпер яе націск быў на работу па будаўніцтву і камплектаваньню фэрмы. Перад гэтым чатыры нумары былі запоўнены матар'ялам пра Цімоха Царыка і Варывончыка, якія не хацелі даваць дрэва з гумнаў для фэрмы. У рэдакцыю паступіла 34 допісы пра гэты ўчынак, які расцэньваўся калгасьнікамі як тормаз і падрыў росту нязнанай тут раней вытворчасьці. Найбольш гарачыя патрабавалі неадкладнага выключэньня Варывончыка і Царыка з калгасу: „тыя, што думаюць мець у калгасе індывідуальную гаспадарку, спадзяюцца на зварот старога, нам не патрэбны. Трэба яшчэ прыглядацца да тых, хто пакінуў у асабістым карыстаньні па гэктару і больш гародаў. Сёлетняя выбарка бульбы паказала, што на калгасную работу менш хадзіў той, у каго быў самы бальшы гарод. Дык як-жа пры такіх умовах можна разьвіваць агульную гаспадарку?“

Гэты ліст быў не адзін! Дзесяткі іх патрабавалі неадкладнай пастаноўкі пытаньня аб „гародах“ на сходзе. А Чубік, зьвярнуўшыся з бальніцы, напісаў пра попел, якога больш тысячы пудоў высыпаецца

штогод на сьметнік. А кожны калгасьнік можа сабраць за зіму ня менш, як шэсьць пудоў! Дык колькі гэта выйдзе ўгнаеньня пад бульбу, калі будуць зьбіраць у 180 калгасных хатах?

І ўчора ўвечары паступілі трывожныя допісы пра зьнішчэньне сьвінаматак. Калолі, смалілі яшчэ надворных. Уначы, калі згасаў агонь у хатах, за гумнамі зладзейскім сьвятлом ад кулявое саломы трэслася старожкая цемень. Закалоў Баравік, Матрунчык і чатыры чалавекі новых калгасьнікаў.

Пятрок Багун, прачытаўшы гэты матар'ял, гукае праз рашчыненыя дзьверы Колера. Адсюль, з другога пакою кухні, дзе прыткнуўся ў куцё з невялікім столікам Багун, Колер павінен пачуць. Ён толькі што матнуўся з малатком міма вакон у новы сьвінарнік.

—Та-а-ва-ары-ш Ко-о-лер!..

Але ці дойдзецца да яго голас? Стары Верабей як наўмысьля заядла шмалюе пілкай дошку, адразаючы ладны канец на шалёўку да вушакоў вокан. Пляжыць малатком па цьвікох, забіваючы зашчытак, Ясючэня. Недзе за сьцяною зьвініць падоўжная піла, і гулка грымяць тапары па сухім дрэве. Багун бярэ напісаныя алоўкам лісткі і ідзе, адшукваць Колера.

Кухня збудавана якраз паміж сьвінарнікаў. Адсюль корм будзе падвозіцца вагонкамі па драўляных рэйках: каб жанчынам было лягчэй спраўляцца з доглядам. Рэйкі якраз працінаюць сярэднія баковыя дзьверы аднаго і другога сьвінарнікаў. Калі будуць пастаўлены такім парадкам новыя сьвінарнікі, дык прадоўжаныя ў адзін і другі бок рэйкі змогуць абслужыць і іх. На вагонках будзе вывозіцца з двухсот клетак і гной. Усё гэта выдумкі Колера, на якія калгасьнікі сьпярша недаверліва паківалі галовамі, а пасьля і самі захапіліся іх ажыцьцяўленьнем. А так колькі трэба было патраціць сілы, каб абслужыць якіх тры з паловаю сотні сьвіней (старых з падсьвінкамі і парасятамі).

— Ці ня там Колер?—гукнуў Багун Раманчуку, які нёс на сьвінарнік дошкі.

Раманчук спыніўся на момант. Кіўнуў:

— Ён у той палове сьвінарніка,—ткнуў рукою, хутка падаўся ў дзьверы будыніны.

Цяпер Раманчук і сну ня ведаў. Дома жонка і дачка прарочылі яму пагібель ад сьвінячае хваробы. Што ён і здохне ў гэтым сьвінарніку. Ня ўседжваў у сельсавеце і Сянчук. Пад вечар пасьля работы ў краме забягаў Бабоўскі. Ад раніцы і да поўдня чахаў сякерай Юрчык. Потым ішоў разам з Сянчуком у вёскі праводзіць сходы па загатоўках, вывазцы каменьня на дарогу. Цэлы дзень таўхліся тут і аднаасобнікі. Глядзелі, распытвалі, а хто браў сякеру, каб „папрабаваць, які ён работнік". Працаваў гадзіну, другую, паўдня, пакуль ня прыходзіла жонка і ня гнала да хаты „накалоць дроў у грубку".

Багун убачыў Колера ў самым дальнім канцы сьвінарніка Сагнуўшы сьпіну, ён прыбіваў завесы да дзьверцаў у апошняй клетцы. Гэта была тут і апошняя работа. З клетак, з калідору мужчыны і жанчыны выграбалі трэскі, вымяталі пілавіньне. Хутка смольны пах новай, сьветлай, цёплай і чысгай будыніны будзе песьціць жывыя машыны мяса. Адных дзьвесьце дарослых сьвінаматак стане ў двух будынках! Дзьвесьце сьвінаматак! Не індывідуальнага карыстаньня сьвінкі, а вялізнае, грамадзкае стада. На гэтай старой зямлі закладзена моцная аснова новай сацыялістычнай жывёлагадоўлі.

Ён прыбіў другую завесу. Разагнуў натруджаную сьпіну і, як на фізкультурным практыкаваньні, махнуў разы са два рукамі. І не чакаючы, пакуль пачне Багун, загаварыў:

— Як там: паступае што на фэрму? А Чубіка ня бачыў?

Багун павярнуў галаву:

— Вунь і ён прэцца. Глядзі, чаго ён такі зьбянтэжаны?

Ніжняя губа Чубіка трэслася як ад ліхаманкі. Пісягі вылечаных на твары ран аж пасінелі. І нянавісьць гарэла ў ваччу.

— Свалата халерная!—цяжка дыхнуў ён на ўвесь сьвінарнік.— Зноў пачалося. А мо гэта, што мяне загадчыкам фэрмы зрабілі? Хадзем хутчэй! Трэба што рабіць...

— Куды? Што? Дзе?—спытаў Колер.—Супакойся. Не скачы, як муха па столі. Кто там што зрабіў?

— Тады ля сьвінарніка, а цяпер у клетках знайшлі здыхляціну...

Колер скочыў, рвануўшы канцовыя дзьверы так, што Вострык і Багун аж рот разявілі. Але хутка схамянуліся і пабеглі, скакаючы праз бярвеньні і жэрдкі, міма кухні, за Колерам. Людзі кінулі работу і зьдзіўленыя глядзелі, што гэта за ўтрапёныя ганяюцца адзін за адным.

У трыццаць шостай клетцы, дзе была самая лепшая паросная сьвінаматка, ляжаў ля карыта чорны ўвесь гнілы кавалак мяса. Заўважыў Колер: кароткае калматае шчаціньне і як нажом абрэзаны адзін бок. Страшная здагадлівасьць востра і балюча закалола недзе ўнутры.

... Чума!

Ня з неба-ж звалілася сюды гэтая здыхляціна! Яна не магла трапіць і з ежаю, бо ня было выкваццана ў пойла, якім кормяць сьвіней. Кавалак нехта падкінуў нядаўна. Хоць яго сьвіньня ўжо і абмусоліла ротам, але яшчэ бліщчэў зрэзаны бок у мёрзлым мясе. І Колер успомніў, што за апошні час па вёсцы пачала пашырацца чума. Ужо здохла шмат сьвіней. А тыя, хворыя, што маглі хадзіць, па злачыннай нядбайнасьці гаспадароў, санліва нікалі вуліцаю, пашыраючы страшную хваробу.

... Чума!

Ён чуў пра яе зьнішчальную сілу. У калгасе „Чырвоны брадок" яна аблажыла ўсю фэрму і ні адно сьвінчо ня выжыла. Укладзеныя на камплектаваньне грошы і сілу патрацілі без звароту. Даводзілася брацца нанова, адступіўшы ад вызначанага пляну на цэлы год! І ўсё ад таго, што ня было добрага дагляду, пільнасьці за людзьмі, якія рабілі шкодныя справы. Дык няўжо і тут будзе тое? Няўжо месяцы самае зацятае, напруджанае работы зьядуць мізэрныя мікробы? А ўжо калі яны ўвабраліся ў сьвінарнік, дык ніякія загарадкі не дапамогуць! Але трэба было шукаць якога выхаду. На мгненьне зьявілася ў галаве думка; мо гэта мяса не ад чумнае сьвіньні? Але старожкая яго натура ня зьмірылася. Які дурань і для чаго будзе кідаць здаровае мяса, калі яго можна зьесьці і самому!

Ён схапіў сахор і ткнуў яго вострай сьпіцай у чорны, мёрзлы кавалак. Сьвіньня спужалася яго рухаў і матнулася, рохкаючы, да сьцяны. Пуза яе, напакаванае парасятамі, пяжка гушкалася, зьвісаючы ледзь не да самай падлогі. Хутка ў гэтай клетцы будзе варушыцца не адно жыцьцё: цяперашняе адно праз які тыдзень-два памножыцца на дзесяць, дванаццаць разоў... калі не задушыць хвароба?

Падбегла, заўважыўшы маўклівую групу, старая Зося Хурсік, Глянула на сьвіньню, на чорны кавалак мяса, што тырчэў на сахоры, і ўся зьнямела, увесь зьбялеў яе твар.

—От, цётка Зося...—прастагнаў глухім голасам Чубік.—Дагаспадарыліся мы з табою. Гнаць нас трэба адсюль...

Яна ўся аж асела. Зьнікла ранейшая рухавасьць. Твар змаршчлівеў яшчэ больш. Яна няёмка гмыхнула носам і няпрыметна пачала выціраць рукавом сьлёзы, Але ня стрымала плачу і загаласіла на ўвесь сьвінарнік.

— Хто-о-ж гэ-э-тт-а, мае да-а-ра-жэнькія, падстроіў... А сьвіначкі мае, любенькія...

24

Увечары пасьля паседжаньня праўленьня—сход. Зося даклядвае тое, што ўжо ведаюць; скончэньне пабудовай другога сьвінарніка.

— Тэрмін, вызначаны ячэйкай, вытрыманы. Але-ж пабудавалі яшчэ кухню. Двухкалейную мэханізацыю вымудравалі. Рабілі як ніколі раней. Па трох брыгадах было толькі чатыры выпадкі прагулаў...

Старшыня сходу, Сітнік, моўчкі грозіць пальцам Вінцэсю, Ломіку, які разьвёў шахі-махі з Юлькай Немагай. Потым скоса глядзіць, як спрытна бегае па лісьце паперы Багуноў аловак. Ён сёньня сакратаром сходу. Ён мусіць ад гэтага сакратарства ня хутка пазбавіцца. Прачытаўшы ў першым нумары насьценгазэты яго фэльетон пра Гарнастаевы хітрыкі, калгасьнікі парашылі, што лепшага пісакі, як Багун, пакуль ня знойдзеш. Зрабіўшы такія вывады, на кожным сходзе людзі прымушаюць яго пісаць пратаколы.

На першай лаўцы якраз супроць прэзыдыуму, змагаецца з санлівасьцю і стомленасьцю вэтэрынарны фэльчар Паўлюк Беразоўскі, Цэлы дзень, не адарваўшы часу, каб пад'есьці, ён уходжваўся па сьвінарніку. Дык цяпер бярэ яго здрадніцкая ляная змора. Хіліць да нізу галаву. „Каб не заснуць"—праз сілу думае Беразоўскі і круціцца, шуршыць брэзэнтавай накідкай па лаўцы, разганяючы прыемную тупую млявасьць.

...праўленьне парашыла прэміраваць лепшых будаўнікоў,—запісваў у пратакол Багун.—Шагуну даць боты, Вераб'ю касьцюм...

— Што ён, стары, будзе з касьцюмам рабіць?—для жарту пытае, каб усе чулі, Ломік.—Ён-жа да дзевак ня пойдзе. Вы мне дайце.

Школьная заля дрыжыць рогатам. Сітнік грукае кулаком па стале:

— Цішэй! Цішэй!

Багун пералічвае ў пратоколе яшчэ чалавек восем. Боты... камашы... касьцюм. У галаве Багуна парадкам адлюстроўваюцца штодзённыя зводкі пра зробленую брыгадамі работу. Наплываюць імёны, хто рабіў за дзень больш работы, хто выходзіў раней за другіх, а ішоў да дому апошнім.

Колер нешта запісвае ў блёкнот. Потым паказвае Чубіку, які сядзіць з ім на аднэй лаўцы. Раманчук другім разам прабягае вачыма па буйных літарах сказаў, якія пасланы зьверху праз увесь ліст насьценгазэты;

„Будаўніцтва сьвінарнікаў скончана.

За два дні закончыць укамплектаваньне і паставіць кабаноў на адкорм".

Глядзіць на Зосю, косіць вочы да насьценгазэты і Варывончык. Яшчэ да сходу прачытаў ён (якім разам?) пра сябе допіс. Было там: „шасьцёра сьвіней, як коняй трымае, а на фэрму ніводнай не прадаў. Самому, ёнчыць трэба. І гэта ў той час, калі Чубік з двух сьвіней адну на фэрму паставіў. А Варывончык аднаго кабана ўжо задушыў і асмаліў. Ён і старых будынкаў ня даў разбураць, каб нітаваць сьцены калгасных сьвінарнікаў"...

Ад насьценнай газэты ён перакідвае позірк на Сітніка. „З выгляду ціханькі, можна сказаць, стараваты. а чэрці ўнутрэўі сядзяць. Не даюць яму ўтаймаваньня".

„Чэрці" ўзьнімаюць Сітніка з лаўкі.

— Таварыш Ясючэня скончыла тут пра сьвінарнікі. Дамо слова нашаму супроцьчумнаму вэтэрынару таварышу Беразоўскаму.

Вэтэрынара, як што вострае таўханула пад бараду. Ён кінуў яе ўгору, сагнаўшы з твару млявую санлівасьць. Шумна заварушыўся, устаючы і абарачваючыся перадам да залі.

„Усе яны чэрці,—думае Варывончык, — І Раманчукі і Чубік і Ясючэні, і гэты лекар будзе за іх цягнуць".

— Я прыехаў зрабіць на фэрме супроцьчумную прышчэпку сьвіньням. Я штучна буду заражаць сьвіней гэтай страшнай хваробай, але са ста галоў прападзе мо щэсьць штук, а мо ніводнае. Але пасьля тыя, што пераҗывуць хваробу, ня будуць баяцца чумы...

Ён гаварыў упэўнена, націскаючы на „я". Як-бы толькі ён, а не другі вэтэрынар мог даць збавеньне фэрме ад чумы.

— Я прывёз эмульсыю ад чумы („што гэта за зьвер?"—думае Чубік,) вакцыны („ізноў"!) і пасьля вымярэньня тэмпэратуры пачну імунізацыю („дай ты рады!") усяго пагалоўя.

Ад санлівасьці не заставалася і сьледу. Вэтэрынар жыў ведамі сваёй прафэсіі. Распальваўся жаданьнем укласьці ў галовы прысутных усе сакрэты магутнасьці навукі.

...Эпізоотыя... інфэкцыя... Багун, увесь потны ад сьпешкі пасьпець запісаць мудрыя словы, як уюн закруціўся на лаўцы. Палажыў на паперу аловак і моўчкі ўтаропіўся ў шырокую сьпіну вэтэрынара, Нездаволена хмурыў бровы Колер. А Беразоўскі ўсё сыпаў, сыпаў. Усе прычыны, патаемныя і яўныя, пераказаў хуценька. І тады:

— Калі мы робім сьвіньням прышчэпку, дык можна за дзень-два пакуль ідзе падрыхтоўка, камплектаваць без карантыну. Мы адразу робім імунізацыю, дык тузацца нам няма чаго. Давайце за заўтрашні дзень скончым камплектаваньне, а там паход чумою супроць чумы, Гэта адно. Другое —лепш хваробу папераджаць, чым лячыць Догляд трэба паляпшаць, пільнасьць у рабоце. Нядбайства, гразь, холад і няўважлівыя адносіны да сьвіней—страшней чумы. Гнаць ўсё гэта з фэрмы. Кожны сьвінар павінен ведаць тэхніку сваёй справы...

Ён пачаў гаварыць больш зразумелымі словамі. Багун радасна ўздыхнуў і зноў узяўся за аловак.

Пасьля яго патрабуе слова Шагун.

— У нас была пастанова сходу добраахвотна абагуліць па аднэй сьвінаматцы. Усіх гаспадарак у нас цяпер сто восемдзесят. А колькі чалавек да сёнешняга дня выканалі пастанову сходу? Усяго семдзесят восем! Дык што гэта такое, калі я сам бяз усякіх выклікаў здаў перш адну, а потым наважыў і здаў другую сьвіньню.

Ён скача вачыма па залі.

— Нашая справа камплектаваць фэрму, ці ня нашая? Наша! Дык чаго спадзявацца на якога бога? Чаму Варывончык абыходзіць пастанову сходу? Чаму Баравік, Матрунчык нічога ня здалі? Чаму другія?

— Варывончык спадзяецца на некага,—зьедліва кідае Сітнік,— Яму старое з галавы ня выходзіць...

Варывончык шумна ўздыхае ў чулай узмагнічанай цішыні. Так некалі аж у голас уздыхалі на сходах па калектывізацыі Шчамель і Гарнастай. Уздыхалі, каб зноў вярнуць беднаце і серадняком падар-

ваную дакладчыкамі сілу сумненьняў пра калгасы. Гэта быў своясаблівы кулацкі сыгнал: „ня верце, што гэтыя парцейцы балбочуць, іх пасылаюць, каб яны сагналі ўсіх мужыкоў да аднаго катла. Каб лепш можна было мужыком круціць“.

І неспрактыкаваныя ўпаўнаважаныя раёну дзівіліся, як пасьля гэтых шумных уздыханьняў людзі ні з таго, ні з сяго падбягалі да стала прэзыдыуму і выкленчвалі пададзеныя ў калгас заявы.

Так і цяпер. Сьледам за Варывончыкавым уздыханьнем матнуўся танклявы голас жанчыны з цёмнага кутка:

— А што самі будзем есьці, калі сьвіней у фэрму пазаганяем? Мала, што хто пастанавіў...

Раманчук ускочыў з лаўкі.

— Калі ты была на сходзе, дык магла налічыць 170 рук, якія паднялі за ўкамплектаваньне фэрмы праз добраахвотнае абагульваньне і закупку ў самых калгасьнікаў. Што гэта: людзі ў бірулькі гулялі? Калі ты ня хочаш з чатырох сьвіней аднэй прадаць на фэрму, дык так і скажы. За такіх падкулачнікаў, як Варывончык, Баравік, ці другія— не заступайся. Не далучайся да іх. Няхай яны сабе па кулацку ўздыхаюць. Выжыве калгас і бяз іх. Я здаў на фэрму сьвіньню. Засталося двое. Здаю яшчэ кабана!.

Крутнуўся да Багуна:

— Запісвай. Здаю заўтра кабана. Выклікаю Бабоўскага, Сянчука, Сітніка... Заўтра трэба скончыць камплектаваньне!

Ён зноў сеў на лаўку. І цяпер толькі ўспомніў: у Бабоўскага-ж засталася ўсяго адна сьвіньня? Як-жа ён цяпер будзе рабіць? Ён ужо здаў аднаго кабана.

— Здаю сьвінаматку, -чуе Романчук голас Бабоўскага.—Будзе на фэрме—будзе і ў нас.

„Малайчына!“—супакойваецца Раманчук.

Багун сьпешна запісвае:

„Здаюць па другой сьвіньні: Раманчук, Бабоўскі, Чубік, Сітнік, Верабей, Ляўчук, Новік“...

Бабоўскі няпрыметна кідае пільны погляд туды, дзе сядзіць Баравік, Варывончык, Матрунчык. Яны нешта перашэптваюцца. Тады ўстае Баравік, Варывончык. Прашываюцца да выхаду. За імі ўстае яшчэ чалавек двох. Куды гэта яны?

Бабоўскі павольнымі лянымі крокамі ідзе міма прэзыдыуму ў настаўніцкі пакой. І як трапляе ў змрок, адразу зганяе з твару бесклапотнасьць. Зашпіляе паліто і праз кватэру Ладуцькі выбягае на двор.

Шумна дыша ў цемені разьюшаны вецер. Сыплецца прыскам сьнегу. Ў зьнясіленай злосьці заходзіцца танклявым голасам у карнізах. І недзе за будынкам трывожна гудуць тэлефонныя правады.

Адышоўшы ад школы, Бабоўскі прыслухоўваецца. Напруджаным слыхам ловіць галасы людзей. Але дзе: усё гудзе, стогне завірухай. Вецер расхляствае паліто і студзіць разагрэтае ў цеснаце сходу цела! Бабоўскі на здагад бяжыць на дарогу і ледзь не натыкаецца на групку людзей, якія ідуць да вёскі. Вецер як раз напорыста дыша ў твар Бабоўскаму. Сыпле разам са сьнегам разарванымі сказамі.

— ...Што парцейцы... тое і выйдзе,..

— ...Уперад зямлю... коняй... агульнае... цяпер сьвіней...

— ...Каб сьвінарніка ня было... ня бралі-б сьвіней...

— ...Вострык ім добра падстроіць...

---

Гарбун—сын сядзіць на пяколку. На печы вагае жоўтым языком агню газьніца. На каленях у хлопца газэта „Піянэр Беларусі“ Але ён ня чытае. Глыбокія сьветлыя вочы задуменна ўтароплены ў вакно, за якім бушуе вецер, гуляе ў прасторах са сьнегам.

— ...Таварыш Ладуцька казаў нам, што праз які час у нас ня будзе ні бедных, ні багатых. Па ўсім сьвеце людзі ня будуць цярпець ні холаду, ні голаду. Усе будуць добра жыць. Людзі перабяруцца са старэнькіх, халодных цёмных хат у прасторныя сьветлыя дамы. Ня будзе такога і слова „вёска“...

Вострычыха ўздыхае. Седзячы на палку, яна лапіць дзесяць мо разоў палаплены кажушок для сына. Гаспадар ляжыць на лаўцы. Ён ня сьпіць. Часта варушыцца. Услухоўваецца, што кажа сын. Скоса глядзіць на яго ясны, як у дзяўчыны твар. На горб, што пакрыты даматканай сарочкай. Глядзіць на тонкія, худыя далоні, што ляглі паверх газэты.

— ...усе людзі будуць здаровымі, радаснымі і разумнымі. Ня будзе калекаў, жабракоў. Бо ўсе багацьці, адзеньне, абутак, ежа будзе разьмяркоўвацца пораўну. Уся работа будзе рабіцца машынамі. Чалавек тады будзе працаваць менш, больш будзе вучыцца, правільна адпачываць. Ня будзе тады зайдрасьці сквапніцтва...

Вочы школьніка шырэюць. Твар сьвятлее яшчэ больш. Ён аж варушыцца на пяколку.

— Гэта будзе камунізм.

За вакном бушуе мяцеліца. Спружыністым напорам націскае нахату вецер. Зьверху, пад стольлю, рыгаюць няўстойлівасьцю кроквы. Крэкчуць слабізнаю драўляныя старыя сьцены.

— Таварыш Ладуцька казаў пра Леніна. Ленін вучыў: каб будаваць новае, трэба зьнішчыць старое. І на руінах старога мы павінны будаваць новы сьвет. Але старое ня, хоча здавацца. Таварыш Ладуцька

казаў пра наш калгас. Усё, як ёсьць. Казаў, што праз колькі год нельга будзе пазнаць вёскі Зьмітровічаў. Казаў: два гады таму назад ня было трактараў, а сёлета яны працавалі дзень і ноч; два гады таму назад людзі думалі пра трактар, як пра забаўку, а цяпер стараюцца запрагчы ў любую работу; тры гады таму назад хату пад школу наймалі ў Матрунчыка, а цяпер выштукавалі такі будынак. Было ў Зьмітровічах на 100 чалавек 70 неграматных, а цяпер 6 неграматных на сто чалавек. Дык і яны скончаць навуку да вясны Цяпер збудавалі два вялізарных сьвінарнікі. Кухню. Пограб. Заканчваецца кампплектаваньне фэрмы. Будуецца, як казаў таварыш Ладуцька, сацыялістычная фабрыка мяса. Адсюль будуць ісьці ў горад прадукты. а з гораду машыны, жалеза, тавары. У Зьмітровічах, як казаў тав. Ладуцька, будуецца сацыялізм. Ужо няма таго, што ў каго больш зямлі, дык жыве, як пан: наймае парабкоў, зьдзекваецца з іх. Цяпер у калгасе хто больш робіць, той больш і атрымлівае. Вунь Чубікі век таго ня мелі, што сёлета ім далі. Іх Віктар кожны раз прыносіць у школу хлеб, а калі і сала кавалак...

У Вострычыхі набрыняюць сьлязьмі вочы. Дрыжыць немым плачам твар. Яна з нянавісьцю глядзіць на мужа. Усё лета туляўся па завугольлі з тою, што забралі, кампаніяй. Пасьля—з Баравіком, Матрунчыкам зьвязаўся. А іх дзеці—жадны кавалку хлеба...

Гарбун як і ня бачыць усяго. Гаворыць усім сваім нутром. Выкладвае ўсё, што сабралася ў галаве.

— Дык багацейшым, як нож па горлу, гэтыя калгасы. Раней Чубікі абраблялі Гарнастайчыкам зямлю, а цяпер у калгасе робяць на саміх сябе. Дык багацейшыя нагаварваюць, напойваюць несьвядомых бяднейшых, каб супроць калгасу ішлі. Бо самі багатыя цяпер, калі выступяць адкрыта супроць, дык ім хуценька дадуць рады. А калі бяднейшы, казаў таварыш Ладуцька, ідзе супроць калгасу, дык ён шкодзіць і сабе. Такім, як мы і Чубікі, давядзецца, каб спраўдзіліся кулацкія намеры, зноў пазычаць хлеб на адработ.—Але хіба захоча гэтага Чубік? Калі ён убачыў, што калгасная дарога дае яму лепшае жыцьцё, дык ён будзе ісьці па ёй аж у камунізм...

Гарбун змоўк. У хаце ўсталявалася цішыня. Толькі чуваць было, як саплі сном меншыя дзеці. Ды сквірчэў кнот у газьніцы.

Вострык падняў галаву і глянуў на печ. Яго вочы мільгнулі па ясным удумлівым твары сына, упарта сьцятых тонкіх губах, худых, тонкіх далонях. „Жэўжык яшчэ, — падумаў, — а вунь куды заглядвае“.

Ён спусьціў з лаўкі ногі. „Напайваюць несьвядомых бяднейшых“,— сказаў сын, хлапчане!—„Калі бяднейшы ідзе супроць калгасу, дык ён шкодзіць і сабе“.

Ці яго гэты сын? У рэдкія хвіліны пратхланьня ад гарэлкі, ён бачыў толькі ціхага, няпрыметнага хлапца, які апасьліва адсоўваўся ад бацькі. Баяўся, як зьвера. Бо помніць, мусіць пра...

Вострык баіцца глянуць на сына. У цемені галавы, загурашчанай дробнымі дзённымі справамі, ярка паўстае малюнак калецтва сына. Колькі год было яму тады? Ага, ня высахла яшчэ з масгоў памяць: два гады! Малы, але жвавы, непаседлівы, ён сустрэў п'янага бацьку на парозе. І прызыўнай радасьцю заляматаў; „та—та, та—та"... Бязьмерна здаволены, таптаўся на слабых яшчэ ножках перад сьляпым імкненьнем цяжкіх мужчынскіх ног. Упалі абое. Сын зайшоўся плачам, а ён прышоў у лютую злосьць. Лежачы яшчэ, доўга мерыўся ў дзіця: потым зрывіста пхнуў кулаком ці то ў бок, ці то ў плечы. З дня таго, разам з гарбом расла раньняя сталасьць і вастрэў маўклівы дакорлівы бляск вачэй. З дня таго баяўся, дрыжэў сын перад грозным выкрыкам бацькі. Быў ціхі і няпрыметны, жывучы патаемнай асабістай радасьцю і смуткам.

А цяпер раптам загаварыў. Дзіця—блазен марыць пра заўтрашні дзень лепшага жыцьця, а ён, сталы чалавек, бацька, думае толькі, дзе сёньня агадаць выпіць. Піў за сваё, за чужое, здабытае пагодлівасьцю і паслужнасьцю. Дык што ён вытаптаў у п'яным чадзе дзён і за сорак восем год жыцьця? Што ён дзе зрабіў на радасьць усяе сям'і? Яго нават апасаюцца і суседзі! Яго равесьнікі ня хочуць з ім і знацца, пагарджаючы як з гультая і п'яніцы. Усе патроху адыходзяць ад яго. І ён усё больш і больш адчувае пагібель адарванансьці ад калектыву.

— Як скончу нашую школу, дык паеду вучыцца вышэй,—раптам перадае сын маці свае намеры.—На інжынэра, каб выйсьці. Хачу быць інжынэрам. Будаўніцтвам фэрмы кіраваць...

„Сын хоча быць інжынэрам, а я—чым"?—выкручваецца ў галаве Вострыка.—„Сьвінарнікі падпальваць! Толькі таму, што гэтае ў спадобе было Гарнастаю, а цяпер Баравіку. Чумную здыхляціну зацягваць на фэрму. Адны няўтомна будуюць, а ён,—выканаўца варожае волі,—разбурае. На вошта? За якую ласку? Чым ён аджыў, і што спажыла яго сям'я?"

Унутры пачынае расьці злосьць на самога сябе, на тых, хто трымаў яго ў кіпцюрох паскуднае п'янае спакусы. А каб хадзіў рабіць, як Чубік, дык-бы ня менш атрымаў, а больш! Ён-жа як ня ў два разы здаравейшы за хударлявага Чубіка.

— Я заўтра пайду на работу,—у голас рашае Вострык.—Усіх з работаю за пояс заткну. І пражытку будзе, і адзетак справім...

Зьвяняць шыбы ад асьцярожнага лопату. Гэта ня вецер упінаецца ў цьмянае шкло. Во: яшчэ раз!

— Пайду пагляджу,—крочыць Вострык, накінуўшы на плечы кажух, на двор. У сенцах, як адчыняе дзьверы, яго сьлепіць сьнежным пылам. Шарэюць у змроку постаці людзей.

— Хто?

Як вецер сьнегам, пырскае дробным сьмяшком Баравік. Абзываецца Матрунчык, Зьмітровіч, Варывончык.

— Мы... свае...

Баравік папярэджвае:

— Толькі ня трэба ісьці ў хату, а то баба твая... можа брахнуць каму...

— Эт...

— Закрывай дзьверы,—сьпяшаецца Баравік.—Ды пойдзем туды, пад сьвінарнікі.

— А вы адкуль ідзеце?

— Са сходу. Там, браце, пастанаўляюць, каб сьвіней забраць на фэрму. Ратавацца трэба...

Ідуць праз гумно. Вецер, як разьюшаная гадзіна, выкручваецца, сіпіць між будынкаў. Тонка сьвішча ў вецьці бяроз.

За гумном Баравік нахіляецца да Вострыка. Шэпча распаленым нутром:

— Запалку... ткнуць зараз. Такім ветрам абодвы сьвінарнікі змые агнём... Вецер засыпле сьнегам сьляды...

Вострык адступае ад Баравіка. Захінае расхлястаныя ветрам крысы кажушка.

— Другога каго вазьміце,—аж крычыць.—І няхай ён вас сасмаліць і самога сябе.

Чацьвера мужчын хуценька абступаюць яго з усіх бакоў.

— А чаму ты ня хочаш? — падазронна пытае Вострыка Баравік.

Ня відаць выразу на твары мужчын. Але Вострык адчувае нешта нядобрае ў гэтым раптоўным абкружэньні.

— Чаму ты ня хочаш?—другім разам перапытвае Баравік.

Вострык ня стрымліваецца. Пачынае гасіць:

— Людзі будавалі, грошы трацілі, а мы будзем падпальваць. Там, жа і сьвіней чоршта.

— Ці табе шкода чужога дабра?

— Гэта-ж... гэта-ж, — хрыпіць Вострык, — кулацкі напад! Контррэвалюцыя. За гэтае адразу расстрэл...

Баравік бярэ Вострыка за рукаў. Круціць яго тварам да сябе. Зьедліва пытае:

— З якога часу ты з дурняў у разумныя выбіўся? Адкуль такая сьвядомасьць?

Вострыка, як варам абдае, Ён вырывае рукаў з баравіковай рукі і камечыць кулак:

— Дык я, значыць, быў у вас дурнем? Добра! Вы і цяпер хацелі зрабіць мяне дурнем? Добра!

Валіць з ног Варывончыка. Адбягае крокаў пяць па ральлі загуменьня. Цяжка сапе.

— Ня будзе-ж вам цяпер пагулянкі! Усё раскажу. І як здыхляціну прымудроўвалі на сьвінарніку, падгаварвалі будынкі падпаліць, і сходы якія кулацкія...

Спрытнай разьюшанай зьвярыною падскаквае Баравік да Вострыка. Хватае за грудкі. Як электрычным токам працінае ў галаве Вострыка.

„Забіць могуць!“

І згінаецца, каб вырвацца. Маўклівую грознаю чарнатою падсоўваюцца да іх Варывончык, Матрунчык і Зьмітровіч.

— Не абложыце!—зрывіста крычыць Вострык і з усяе сілы садзіць каленам Баравіку ў жывот.

І як ударыў адчуў волю. Хацеў рвануцца ў бок. Зьнікнуць у ад-ратоўчай цемені бурнага надвор'я. Бегчы туды, дзе зьзяе агнямі вокан школа. Адчуць там магнэсавую радасьць даверлівасьці соцень людзей. Ён ўсё ім раскажа!

Але нехта выцяў з заду па каленях. Распаленым потным тварам ён упаў у халодны прыліпісты сьнег. Падаючы, заўважыў агонь, што мільгануўся за будынкам. Гэта вартаўнік Міна Смык ходзіць ля сьвінарніку... Яму крыкнуць, каб падбег сюды!

— Мі-ін-н-на!..

Спружыністы вецер растармашыў яго прызыў, зьмяшаў са сьнежным пылам і пагнаў завеяю ад сьвінарніка. Засьмяяўся злосьцю і дзікунскім посьвістам.

— Не пачуе твой Міна. Тут табе і алог будзе,—захрыпеў нехта над ім, б'ючы кулаком па галаве, садзячы цяжкія тупыя ўдары ў плечы.

Ён тузануўся з усяе сілы пад ходкім цяжарам чатырох чалавек. Адзін скаціўся некуды ў бок, але гэтыя, у трох, зноў пачалі гнуць яго да зямлі.

„Канец—падумаў ён, калі зноў прыціснулі тварам праз сьнег аж да жорсткай зямлі. Адчуў на губах ліпкае цяпло крыві. Гэта цяплыня скаланула яго ўсяго холадам сьмерці.

„Жыць!“—забурліла ў галаве.

„Жыць!“—зьвярынай прагнасьцю вострa заіскрылася жаданьне ва ўсім целе.

І пачаў праз сілу выгінаць ад зямлі сьпіну. Уваперся рукамі ў холад сьнегу, напяўся, што аж зазьвінела ў вушшу і расхлястаў у бакі маўклівыя сьмяротныя цені.

„Жыць!“

І тады з цемені матнуўся сюды яшчэ адзін чалавек. Закрычаў, забурліў дужым голасам Бабоўскага. Рынуўся ў чорную груду. Залаташыў кулакамі...

Усім сваім нутром адчуў Вострык: шугае, гулка грыміць нязнаная раней радасьць. Пачынае зьяць у цемені блытаных думак яркі дзень. Наперадзе выпрасталася шырокая дарога. Ад ног, натруджаных крывымі дрыгвянымі сьцежкамі, страсае, саскрабае ён цяжкую, прыліпістую гразь. Бо ў галаве, у жылах карамзаватых рук і ног, ва ўсім целе бурна ўзрасло непераможнае жаданьне: жыць творчай радасьцю многіх!

Кастрычнік. 1931 году—
Люты, 1932 году.

Ал. Дудар

## Вясна 1932 году

Прышла.
Затрымцела ртуцьцю раўчукоў,
сасьвіргатала сплётам кропель.
Правяла зіхатлівы шлях
праз Азію,
Амэрыку
і Эўропу.

З ўсходу за ёю шумеў акіян
і сонца з вогненых восьцяў
проэктавала
на сіні экран
сілуэты
браняносцаў.
За ёю ляцелі гудліваю зграяй
дзюбатыя бамбавозы.

Кіпела Манчжурыя,
руіны Шанхаю
курэлі маўкліва і грозна.
За ёю рычэў беспрацоўны Дэйтройт
і, ад берагу да берагу
разяўляла
галодны рот
квітнеючая Амэрыка.

Ня зьнесьці гангрэны крызісу клясе
з Крэйгэраўскімі нэрвамі:
ужо ў рэволюцыі засталася
лішняя куля ў рэзэрве;
ужо й Нямеччыны ціхенькая багна
чырваньню ўскаламучана:
пяць мільёнаў рук, як адна,
узьняліся над ёю
за рэволюцыю.
І вось адусюль бразгоча зброя.
Ледаход гісторыі
палі мастоў струхлелых скрануў;
стрэлка сусьветнага анэроіда
пахіснулася на вайну.
Шуміць акіян.

Чорныя хвалі высока ўзьняліся,
калоцяцца пенаю апантанаю
ў скалы чырвонай выспы.
Зубы і іклы.
Танкі. Гарматы. Бранявікі. Акопы.
Чаму такая вялікая
роспач?
Прышла.
Мільёны зрэнак
прашыла сонечнымі ніткамі.
Прынесла строгі і стройны плян—
трэцяя
бальшавіцкая.
Нітуе энэргію,
вядзе напралом,
выцягваецца ў чацьверты год
апошні, напорны,
выдзюбліваецца калом
ворагу ў горла.
Курыць Магнітная,
гудзіць Сталінград,
Дняпровыя ўпрэжаны воды
у панарад
другой пяцігодкі.
Курчацца ў кузьні калгаснай плугі—
выйдуць адтуль маладымі!
Будуць расьці ў дыяграмах кругі
красавіковага ўздыму.
І калі-б вораг наважыў цяпер
панад савецкімі хмарамі ўзьняцца,
грымне па ім
узьлятаючы ўверх
крывая суцэльнай колектывізацыі.
У гэту вясну мільёны рук
сьвет налева завернуць.
Трэба кожны напружаны рух
накіраваць,
разьлічыць,
разьмерыць.
Трэба праверыць,
ці ўсе на мясцох,
ці ўсё і ўсюды як трэба,
каб падала зерне
ня ў посны пясок,
а ў сытую, дужую глебу.

Трэба, каб зубы плугоў, трактароў
эпідэрму зямлі аж да жылаў прагрызьлі,
каб уліць і яе земляную кроў
у юныя жылы соцыялізму.
Тэмпы,
тэхніку—
шырэй і глыбей;
умець працаваць і за працу адказываць.
Віхуру энэргіі ў бальшавіцкай сяўбе
памножыць на ўраган энтузіязму.
Каб не прапала праца дарма,
каб зраслася з цаглінай цагліна,
хай глоткі комінаў
і жэрлы гармат
за ворагам сочаць пільна.
Вораг знадворку
вачыма грызе,
вораг з кутка
зубамі скрыгоча—
каб не праспаць іх, не праглядзець,
хай ліхтарамі палаюць вочы.
Хібны крок,
брак,
недасеў,
зрыў,
безгаспадарчасьць
і абязьлічка—
гэта ўсяроўна, што без барацьбы
ворагу здаць позыцыі...
Прышла яна
і дзень ад дня
шырыцца па неабсяжных абшарах.
Будзе яна,
будзе яна
бальшавіцкаю
ўдарнаю.

Сакавік 1932 г.
Менск.

Язэп Зінькові

## Трактарыст

Вечар зубы
Праз вокны шчэрыць,
А за вокнамі шэпчуцца клёны...
Ён сядзіць
Над кавалкам паперы,
Як і вечар
Такі задумённы.

Цэлы дзень,
Пакуль вохрай захад
Паласнуў цёмна-жвірысты
Насып,
Ап'янёны бензынным пахам
Ён араў у палёх калгасных.

Цэлы дзень
У палёх мурожных
З сваім лепшым сталёвым сябрам
Цаліну ўздымаў, варочаў,
Абліваючы сэпіяй-фарбай.

Яго сэрца
Вызваньвала радасьць,
Хоць і стома ламіла плечы...
Пераможцай
Яго брыгада
Сустракала ліпнёвы вечар.

Плоймы дум
Галаву ўскружылі:
Напісаць...
Напісаць аб гэтым...
На паперы шурпатай пыльнай
Ён нязграбна пачаў:
„У газэту...

... Наш калгас
Цаліну пад жыта
Па ўдарнаму ўзьняў,
У тэрмін“...

І дзесяткі
Нязграбных літар
Так павольна паўзуць
Па паперы.

Недзе там
У пахучай півоні
Захлябнуўшыся
Песьняй дзяўчат
Заліваецца сіплы гармонік
З... „маладзецкага пляча“...

Толькі ён
Не пайшоў сягоньня
На спатканьне
З сваёй Алесяй...
Думкі... Думкі...
У буяным разгоне
Перавітыя словамі песень.

Было горача, так
Як у полі,
Пот на скронях
Блішчэў, як раса...
Прапацеў... І ня раз,
Але здолеў
Аб калгасе сваім
Напісаць...
. . . . . . . . . . . . . .

А як золак
Праз вокны глянуў,
Прыпадняўшы начныя шторы...
Ён пад кніжкаю спаў
Змарнаваны...
Яму сьніўся рабфак
І горад.

Менск, 1932 г.

Зяма Півавараў

## Мінулае камандзіра

(*Накід*)

Начальніку 3-га авіяатраду N-ай
ударнай эскадрыльлі т. Кузьняцову

Спачатку Данбас,
канагонам там,
маладым грудзям
цяжка дыхаць пыл
і чорны смурод.

Спачатку Данбас,
канагонам там —
дзевяцьсот
чатырнаццаты
год.

Паганяй конікаў
шыбчэй пугаю!
Гаспадар Макееўкі
распальвае
рабочы гнеў,

гаспадару Макееўкі
патрэбна паболей
вугалю,
каб аддаць
ненасытнай вайне.

Перараствала наша помста
ў дужасьць,
а дужасьць—
паходам ішла,

разьвярнуць каб
з усёй мужнасьцю
шпалы
ці квэршлаг.

І калі ў забастоўку кірка пад зямлёй
зычна
аддасьць
гучнабежным рэхам,—
гэта добрая
для нас здабыча,
правучыць трэба
штрэйкбрэхера.
Вось хлопцы нашыя падслухалі
дзесятніка Крупку,
ды ўпраўляючага
з налітаю мордай
пунсовай.
Упраўляючы
вышчарыў
залатыя зубкі:
„Разьлічыць
бунтара
Кузьняцова“!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
— Пётра,
ведаеш,
разьлічыць зьбіраецца
цябе тоўсты.
Бунтара, кажа,
гэтак і трэба...
— Эх братка,
сэрца гарыць помстай
Саленым потам
прапах наш
чорствы
кавалак
хлеба.
Ім што!..
У цёпленькіх Hotelach
падаграваецца
кроў наша
іх напэўна.
Сьцеражыцеся,
маразком прабяжыць
па вашым целе
шахцёрскі
гнеў наш.

У бараках ноч—
як данбаскі вугаль
чорная.
Цішыня нацята
застыглай топкай.
Няма хлапцам
чаго гібнець
у дарозе торнай,
праз пару дзён
на агульную
забастоўку!

———

# НАРЫСЫ

Гарбуноў, Савельзон

## Брыгадзір чорнага золата

У просінь многаводнай Бярозы глядзяцца стромкія сосны, моцныя дубы, белаліцыя бярэзіны.

Шырокай лямаўкай цягнуцца ўздоўж і ў шыр Бярозы імхі—балоты. Шмат балот на Барысаўшчыне!

На вёсцы так і казалі раней: „Былі б чэрці, а балотаў у нас хопіць“.

Балота „Рэмізава“—звычайнае балота.

Доўгія гады тут панавала ціш. Людзі сюды не заходзілі. Дзень і ноч зьвінелі камары. Машкара „таўкла мак“.

Даўней вакольнае сялянства пазьбягала балот.

Дрыгва. Густы нізкарослы сасоньнік. Непралазная гразь. Вада. Усё гэта рабіла балота непраходным, стварала спалох перад балотам, перад яго таемнасьцю і невядомай сілай. Закруціць узімку завіруха— кажуць: „Жэніцца чорт у „Рэмізаве“. Шмат казак і легенд складзена пра балоты! Шмат з іх складаліся, расьлі і перадаваліся з пакаленьня у пакаленьне на аснове сапраўднасьці.

Адну гэткую казку з мінулае рэчаіснасьці апавядае старая сьцільшчыца Марына.

— Даўно гэта было. Усе гэтыя балоты, лясы, зямля належалі памешчыку Рэмізаву. Не чалавек, а сапраўдны зьвер быў. Зьлюбіліся двое маладых хлапец ды дзяўчына. Рашылі пажаніцца, ня спытаўшы на тое згоды памешчыка. Праведаў пан. Доўга думаў, якую кару над імі ўчыніць, і рашыў—паслаць на балоты. Разьдзелі маладых нагола і прывязалі ў балотах да дрэваў. Да касьцей разьелі іх камары ды машкара...

Раней, калі сялянка хацела напужаць дзіця, дык гаварыла:

— Завяду на „Рэмізава“ ды кіну! Няхай цябе „нячысьцік“ балотны схопіць! От, табе што будзе...

Баяліся дзеці балотаў. Падрасталі і тож баяліся.
Здавалася, што балоты ня зможа перамагчы ніякая сіла...

* * *

Старыя памятуюць:

Былы памешчык Рэмізаў задумаў распрацоўваць балоты. На працягу паўгода батракі Рэмізава працавалі над асушкай балот. Гразьлі ў дрыгве. Тапіліся... Але пад бізунамі пpыганятых працавалі. Рэмізаў на фаетоне пад'яжджаў да месца, дзе пачыналася балота, паглядваў толькі ў бінокль за ходам распрацовак балот.

Батракі ня вытрымалі нечалавечых умоў працы. Узьнялі бунт і кінулі работу...

Памешчык Рэмізаў ня ў сілах быў здужаць балоты. Зноў стала ціха на балоце. Хутка, нібы праваліўшыся ў бяздоньне, зарасьлі зялёнай коўдрай пракладзеныя батракамі памешчыка Рэмізава сьцежкі на балоце.

Цішыню балотаў па ранейшаму трывожылі камары ды люгашкі. А ў зімнюю сьцюжу завывалі ваўкі.

Ішоў час. Адбываліся падзеі.

* * *

У 1929 годзе над балотамі разьнёсься ціхі спачатку, а потым усе нарастаючы грукат. Гэты дзіўны грукат нараджаўся з-пад піл і сякер рабочых калгасьнікаў. Шмат хто з іх у мінулым быўшыя батракі пана Рэмізава.

На балота прышлі ўдарнікі. Прышлі, каб парушыць спрадвечны сон балотаў, каб пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі заваяваць і перамагчы балота.

Пачалася бойка людзей з балотамі.

Зьвінелі пілы. Стукалі сякеры. Стаяў грукат і несься гоман. Абуджалася спаўшае балота.

Усё, што было жывога на балоце паднялося на ногі. Зграі птушак, дзікіх качак, драздоў, сівак-варонак закружыліся над балотам.

Жыцьцё на балотах пайшло на новы лад. Умяшаўся чалавек. Стаў ён рабіць пасвойму.

Тое, што ня мог зрабіць памешчык Рэмізаў, стала магчымым для рабочае клясы і калгасьнікаў.

Прамысловасьць Барысаву расьце гіганцкімі крокамі.

На руінах спалёнага белапалякамі гораду, вырасьлі дзесяткі фабрык і заводаў. „Пролетарская Перамога“,—запалкавая фабрыка. Лесаапрацоўчы камбінат „Камінтэрн“, шклозавод „Домбаль“, папяровая ф-ка „Прафінтэрн“, макаронная фабрыка імя Леніна, лесазавод імя Розы-Люксембург, завод „Пралетарскі Молат“, „Чырвоны Мэталіст“, скурзавод і яшчэ шэраг іншых прадпрыемстваў.

...Торфазавод „Комунар“ пабудаван на балоце „Рэмізава“. Торфазавод забясьпечвае апалам цэнтральную электрастанцыю Барысава. ЦЭС—гэта сэрца Барысаўскай прамысловасьці. Барысаўская прамысловасьць чя можа разьлічваць на прывазное паліва. Уся ўвага пралетарскай грамадзкасьці Барысаўшчыны сканцэнтравана на здабычы торфу, гэтага чорнага золата, як яго тутка завуць.

Тысячы тон чорнага золата паступаюць у топкі электрастанцыі і там ператвараюцца ў кілёваты электраэнэргіі.

* * *

Торфазавод „Комунар“. Шырока раскінуліся карпусы дамоў. Кантора, сталоўка, інтэрнаты, скляпы для прадуктаў.

Вакол куды ні кінеш вокам—штабелі чорнага золата.

З калгасных палёў Барысаўшчыны, Віцебшчыны прыйшлі ўдарнікі, каб перафарбаваць твар балотаў.

Хто скажа цяпер, што гэта быўшае соннае балота?! Не! Гэта самы сапраўдны маленькі Данбас, дзе здабываюць чорнае золата.

Балота пакрамсана доўгімі, роўнымі, вузенькімі і шырокімі траншэямі.

Высока і ярка над балотам гараць агні электрыкі. Гудуць маторы. Зьвіні камар, колькі ў цябе сіл хапае, зьвініце ўсе разам камары, усёроўна не перакрычаць вам грукату матораў.

Шматлікія пражэктары, нібы вострым нажом, рэжуць на шматкі начную цемру. Ноч, а грукат машын не змаўкае. Ня сьціхае бадзёрая песьня ўдарнікаў. „Камунар“ працуе круглыя суткі.

* * *

Аб брыгадзе Алеся Саламахі можна расказаць вельмі шмат. Мы скажам нямнога.

Па чыгунках, па рэках прыехалі калгасьнікі, аднаасобнікі з розных куткоў Беларусі сюды на торфазавод. Большасьць з іх упяршыню на торфараспрацоўках.

Таварыш Саламаха адзін з тых ударнікаў, якія ў мінулы год ставілі рэкорды па торфаздабычы. Ён мае багаты вопыт работы. Вось чаму адміністрацыя торфазаводу паставіла таварыша Саламаху кіраваць навічкамі. Падпісалі ўмову. Па ўмове брыгада абавязалася за 8 гадзін выпрацоўваць 32.000 цэглін торфу.

Выйшлі на працу. Замест 32-х тысяч ледзь выпрацавалі 15.000. Няма і паловы нормы выпрацоўкі.

— Цяжка, хлопцы,—скардзіліся навічкі.

Усе больш і больш пагаварвалі:

— Давай хлопцы „пліта“. (Пліта азначае ўцяканьне з заводу).

Па вечарох таварыш Саламаха расказваў хлопцам пра мінулагоднія торфараспрацоўкі. Расказваў, як спаборнічалі яго брыгада камарынцаў з брыгадай бранцаў.

— Бранцы майстры па торфаздабычы, у іх трэба вучыцца,—раіў Саламаха,—трэба прыглядвацца да працэсаў работы, вывучаць тэхніку.

Хоць марудна, але з кожным днём нарасталі тэмпы ў брыгадзе Саламахі.

Аднойчы рашылі пацягацца з бранцамі. 18-га мая быў зроблен пералом, брыгада выпрацавала 24100 цэглін. Падымаўся настрой. Але было і шмат ныцікаў.

— Дзе нам спаборнічаць з бранцамі, калі яшчэ да нормы чорт ведае колькі даганяць. Трэба выпрацаваць 32.000, я даем 24.000.

— Не падкачаць бранцам!,—так рашыла брыгада Саламахі.

Дні ішлі...

23-га мая брыгада Саламахі дабілася рэкорднай лічбы--36800 цэглін. Вечарам у брыгадзе--спрэчкі і гоман.

Аднагалосна парашылі:

— Высунуць сустрэчны 2.000 цэглін торфу. Замест 32-х тысяч па ўмове выпрацоўваюць 34 тысячы.

У той-жа вечар парашылі выклікаць брыгаду бранцаў на сацспаборніцтва.

У дырэктара заводу тав. Дыманштэйна сход брыгады. Вось аб чым там гаварылі:

— Бранцы ідуць наперадзе. Яны перавыконваюць прамфінплян. Ужо другі тыдзень сядзяць на аэрапляне. Ваша брыгада мае ўсе магчымасьці, каб быць ўперадзе,—гаварыў дырэктар торфзаводу тав. Дыманштэйн. Давайце абгаворым прычыны, якія тармозяць работу брыгады. Чаму вы адстаіцё ад бранцаў?

— Чаму?—так задаў сабе пытаньне кожны з 26-ці камунараўцаў, з брыгады тав. Саламахі.

Адзін за адным гаварылі.

— Уся справа ўпіраецца ў тое, што ў нас цякучасьць рабочай сілы,—першым пачаў кар'ершчык тав. Дакука.

— Загадчык сталоўкі ў нас новы, а парадкі ў сталоўцы старыя... Чарга за абедам. Трацім марна час.

— Нас душаць тэхнічныя прастоі.

Гаварылі аб ўсіх непаладках, якія маюцца з боку самой брыгады і з боку дырэкцыі. Парашылі:

— Змагацца за пяршынство, за месца на аэрапляне.

— Апярэдзіць бранцаў!

— Паб'ём бранцаў,—гарачыўся маладзенькі хлапец, ліхі сякач тав. Грышанін.

— Толькі ня рукамі біць бранцаў, а плянам.

— Ды і зусім ня плянам, а бранцаў мы паб'ем справай—перавыкананьнем прамфінпляну.

Два дні набіралі тэмпы.

Брыгада бранцаў ўважліва сачыла за ходам выкананьня прамфінпляну ў брыгадзе Саламахі.

Заварушылася і трэцяя брыгада тав. Адынцова. Брыгада Адынцова таксама перавыканала норму.

Па торфазаводу разьнеслася нерадасная для бранцаў вестка:

— Бранцы здаюць тэмпы!

— Бранцы выпрацавалі трыццаць пяць тысяч, а брыгада Саламахі—трыццаць сем.

У другую зьмену бранцы падцягнуліся. Яны далі нячуваную на торфазаводзе лічбу. За чатыры гадзіны выпрацавалі дваццаць тысяч цэглін торфу, г. зн., што за васьмігадзінны рабочы дзень яны змогуць даць сорак тысяч. Пачалося сапраўднае спаборніцтва за пяршынство.

Каля машыны сьпяшаюцца людзі. Брыгада Алеся Саламахі прыйшла зьмяняць бранцаў.

Бегаюць людзі ўзад і ўперад. Сьпяшаюцца.

Стрэлка вялізарнага гадзіньніку, што вісіць пад навесам машыны падпаўзла да 10-ці гадзін.

З рабочага пасёлку загула сырэна.

— Не здаваць тэмпаў!

— Абагнаць бранцаў!

Бранскія тарфянікі маюць багаты вопыт работы па здабычы торфу. Цяжка за імі ўгнацца. Аднак, таварыш Саламаха рашыў абагнаць бранцаў. Гэтую думку ён трымаў у сабе цэлыя два тыдні. Нікому аб ёй не гаварыў. А цяпер, калі ўся брыгада ўхваліла прапанову свайго брыгадзіра аб спаборніцтве з бранцамі, дык гэта ўжо ёсьць думка ні аднаго Саламахі, а калектыву з дваццаці шасьці чалавек.

Саламаха добра ведае, якая ляжыць на ім адказнасьць, як на брыгадзіры. Яго задача арганізаваць людзей, правільна расставіць усіх на рабоце.

— Быць заўсягды самому ўперадзе, уласным прыкладам весьці брыгаду за сабой, выпраўляць на хаду непаладкі—гэта добра ўцяміў сабе брыгадзір Саламаха. Гэты малады, гадоў пад дваццаць пяць, хлапец з камарынскіх калгасных палёў прынёс з сабою разам з песьнямі шмат бадзёрасьці, шмат энэргіі і энтузіязму.

Алесь Саламаха перавёў хвіліны на сотні цэглін. Вось таму ён і б'ецца за эканомію кожнай хвіліны. Трэба ў самы найкарацейшы тэрмін пераставіць машыну, перавесьці і замацаваць якар. На перастаноўку машыны даецца 20 хвілін. У пачатку сэзону брыгада траціла на перастаноўку машыны цэлую гадзіну. Цяпер перастаноўка займае ад 30-ці да 40-хвілін. Трэба давесьці працяжнасьць перастаноўкі машын да мінімуму. І ад гэтага сьпешка каля машыны. Кожны стараецца зрабіць сваю працу, як найскарэй, як зрабіць найлепш. Невялікая замінка на адным вучастку выклікае затрымку ўсёй машыны, усёй брыгады.

Бранцы кідаюць апошнія рыдлёўкі торфу на элеватар. Іх месца займаюць дваццаць шэсьць з брыгады таварыша Саламахі.

Кароткі адрывісты сьвісток. Машына стала. Нібы зьдзіўленыя змоўклі шкіфы матораў. Апошні раз бразнуў стальлю і спыніў свой бесьперапынны бег элеватар.

На хвост змоўкшага элеватару ўзьбіраюцца трое бадзёрых і маладых хлопцаў з брыгады Саламахі. Баявы камандзір брыгады Алесь Саламаха падае каманду:

— Уперад!

— Раз! Два!

— Ёсьць!

Узяўшыся разам за ланцуг, зьвеньні якога злучаны з блокам, хлопцы з песьняй падымаюць хвост элеватара. Павольна, нібы ўпіраючыся, крэкчучы паўзе ўгору хвост элеватара. Вось яго паднялі на ўзровень поля сьцілкі. Унізе засталося чорнае дно кар'еры.

— Стоп!

— Хопіць!

— Ёсьць!

Нібы хобат гіганцкага сланя вісіць элеватар на машыне.

— Хлопцы, сып сюды,—камандуе Саламаха.

Пачалася перасоўка машыны на новае месца. З вар'яцкай хуткасьцю круціцца кола матору. Але чарапашым ходам прасоўваецца машына наперад. Здаецца нібы дрыжыць зямля пад нагамі. Няпрызвычаены чалавек адчувае сябе тут, як пасажыр на палубе судна у час шторму. Соўгаецца машына па пракладзеных пад ёю рэйках. Рухаецца машына наперад. На другім канцы машыны ідзе перастаноўка якару. Цяжкі якар пад напорам 4-х пар чалавечых рук прасоўваецца па дошках на месца работы.

— Стоп!

— Ёсьць!

Машына перасунута. Сёньня ў машыны брыгада Саламахі адваявала 4 хвіліны часу. Гэта дадатковая тысяча цэглін торфу.

— Хлопцы, па мясцох!,—падаецца каманда. Звонкі голас брыгадзіра Саламахі выразна чуецца сярод шуму матораў,

Кар'ершчыкі адзін за адным спушчаюцца ў кар'еру. Рольшчыкі і сьцільшчыкі пашлі далёка на поле сьцілкі. Туды працягнуліся роўныя і доўгія шнуры тросаў.

Закончана апошняя падрыхтоўка да пуску машыны. Адзначана дошчачкай месца сьцілкі бранцаў.

Таварыш Саламаха яшчэ раз праверыў ці ўсё на сваіх мясцох.

Каля машыны ўжо няма сьпешкі і бегатні. Кожны заняў свае месца. Сякач прыгатаваў свой інструмант—доўгі востры нож. Кар'ершчыкі прыгатаваліся з рыдлёўкамі.

Раздалося ў паветры звонкае і бадзёрае слова:

— Пускай!

Загудзеў матор. Зноў парушылася вячэрняя цішыня. Кар'ершчыкі бесьперапынна выграбаюць і накідваюць на элеватар усё новыя

і новыя кучы торфу. Бясформеная маса торфу пад вострымі і прагнымі зубамі барабана ператвараецца ў чорнае месіва.

У баку машыны тоўстая труба. З шырокага горла трубы бесьперапынна плыве лента чорнай тарфяной масы. Сякач расьсякае ленту на цэгліны. Адна за другой нясуцца па канвэеру цэгліны на полесьцілкі. Сьцільшчыкі кладуць роўненькія цэгліны торфу ўздоўж канвэеру. Бесьперапынна запаўняецца поле сьцілкі цэглінамі торфу.

Павольна рухаецца стрэлка па цыфэрбляту. І па меры руху стрэлкі гадзіньніка растуць усё новыя і новыя рады чорнага золата.

Сякач Грышанін ня супімаўся.

— Таварыш Саламаха, сёньняшняя работа нашай брыгады вырашае ўсё. Або мы перагонім бранцаў, або астанёмся. Дазволь, стрэлку гадзіньніка адагнаць... назад на 10 хвілін. От, мы за гэты час і нацягнем...

— Там кожны здолее нагнаць,—адказаў Саламаха,—хочаш быць на аэрапляне, дык працуй па ўдарнаму, працуй добрасумленна.

— А не паб'емся мы з бранцамі седзячы на адным аэрапляне,— хтосьці пажартаваў з кар'ершчыкаў.

— От, каб, хлопцы, ды—бранцаў з аэрапляну „сігануць".

— Не здаюцца чэрці! Сёньня за чатыры гадзіны далі дваццаць!—

— А мы?

— Мы далі дзевятнаццаць восемсот, а цяпер за чатыры гадзіны мы павінны даць ня менш, як дваццаць тры.

— Дадзім!

— Тава... таварышы! Мы павінны даць дваццаць тры тысячы цэглін за гэтыя чатыры гадзіны!

Гудзіць матор. Ярка сьвеціць пражэктар.

За работай не заўважылі, што прайшоў час працы.

На зьмену прышла брыгада тав. Адынцова.

— Канчай!

Дваццаць шэсьць камунараўцаў вачыма ўпіліся ў свайго брыгадзіра Саламаху.

— Колькі мы выпрацавалі сёньня?

— Колькі?

Саламаха, весела жмурачыся каля пражэктара, адказвае:

— Сорак адна тысяча!

— Ур-ра!

Рэха радасьці разьлілося ў паветры, пакацілася далёка за Бярозу, туды, дзе дымяць трубы фабрык і заводаў.

— Музыка.

— Марш Будзённага!

— Вядзі-ж Будзённы нас сьмялей у бой...

На другі дзень брыгада тав. Саламахі выкінула лёзунг:

— Выкінуць „чарапаху“ з нашага торфазаводу!

За лепшую работу, за ўдарныя тэмпы дырэкцыя торфзаводу „Камунар“ прэміявала брыгаду таварыша Саламахі. Ад імя брыгады гаварыў брыгадзір Саламаха.

— Таварышы дырэктар і сакратар парт‘ячэйкі, сорак адна тысяча цэглін гэта яшчэ не канчатковая лічба. Мы можам даць больш і дадзім!

— Дадзім! Амаль разам загаварылі ўсе дваццаць шэсьць з брыгады Саламахі.

*Я. Ліманоўскі*

# Карчы на полі

## Нататкі

(*Калгас „Надзея“, Луначарскага сельсавету, Дрысенскага раёну.*)

У куце, дзе рака Дзісёнка зьбягаецца з Зах. Дзьвіной, шчыльна прытуліўся да Дзьвіны сваім касьцёлам, яскрава-чырвоным будынкам бальніцы і доўгай істужкай маленькіх, драўляных старых домікаў горад Дзісна. На правым беразе Дзьвіны разьмясьцілася ваколіца Дзісны, якая называлася раней Дзісна-Мікалаеўская—зараз сяло Луначарск. Трэба прайсьці кілёмэтр ад ракі па раўніне правага берагу і тады праз прысады цёмна-зялёных хвоек падняцца на горку ў былы маёнтак Каменка палкоўніка Біскупскага. У 1918 годзе палкоўнік Біскупскі запрасіў гарманіста (з-за адсутнасьці другой музыкі), запрасіў да сябе нямецкае афіцэрства, не пакрыўдзіўшы і фэльдфэбэля, і, пад зычныя гукі гармоніка і п‘яны рогат прысутных,— справіў свой апошні баль. Адвітаўшыся усур‘ёз і... назаўсёды з маёнткам, наступнай раніцай выехаў разам з немцамі.

У Дзісьне замацавалася савецкая ўлада—павятовы яе цэнтр. У маёнтку Каменка саўгас—праўда, тады яшчэ вельмі слабы.

У часе грамадзянскай вайны лініяй фронту Чырвонай арміі з белапалякамі была Дзьвіна. Пазьней яна стала мяжой паміж панскай Польшчай і БССР.

Зараз шмат што зьмянілася ў Луначарску і былым маёнтку Каменка. У Луначарску пабудаваны сельсавет, пры ім клюб і хата-чытальня, працуе сельпо. А на горцы, каля Каменкі, сьвеціць задорна сваёй бялізной, як быццам сьмяецца з ціхае, соннае Дзісны, новая школа-пяцігодка. На месцы, дзе хутарскія настроі прыкрываліся шыльдай арцелі, у Каменцы—вялікі калгас „Надзея“. Да Каменкі ў калгас далучыліся вёскі ў пасёлкі: Горкі, Нурава, Букі, Накоўнікі і Віктарынава. Усяго ў калгасе 124 сям‘і. У тым ліку 12 яўрэйскіх сем‘яў. Значная частка луначарцаў знаходзіцца ў калгасе. Іншыя яшчэ працуюць аднаасобна (іх трэба ўцягваць у калгас) або працуюць у савецкіх установах.

У Каменцы быў даволі прыгожы, двухпавярховы мураваны дом—палац Біскупскага. У часе грамадзянскай вайны ён быў пашкоджан знарадамі, і арцель не зацікаўлена была, каб адрамантаваць дом. Дом арцельшчыкі разабралі на цэглу і прадалі. Засталася толькі нізенькая прыбудова, у якой зараз месьціцца сталоўка і некалькі пакояў

занята пад кватэры калгасьнікаў. Разабраны на цэглу таксама бровар. Захаваліся, аднак, у добрым стане іншыя гаспадарчыя будынкі: два вялізных гумны з пад'ездам наверх (што значна паскарае працу пры звозцы ўраджаю), добры кароўнік, невялічкая стайня. Не хапае кватэр.

Восеньскай пазалотай афарбаваны Каменскі парк. Парадзеў. Арцельшчыкі высякалі яго на дровы ды з пэўнай хітрасьцю: карчы закладалі шчэпкамі і гальлём, а камель і галінкі чыста падбіралі. Сьвеціцца ён лагоднай прозалацьцю лісьцяў. Асыпаюцца яны,—шуршаць пад нагамі, маленькія вострыя бярозавыя мяшаюцца з круглымі, важкімі—асінавымі. Хвойкі, бы карагод, шчэплены за рукі, цёмна-зялёным пасам агортваюць гай. Па-над імі распасьцёрліся бярозы, цягнуцца галінамі ў поле, у прастор. Зарасьлі дарожкі. Зелянеюць яшчэ высокія, крывыя вербалозы. У парадзелых мясцох парку расьце маладняк ды зарасьлі крушыны. І зараз пакрысе высякаецца парк: бярозавыя камлі—на сталярскія патрэбы, а старыя прысохшыя бярозы—на дровы для сталоўкі.

А дарма зьнішчаецца парк; яго можна прыстасаваць для адпачынку калгасьнікаў ў вольны час.

Правільныя рады яблынь каля парку падняліся вышэй, разраськліся ўшырку. Паміж імі пасеяна бульба. Сад яшчэ малады. Гладкая дарога праразае сад—пад'езд да галоўнага дому Каменкі. Абапал рослыя маладыя дубы засьцілаюць яе цьвёрдымі шаршавымі лістамі ды жалудамі.

Нядзельнік. Звозяць з поля гарох. Паміж гумнамі двор застаўляецца друкамі (стажкамі гароху, складзенымі на трох скрыжаваных жэгінях). Калгасьніцы ды хлапчукі пад'яжджаюць да друкаў, абарачваюць воз з гарохам; тут яго бяруць віламі, складаюць у друкі. На друку адзін чалавек прымае яго, удратоўвае.

На роўнядзі паміж узвышшам, на якім стаіць Каменка, і Дзьвіной—гарохавае поле. Брыгада дзяўчат каля самае Дзьвіны зграбае гарох у валы. За імі ідуць фурманкі, складваюць вазы, адвозяць у Каменку. Дзяўчаты сьпяваюць усьцяж адну працяжную песьню. Мэлёдыя яе вельмі напамінае дажыначную,—з працяжнай канцоўкай.

За пярэстымі хмаркамі схавалася, апусьцілася ніжэй сонца. З настаўніцай Арловай вяртаемся з калгасу ў Луначарск. Зышлі са сгромкага берагу, ідзем дарожкай каля самае ракі. У Дзісьне, па Набережнай вуліцы, стаяць, яшчэ з часу грамадзянскай вайны, дамы бяз вокан: двухпавярховы мураваны, дзе быў савецкі ваенкамат, аднапавярховы шэры драўняны, дзе мясьціўся ЗАГС, і—некалькі іншых. У адным месцы, дзе былі домікі, зараз роўная запушчаная пляцоўка. Больніца па-ранейшаму сьвежа-чырвоная, агарожана штакетамі з дошак. Казалі калгасьнікі, што гэты плот часта ламаюць. Уначы адарве

кавалак плоту, спусьціць яго на Дзьвіну, накшталт парома, і плыве на наш бок. Над турмой відаць антэна.

Мы спыніліся насупроць касьцёла, прыглядаемся. З пабеленага дому на рагу вуліц вышла шэрая постаць паліцыянта. Падышоў бліжэй да ракі насупроць нас, пастаяў нярухома некалькі хвілін, азірнуўся і пашоў. Звоняць на вячэрнюю малітву. У белым шчыце касьцёла віднеецца шэрая прорва ад знараду. Уласьнікі гэтай установы, трэба сказаць, любяць фэтышызаваць некаторыя рэчы. У 1919 годзе можна было наглядаць у гэтым-жа шчыце касьцёла дзьве вялізныя, круглыя, цёмныя кулі. Казалі, што трапілі яны сюды ў часе напалеонаўскай вайны. Ня цяжка было, аднак, распазнаць, што ўправіла іх туды ўмелая рука муляра, ды так, каб і ня выпалі яны, і каб відаць было. Да гэтых „цудаў" далучыўся, як відаць, і савецкі снарад у часе грамадзянскай вайны.

У маладым гарадзкім парку, што каля самага зьбегу Дзісёнкі і Дзьвіны, зусім пуста. Відаць недазволена там шпацыраваць. Зусім нядаўна і гэтай дарогай патрапілі перабрацца ўцекачы. Дасталі дзесьці на рацэ Дзісёнцы лодку, абагнулі востраў на рацэ, што насупраць парку і пераплылі на наш бок.

Булькае па каменьнях сьцюдзёная, сталёва-шэрая вада. Шмат яе ўвосені.

---

Вучні пяцігодкі актыўна дапамагаюць калгасу па выкапцы бульбы. На плошчы за вялізнай сажалкай чутна іх жвавая гамонка. Кажушкі, сьвіткі, шапкі, хустачкі, камашы, боцікі, пантоплі рассыпаліся па ўсёй плошчы. Варушацца бы мурашнік. Не хапае кошыкаў, дык вучні далі рады: адна брыгада выкапвае бульбу, скідвае яе тут-жа на месцы ў маленькія купкі, а другая ідзе за імі, зьбірае ў кошыкі і ссыпае ў кучу. Настаўніцу Жытамірскую цяжка нават адшукаць сярод іх. Толькі калі вецер накіне на вочы яе падстрыжаныя валасы, выпрастуецца, згінам кісьці рукі адгорне і адкіне іх за вушы, і зноў капае. Жытамірская са сваёй самай вялікай па колькасьці брыгадай паход на бульбу робіць даволі часта.

Калгас „Надзея" зьяўляецца даволі моцнай гаспадаркай. Зямлі ў калгасе 1160 га. Мае калгас і даволі моцную базу інвэнтарную. Ёсьць, між іншым, малатарня складаная і асобны рухавік да яе. Гэты-ж самы рухавік скарыстоўваецца для расьпілоўкі круглякоў на дошкі.

Як падсобная даходная крыніца, да калгасу належыць і вадзяны млын ў Луначарску.

Калі параўнаць колькасьць зямлі і колькасьць рабочых рук, дык у гэтым калгасе ўмовы значна лепшыя, чымся ў іншых. Аднак, у працы ён ня ідзе значна наперадзе. Яшчэ ня зусім ўкаранілася зьдзельшчына, хоць яна ўжо застасоўваецца амаль цалкам. Прыклад,

калі ў вёсцы Букі на выкапаньне гэктара бульбы прыпадае 47 чалавек, гаворыць аб тым, што калгас яшчэ кульгае ў сэнсе ўзьняцьця зьдзельшчыны, працдысцыпліны. Разьмеркаваньне ўраджаю ў гэтым годзе—гэта яшчэ першае разьмеркаваньне паводле паказальнікаў зьдзельшчыны. І першае разьмеркаваньне ячменю па працаднёх прымусіла прызадумацца шмат каго з тых, што спадзяваліся на кулацкую ўраўнілаўку, і падняла настрой тых, хто клапаціўся мець больш працадзён, хто больш старанна выконваў і перавыконваў зьдзельшчыну.

Луначарскі сельсавет мае ўжо 86% калектывізацыі. У 1929-30 годзе тут была нават праведзена суцэльная калектывізацыя, ды пазьней частка адсеялася.

Але ўжо сам факт, што калектывізацыя ахапіла поўнасьцю некаторыя вёскі, гаворыць аб тым, што ў калгасы папаў і варожы кулацкі элемэнт. Да гэтага часу ня было самаачысткі ў калгасе „Надзея", і тут варожы элемэнт нават патрапіў часова замацавацца, замацаваць свае пазыцыі.

## Першая бойка

У гутарках з калгасьнікамі ў мяне стварылася ўражаньне, што самаачыстку калгасу трэба было правесьці ўжо даўно. Першым кандыдатам на вычыстку называлі палявода Валынца; гэта—былы канторшчык, былы цівун (старшы рабочы) палкоўніка Біскупскага. Калгасьнікі расказвалі рад цікавых пра яго момантаў, расказвалі з пэўнай асьцярожнасьцю: калі праходзіць жанчына ці хто іншы, калгасьнік спыняе гутарку пра Валынца, пачакае, азірнецца,—нікога няма, ды зноў расказвае. Валынец патрапіў завербаваць сабе прыхільнікаў і паставіць сябе ў такія адносіны да іншых, што яго пабайваліся. Ранейшы старшыня калгасу Лучаноўскі, камуніст, зьняты за бязьдзейнасьць, аб'ектыўна стварыў такія ўмовы, што пры ім Валынец быў нечым накшталт неабмежаванае ўлады.

Настрой супроць Валынца ў калгасьнікаў узмацняўся, ды быў ён больш схаваным, не паказваўся звонку. Сельсавецкай ячэйцы трэба было ўвесь матар'ял пра Валынца сабраць, праверыць і своечасова стаць на чале гэтага зусім слушнага абурэньня калгасьнікаў дзейнасьцю Валынца. Ячэйка ўзялася за гэту справу з некаторым спазьненьнем. Абмеркавала пытаньне самаачысткі, парашыла выставіць Валынца на вычыстку. Аднак вышла гэта справа няўдала: Валынец загадзя даведаўся пра пастанову ячэйкі, пачаў актыўна рыхтавацца да „абароны", а ячэйка не сьпяшалася канкрэтызаваць сваю пастанову, ня ўлічыла ўсіх карэньняў, якімі Валынец урос у калгас, і не павяла папярэдняй падрыхтоўкі.

Нарэшце, 14 кастрычніка быў склікан сход калгасьнікаў, прысьвечаны самаачыстцы.

У маленькім пакойчыку старшыні калгасу сабраліся камсамольцы і некалькі чалавек беспартыйных калгасьнікаў у якасьці актыву. Прадстаўнік ячэйкі, загадчык сельпо Бобрыкаў зрабіў інфармацыю, зрабіў наказ камсамольцам, каб яны на сходзе праявілі большую актыўнасьць.

Тым часам у сталоўцы жонка Валынца пачала праяўляць „клопаты“ аб калгасьніцах.

— Дайце павячэраць вось гэтай. Сядайце вось тутка. Куды вам сьпяшацца, сёньня-ж сход.—Частавала калгасьніц вячэрай, угаварвала застацца на сходзе.

Валынец перад сходам высунуў гэткі лёзунг: „Калі ёсьць савецкая ўлада, дык мяне ня вычысьцяць,—калі вычысьцяць, дык савецкай улады няма“. А зараз Валынец у калідоры каля сталоўкі просіць мужчын-калгасьнікаў: „Вы-ж мяне ня губіце“.

У калгаснай сталоўцы паўнютка людзей. Сядзяць шчыльна вакол сталоў, стаяць у праходах, а частка нават у калідоры. Лямпа стаіць на стале і таму ў кутках сталоўкі цемнавата. Накурана, хмары шызага дыму яшчэ больш павялічылі змрочнасьць.

На сходзе сёньня больш, чымся звычайна, жанчын. Спачатку мне здаецца, што гэта адзнака калгаснай актыўнасьці. Але гэта ня так.

Сход сьцішыўся і напружана слухае. Таварыш Бобрык,—крыху ўзварушаны, голасна, пераканаўча характарызуе дзейнасьць Валынца. А „заслуг“ у яго ня мала. Першае месца займае антысэміцкая дзейнасьць. У часе спрэчак на полі Валынец пабіў шворыкам Боруха Лапідуса. „Каб не яўрэі, дык і калгас быў-бы як калгас“—прызнаваўся Валынец калгасьнікам. Малады хлапец баранаваў, прысталі коні,—хочацца выканаць норму—просіць Валынца даць другіх коняй. „Падпражы сваю матку, калі не цягне“—адказвае Валынец. Калі прышоў працаваць новы старшыня калгасу Гэтэ і паказаў, што хоча дабіцца цьвёрдага парадку, Валынец як мага яму процідзейнічаў. Валынец выступаў на сходзе і агітаваў супроць адкрыцьця сталоўкі. Жыта пасеяў неачышчанае, з гірсой, што зьяўлялася звычайным шкодніцтвам. Бобрык пералічае рад фактаў антысэмітызму, шкодніцтва, кулацкай агітацыі ў калгасе.

Скончылася інфармацыя. На сходзе цішыня. Пакуль што ніхто не бярэ слова. Толькі адгукаюцца нясьмелымі рэплікамі, быццам выведваюць настрой, прашчупваюць глебу. Пачынаюць абарону Валынца. Усё грамчэй, заахвочваючы адзін аднаго. Малады калгасьнік Карповіч, выключаны з камсамолу, выступае ў абарону Валынца.

„Мы ўсе вінаваты, кажа Карповіч, высоўваючы сваяасаблівую „кругавую паруку“.

Абаронцы Валынца набіраюць больш актыўнасьці.

„Узводзіць паклёп на чалавека дарма. Пасадзіць абвінаваўцаў на яго месца“ —гаворыць, дасягнуўшы ўжо пэўнай актыўнасьці, невялічкі, з бародкай калгасьнік—Пятухоў Павал. Казалі калгасьнікі, што нібы-то ён быў афіцэрам у царскай арміі.

Выступае Кароньнік, камсамолец, яўрэй, кідае ў вочы Валынцу жменьку антысэміцкіх фактаў.

На Кароньніка накідваюцца адзін за другім валынцовы прыхільнікі.

— „Ён тады малы быў,—ён яшчэ нядаўна гаварыць навучыўся“—нападаюць на Кароньніка, стараючыся зьменшыць ураженьне ад фактаў, якія ён падаў.

Іншыя яўрэі-калгасьнікі маўчаць.

— Ну скажы ты, Борух, як там было, калі цябе пабілі,—пытаецца Гэтэ.

— Ужо загаілася,—адказвае той.

Відаць, не набраўся яшчэ сьмеласьці выступіць.

Уражаньне, што Валынца шмат хто баіцца, пацьвярджаецца паводзінамі калгасьнікаў.

Маўчаць, як быццам вады ў рот набраўшы, і камсамольцы.

Толькі Жытамірская, настаўніца-камсамолка, актывістка ў калгасе энэргічна і пераканаўча падае рад фактаў з уласнага нагляданьня. Для Валынца, аказваецца, выступленьне Жытамірскай было нечаканым.

Нарэшце не сьцярпеў, узяў слова Мулька Лапідус. Устаў узварушаны, пачырванеў, быццам гатовы кінуцца з кулакамі.

— Кроў не вада, не магу цярпець. І хоць ты мой старшы брат,—зьвяртаецца да Боруха Лапідуса,—але ты дурак, калі маўчыш. І Сосьперу скажу, што ён дурак. Дакуль Валынец будзе зьдзеквацца над намі.

Мулька Лапідус гарачыцца, падае усё новыя факты.

— А ты памятаеш,—зьвяртаецца да Валынца,—як ты з немцамі бегаў, шукаючы ключа ад сьвірана? А ты памятаеш, як ты прыходзіў у маю хату і хацеў адабраць бандыта Шэфа, калі я яго арыштаваў, калі тут была нейтральная зона?

Мулька Лапідус з Луначарска—бядняк, плытагон, вясковы актывіст, наш, савецкі актывіст. У часе, калі была нейтральная зона, ён сапраўды па сваім пачыне арыштаваў, раззброіў бандыта Шэфа. Спутаў яго звычайнымі конскімі жалезнымі путамі, пратрымаў ноч у сваёй хаце, сам схаваўся, каб не напалі бандыты. А местачкоўцы пільнавалі з палкамі каля хаты. На другі дзень местачкоўцы адправілі яго пад сваёй „палачнай“ аховай і здалі крымінальнаму вышуку

ў Валынцах. Мулька Лапідус пашоў у калгас „Надзея“, ды пасьля яго скарыстала сельпо ў якасьці загатоўцы. З гэтай працай Мулька справіўся вельмі добра. Луначарскае сельпо прэміруецца як адно з першых у раёне. Тым часам у калгасе палічылі чамусьці Мульку выбыўшым з калгасу. І калі Мулька Лапідус падаў заяву аднавіць яго як калгасьніка, дык новае праўленьне чамусьці пастанавіла ўстрымацца.

Памылка. Такія, як Мулька Лапідус, павінны быць у калгасе.

У абарону Валынца выступае і стары Бароўскі. Ён хітравата расказвае, нібыта Валынец у старой арцелі не адыгрываў кіруючай ролі, нібыта ён добры работнік. Бароўскі, адзін з старых парабкаў-ардынаршчыкаў, што служылі ў палкоўніка Біскупскага. Аднак, гэта паднявольная цяжкая служба, відаць, ня выхавала, не ўзьняла сьвядомасьці Бароўскага. Заўсёды ходзіць панура, хаваючы голаву ў каўнер свайго кажушка, неабыходлівы, адзінокі, нібы той сыч, і нездаволена бурчыць на тое або іншае здарэньне.

Абаронцы Валынца пасьля выступленьня Мулькі Лапідуса зьменшылі сваю актыўнасьць, але ня выступалі яшчэ і тыя, хто ведаў усю шкодную працу Валынца. Прэзыдыум дае слова мне.

Напамінаю рад фактаў з часоў існаваньня арцелі, у якой Валынец адыгрываў не апошнюю ролю. Адным са спосабаў антысэмітызму ў Валынца—гэта паслаць яўрэя на работу, якой ён ня ведае і не паказаць як рабіць гэту работу. Гэта замаскаваны антысэмітызм. Валынец часам накрычыць бяз толку і дае гэткую ўстаноўку: „Калгасьнік павінен працаваць цэлыя суткі“.

Раскрываю лёзунг кругавое парукі—„мы ўсе вінаваты“. Такім лёзунгам прыхільнікі Валынца імкнуцца замазаць яго шкодную дзейнасьць.

— Трэба прыслухоўвацца да голасу мас,—кажу ў заключэньне. Ячэйка пазнавата ўзялася за выкрыцьцё шкоднай дзейнасьці Валынца. А куды дзеліся тыя калгасьнікі, якія мне асабіста расказвалі рад фактаў пра дзейнасьць Валынца?—запытваюся ў сходу.—Чаму яны маўчаць?

На сходзе запанавала часовая ціша. Слова яшчэ ніхто не бярэ. Праз хвіліну праціскаецца бліжэй да стала прэзыдыуму, калгасьнік Сініца Міхайла, столяр. Стары кажушок на ім, зімовая са скураным верхам шапка, адагнуты брыль на патыліцу, цёмная шчотка непаголенай барады на даўгаватым твары.

— Мне можа і не дадуць жыць, але я скажу ўсю праўду, нічога не салжу.

Ціхім, шчырым голасам, праўдзіва гаворыць Сініца пра тое, што набалела:

— У карты Валынец грае. Зьбяруцца ў яго, ды граюць праз усю ноч. І майго мальца сапсаваў ён. А ўдзень Валынец зачыніць кватэру

на ключ, сам улезе ў хату праз вакно і сьпіць. Шукаюць Валынца, а яго няма,—пакуль ня высьпіцца. Калі раздавалі ячмень, прыходжу і я атрымліваць. Мне ня выдаюць. „Няма цябе ў сьпісе", кажа Валынец. Іду ў канцылярыю, пытаюся, чаму мяне няма ў сьпісе. „Ды як няма.—кажуць,—ёсьць". Прыходжу, аж сапраўды аказваецца я ў сьпісе. А Валынец хацеў пазьдзеквацца нада мною.

Сініца расказвае яшчэ рад іншых дробных фактаў. Скончыў, адышоў, праціскаецца на сваё месца за сталом, каля сьценкі.

— Яшчэ я скажу,—дадае з месца Сініца,—што і яўрэі добра працуюць, і ня гультаі, і няправільна на іх Валынец насядае.

З кута пакою паднімаецца Жук Іван. Невялічкі, з чорнай бародкай, гаворыць павольна, супакойна, спыняецца, як бы прыпамінае і адзін за другім расказвае факты.

За сваю „працу" Валынец быў вычышчан з арцелі. Тут былі ўлічаны як продаж броварных катлоў прыватніку, так і іншыя факты. Праз нейкі час Валынец зноў, нейк, уцёрся ў арцель. Калгасьнікі казалі, што была пратэкцыя ў раёне.

— І чаму ён так упарта трымаецца Каменкі. Яго вычысьцілі, а ён зноў сюды улез,—гаварылі часам пытліва калгасьнікі.

Пасьля выступленьня Сініцы і Жука пачалі ўжо выступаць і калгасьнікі-яўрэі. Малады яўрэй, Левітан, ня прызвычаены выступаць на сходах. Гутарка яго няскладная. Ён гаворыць тое, што набалела; свае думкі ён хоча падмацаваць малюнкам: „Вось, бачыце,—паказвае ён пальцам на плякат, на якім намалёваны кулак,—вось і наш Валынец такі самы, як на гэтай карціне".

Усьлед за Левітанам выступае і Борух Лапідус.

Папаўняе фактамі і старшыня калгасу тав. Гэтэ. Нарэшце даходзіць чарга да самога Валынца. Даюць яму слова.

Сярэдняга ўзросту, плячысты, у шэрай сьвітцы,—поўны, не паголены твар, рухлівыя вочы неяк недаверліва спазіраюць па бакох, быццам асьцярожна хочуць выведаць, дапытацца. Валынец на рад фактаў не дае абвяржэньня. Ён прызнаецца, што быў канторшчыкам у палкоўніка Біскупскага, што быў арыштаваны пры немцах і пры савецкай уладзе. Валынец галоўным чынам імкнецца дыскрэдытаваць усіх тых, хто выступаў супроць яго. Пачынае з настаўніцы Жытамірскай.

„Жытамірскай таксама можна прыпісаць шкодніцтва. Калі вучні капалі бульбу, дык цэлымі кучамі закапвалі яе ў баразьне.

— А чаму ты не зьвярнуў увагу,—падае нехта рэпліку са сходу.

— Я-ж баяўся да яе падыйсьці, яна-ж актывістка, культурніца.

Мне самому давялося некалькі разоў наглядаць, як настаўніца Жытамірская з вучнямі працавала па выкапцы бульбы і заява Валынца гучыць нахабным паклёпам.

Валынец стараецца пацьвердзіць сваю „пралетарскасьць“: „Я ажаніўся на сьвінарніцы, а ня так як Бобрыкаў—на інтэлігентцы, настаўніцы“,—кажа Валынец, стараючыся прыцягці за вушы і асабістыя сямейныя справы.

— „Гэтую ўсю справу, што мяне чысьцяць, робіць несьвядомая ячэйка“,—агітуе Валынец і, зьвяртаючыся да прэзыдыуму, разьвівае далей сваю думку: „Дык вось, таварышы камуністы, рабеце са мною што хочаце, можаце хоць расстраляць, але тады гадуйце маіх дзяцей,—я іх прынясу і пакіну вам“. Валынец не абмяжоўваецца дэмагогіяй, а стараецца і гразіць: „Каб і тваіх дзяцей спаткала, і спаткае, такая судзьба, як і маіх“,—гаворыць злосна зьвяртаючыся да Бобрыкава.

Валынец, большасьць фактаў не абвергнуў, і рашыў шляхам дэмагогіі зьвярнуцца да пачуцьця сьлязьлівасьці і шкадаваньня калгасьніц.

Пасьля выступленьня Валынца сход яшчэ крыху працягваецца, выступаюць з кароткімі прамовамі. Валынец раней стаяў ціха, цяпер падае актыўна рэплікі.

Сход зацягнуўся і пакрысе зьмяншаецца. Застаюцца, аднак, да канца ўсе жанчыны.

Пытаньне аб вычыстцы Валынца даходзіць да канкрэтнага вырашэньня.

Паднімаецца Лісоўскі Іван і робіць прапанову: „Нельга так Валынца губіць, а трэба яго з палявода зьняць, а не—перавесьці ў другі калгас“.

У першы вечар, калі я толькі прыехаў у калгас, на мяне Лісоўскі Іван зрабіў добрае ўражаньне. Гутарылі з калгасьнікамі аб ўсялякіх недахопах. Мне запамяталася гэткая думка, выказаная Лісоўскім: „Працуем таму, што можам чагосьці лепшага дачакацца, а раней ня было чаго чакаць“. Зараз-жа Лісоўскі гавора: „Шкада чалавека, куды яму дзецца“. Прапанова Лісоўскага, відаць, загадзя была падрыхтавана і „пагоджана“ з Валынцом.

Не, таварыш Лісоўскі Іван, з такімі прапановамі (бяду загнаць з аднаго калгасу ў другі) нам лепшага не дачакацца.

Пасьля значнай папярэдняй падрыхтоўкі і дэмагогіі Валынца, прапанова Лісоўскага Івана зьбірае большасьць галасоў, пераважна жанчын.

Пасьля галасаваньня бяру слова для прапановы. Валынец большасьць выпадкаў сваёй шкоднай дзейнасьці, антысэмітызму і інш. не абвергнуў. Галасаваньне паказвае, што ёсьць яшчэ несьвядомая частка сярод калгасьнікаў. Я прапаную справу перадаць памоцніку пракурора і прыцягнуць Валынца да судовай адказнасьці, бо рад

фактаў, аб якіх гаварылі на сходзе, зьяўляюцца крымінальным злачынствам. З нейкай злоснай рэплікай адгукнулася адна жанчына, аднак маю прапанову сход усёткі прымае, пакінуўшы ў моцы тое, што Валынца трэба перавесьці ў другі калгас.

Ужо далёка за поўнач. Сход разыходзіцца.

На двары нязвычайная цемра. За дзесяць крокаў нічога ня відаць. Вобмацкам каля дрэў, каля канаў, шукаем больш сухое месца на гразкай дарозе і вяртаемся цэлай грамадой у Луначарск. Дзьме цёплы яшчэ паўднёвы вецер, пырскае дробнымі кроплямі дождж.

---

Вынікі сходу абмяркоўваюцца на пасяджэньні бюро ячэйкі. Бюро ячэйкі прызнае, што ня было праведзена грунтоўнай падрыхтоўчай працы. Пераацанілі актыўнасьць тых калгасьнікаў, якія гаварылі пра шкодныя ўчынкі Валынца. Ня ўлічылі, што частка калгасьнікаў будзе ўстрымлівацца ад выступленьня, таму што баіцца Валынца. Валынец патрапіў як-сьлед падрыхтавацца. У гэтым выпадку ён адыграўся на маласьвядомасьці адсталай часткі калгасьнікаў, пераважна калгасьніц і аказаўся мацнейшым. Бюро ячэйкі выказала думку, што справу трэба перадаць на разгляд сельсавету, праўленьня калгасу і зноў паставіць на сходзе калгасьнікаў; адначасова матар'ял перадаць памоцніку пракурора.

Агульнае ўражаньне ад калгасу „Надзея". У аснове—гэта моцны калгас. Калгас забясьпечаны лепш рабочай сілай, чымся іншыя калгасы. Адставаньне калгасу, асабліва калі ён падышоў да ўборкі працаёмкіх культур, як лён, гаворыць за тое, што яшчэ ня цалкам укаранілася зьдзельшчына, не паднята на належную вышыню працдысцыпліна. Пры ўборцы бульбы таксама наглядалася парушэньне працдысцыпліны. Калгас спазьніўся з зяблівам. Перад калгасам з усёй вастратой стаіць праблема арганізацыйна-гаспадарчага яго замацаваньня.

Аднак калгас ужо зараз цьвёрда ўзяўся за выпраўленьне прарываў і недахопаў,—канкрэтна падышоў да пытаньня самаачысткі ад шкодных элемэнтаў, укараненьня зьдзельшчыны. Усё гэта гаворыць, што калгас „Надзея" мае ўсе даныя стаць у рад перадавых калгасаў.

Якія падзеі адбыліся ў калгасе „Надзея", як разгортвалася далей пытаньне па самаачыстцы калгасу—аб гэтым мне пісалі з калгасу „Надзея".

Вытрымкі з гэтых лістоў я тут падам, зраблю толькі некаторыя заўвагі, і тлумачэньні да іх.

19/X 1931 г. Гэтэ прышоў з сельсавету.

Быў прэзыдыум. Увечары пасяджэньне праўленьня калгасу. Народу шмат. Пытаньні: „Вынікі праробленай працы, справаздачы з месц брыгадзіраў". Дакладвае Гэтэ: „У справе асеньняй уборачнай мы адсталі, сена, жыта было сабрана здаваль-

няюча. Пры ўборцы лёну аказалася ганебная справа. Яна была даручана адпаведнай асобе, якая і нанесла шкоду ўборцы лёну. Уборка лёну была даручана пратакольна паляводу Валынцу. Справа па ўборцы была перададзена суду. Намесьнік старшыні Валынец ішоў заўсёды ў разрэз са старшынёй. Браў касу на плечы і ішоў у поле агітаваць масы. Валынец выступаў супроць грамадзкага харчаваньня. Жыта было пасеяна з гірсою. Гэта шкодніцтва з боку палявода Факты антысэмітызму з яго боку перашкаджалі ў працы Валынец громкагалосна заявіў: „Каб ня было яўрэяў, калгас быў-бы калгасам". Указаў яшчэ некаторыя моманты і скончыў: „Работу калгасу трэба лічыць нездавальняючай,—Валынца вычысьціць з калгасу".

Былі заданы некаторыя пытаньні. Выступалі брыгадзіры, указвалі на недахопы. Па сутнасьці ніхто не гаварыў. Выступаў Лучаноўскі—ні слова.

Устае Валынец і гаворыць; „Мяне насільна сарвалі з працы (ён быў загатоўцай), дзе людзі мною даражылі. Усе недахопы калгасу на сябе браць не магу, бо мною кіравала праўленьне, а праўленьнем кіруе парт'ячэйка. Калі я праступнік, судзіце мяне, але ня губеце маіх дзяцей, ня губеце іх палітычна. А калі сёньня Іван Пятровіч і Жытамірская рашаюць маю судзьбу, то прашу мяне ўзяць і застраліць, але ня губіць маіх дзяцей. На гэтым канчаю і болей гаварыць ня буду. (Вышаў)".

Як бачым, Валынец і тут застаўся Валынцом. Па сутнасьці зробленых дакораў і паданых фактаў Валынец нічога не сказаў. Ён і зараз пашоў на дэмагогію. Нібыта праўленьне ўзвальвае на яго ўсе недахопы калгасу (шмат гонару). І зноў разводзіць дэмагогію пра дзяцей, якіх нібыта загубяць. Выкручваецца ўсялякім чынам.

На гэты раз праўленьне і прысутныя калгасьнікі не паддаліся сьлязьлівасьці.

„...Лічыць шкодніцтвам з боку Валынца, якога праўленьне пастанаўляе вычысьціць з калгасу. Адначасова Гладыша Хвёдара з Бук за разбазарваньне жывёлы, за недысцыплінаванасьць, якая выяўляецца ў самавольным карыстаньні коньмі,—паставіць на чыстку.

Праўленьне за час працы дапусьціла рад памылак і зрабіла прарывы. У далейшым праўленьне бярэ на сябе абавязак зьнішчыць недахопы."

Галасуюць аднагалосна, падымаюць „за".

На гэты раз, як бачым, у калгасе „Надзея" робіцца значны паварот не на карысьць Валынца. Далей у калгасе „Надзея" нічога цікавага не адбываецца і мы падамо з лістоў толькі некаторыя радкі, якія датычацца тэмпаў самаачысткі.

„20/X 1931 г. Валынец заўтра едзе ў Ленінград да Кайдака. Учора сухары сушылі".

Ну як-жа ў такую далёкую дарогу без сухароў. Хай сабе едзе. Трэба толькі адно заўважыць. Апошні час, калі шырока разгарнулася калектывізацыя, калі прыціснулі ў вёсцы кулакоў, падкулачнікаў, праціўнікаў калектывізацыі, антысэмітаў, дык яны перапраўляюцца ў горад. За час маёй двухмесячнай пабыўкі ў калгасах і камунах я зарэгістраваў некалькі фактаў, калі кулакі і антысэміты, якім моцна „наступілі на хвост" у вёсцы, перабраліся ў горад і паўстрай-

валіся там на прадпрыемствах. І ўжо ня будзе прароцтвам, калі скажам, што там яны будуць зрыўшчыкамі працдысцыпліны, прамфінпляну, ударніцтва, хоць на пэўны час і пераафарбуюцца ў абарончы колер. Трэба пільней прыглядацца кіраўнікам нашых прадпрыемстваў да такога „папаўненьня".

„9-га лістапада 1931 г. Даўно ня пісаліся лісты. Часу мала. Валынец яшчэ тут акалачваецца. Сходу яшчэ ня было".

Як бачым, тэмпы пастаноўкі пытаньня аб самаачыстцы ў калгасе „Надзея" даволі марудныя. А тым часам, як пішацца ў тым-жа лісьце:

„Валынец зьбірае розныя чуткі, якія прыносіць Шкляр Іван—бухгальтар. Потым насьміхаецца.

13-га лістапада везьлі лён у Боркавічы. Яго ня ўзялі, бо ў сырую пагоду Лучаноўскі (палявод) адправіў. Гэта быў матар'ял для Валынца".

Ну, гэта ня толькі матар'ял для Валынца. А проста скажам, што для пачатку працы новага палявода тав. Лучаноўскага, гэта проста кепская рэкамэндацыя. Хто-ж пасылае здаваць ільнатрасту ў сырую пагоду?

„13/XI 1931 г. 10-га, пасьля сьвят, Валынец з шваграм Чарновым накіраваўся ў Віцебск. Справа па чыстцы ня скончана. 13-га быў партыйна-камсамольскі сход. Справаздача пленуму райкому партыі. Выказваліся. Гаварылі, што на гэты раз сілы ворага Валынца аказаліся мацнейшымі, чымся яно здавалася. У парадку крытыкі нічога не сказалі. Жонка Валынца была таксама на сходзе. Надта цікавіцца „бягучай палітыкай". Быў і Шкляр, які перадае ўсё Валынцу. Гэтэ хворы.

Хадзячая хвароба. Кружыцца галава. Многія з калгасьнікаў падаюць заявы, просяць, каб адпусьцілі на адыходніцтва. Праўленьня яшчэ ня было па гэтым пытаньні. Лобыр Ягор пашоў на адыходніцтва. Яго адпусьцілі".

З ліста ня відаць, ці былі на сходзе Міхайла Сініцын, Жук Іван, Мулька Лапідус, Сосьнер ды іншыя. Вось іх прысутнасьць была-б, бязумоўна, карыснай для ячэйкі. Чаму сілы ворага аказаліся мацнейшымі? Таму што ў калгасе „Надзея" ня было сыстэматычнай працы ячэйкі, працы у кірунку павялічэньня актыву, барацьбы за масы, за кіраўніцтва масай. Калгас „Надзея" ў гэтым сэнсе быў запушчаным вучасткам працы.

Таварыш Шкляр,—каму служыце? Валынцу ці калгасу?

Наступны ліст падае ўжо зусім цікавыя весткі.

„20/XI-31 г. Учора ў калгасе быў сход. Пытаньні: 1) Аб выніках раённага пленуму выканаўчага камітэту, 2) Ільназагатоўкі і інш.

...Гаварыла Ваганава (сакратар камсамольскай ячэйкі, сакратар сельсавету. Я. Л.) аб злачынствах Валынца і Гладыша Фёдара. Валынец, выпіўшы, сказаў наступнае: „Я да ўсякай улады падыйсьці магу. Прыдуць немцы—я ім харош,—савецкая ўлада—я і ёй ня худ. Да мяне не падкапаюцца".

Выступіў Бобрыкаў. Аратарскім тонам гаварыў пра Валынца і заклікаў выказацца Качан Дар'ю, Сініцу Міхайла і іншых.

Выступіў Сініца. Паўтараўся, але дадаў: „Ідзі там, дзе чыста, больш працадзён выпрацуеш",—сказаў Валынец сваёй дачцы, калі тая запытала, куды пайсьці на працу. „Бацькаву кашулю зносіш, другую не пашыеш. Сьвяча пагасьне", сказаў Валынец.

Выступала і Качан Дар'я: „Ён быў канторшчыкам. Я яму прыносіла чай. Каля стала Валынец звычайна зьдзекваўся над усімі і ашукваў. Да сваіх дзяцей нянек наймаў, а плаціў з агульных сродкаў".

Выступіў Шкіндзер—камсамолец: „Каб праверыць працу, Валынец узяў вымяральнік на сажань больш, з мэтаю ўплываць на настрой людзей у напрамку выкананьня норм выпрацоўкі".

Выказваўся Жук і іншыя.

„Была вынесена і зацьверджана пастанова аб тым, каб вычысьціць Валынца і Гладыша".

Нарэшце, калгасныя актывісты перамаглі, а больш адсталыя калгасьнікі не паддаліся сьлязьлівасьці і прапусьцілі міма вушэй Валынцову дэмагогію „ня губеце дзяцей". Нарэшце яны зразумелі, што яны ня могуць... губіць калгасу.

Гэтай пастановай калгасьнікі выклікалі Валынца на адкрытасьць. Чытаем, што пішацца далей у лісьце:

„У калгасе ёсьць чутка, што ён гразіў забіць Віленчыка, лаяўся... (Віленчык—сакратар парт'ячэйкі. Я. Л.)".

„20-га заходзіць Валынец у канцэлярыю. З усімі здароваецца і зьвяртаецца да Гэтэ: Гэта ты задумаў маю сям'ю згубіць. Задушу! Заб'ю! Зарэжу!"

На стале ляжала кніга пратаколаў. Ён схапіў кнігу. Гэтэ задрыжэў і пачаў пісаць акт. Акт канчаўся словамі Валынца: „б'ю, задушу, зарэжу". „Ня ўсіх, а цябе зарэжу"—сказаў, прачытаўшы, Валынец.

Акт быў накіраваны ў сельсавет.

Грамадзянін Валынец загаварыў адкрыта сваёй мовай. Ай, грамадзянін Валынец! А казалі вы, што паладзіце і з немцамі і з савецкай уладай. Які-ж тут „лад" калі вы... ні больш ні менш, а хочаце забіць старшыню калгасу.

Зараз трэба яшчэ раз сказаць аб маруднасьці, з якой ячэйка і калгасны актыў узяліся за чыстку. Ад 14-га кастрычніка да 19-га лістапада Валынец „акалачваўся" ў калгасе, агітаваў, пагражаў калгасьнікам, якія выступалі супроць яго і, калі сход усёткі прыняў пастанову вычысьціць Валынца,—Валынец закончыў пагрозу абяцаньнем забіць старшыню калгасу і сакратара парт'ячэйкі. Грамадзянін Валынец зашмат на сябе ўзяў.

У лісьце, нажаль, няма вестак, што зрабіў сельсавет, атрымаўшы акт.

Варта падкрэсьліць, што ня гледзячы на пагрозы з боку Валынца, шэраг калгасьнікаў, як Сініца Міхайла, Жук Іван, Качан Дар'я ды іншыя засталіся цьвёрдымі, сьвядомымі калгасьнікамі, кідалі сьмела ў вочы Валынцу факты яго злачынстваў, трымалі лінію на вычыстку Валынца. Іх паводзіны трэба паставіць у прыклад іншым.

У нашай рэчаіснасьці пераможнага будаўніцтва соцыялізму спрабавалі ажыць карчы агіднай мінуўшчыны, даць парасткі. І пладзіліся вакол іх цьвіль анцісавецкай агітацыі. чэмер кулацкай ураўнілаўкі, чартапалох разлажэньня калгасаў унутры ды „сабачыя грыбы“ антысэмітызму. Такіх карчоў крыху асталося пасьля кастрычнікавай насечкі буржуазна-панскага лесу.

Борзда крочаць дні на вышыні, другой пяцігодкі. Шмат ужо прастораў раскарчавана будаўнікамі новых дзён.

Прышла чарга зьнішчыць апошні корч.

Сьнежань 1931 г.

# КРЫТЫКА

А. Сідарэнка

## Шлях паэта

(*Да пяцідзесяцігодзьдзя з дня нараджэньня*)

„Славу паэтаў разносяць па сьвеце,
Вянкі ўскладаюць і звоняць пахвалай,
Я-ж ціха іграю, хто-ж ціхіх прымеце?
Ат! ведама з вёскі—
Янка Купала!..“

Пусткі-балоты ды пяскі, верасы і хвойкі гонкія; шырокія ўзбярэжжы рэчак шумнацечных ды лясы задумленна-сумныя; памяткі ўнябыт уцёкшых дзён мінулых—курганы, з гальлём каранастых дубоў-валатоў, распушчаным над імі, туманом спавітыя лагчыны; лозы ніцыя; куп'ё...

А ў другім пляне:

Загоны—абшары бязьмежныя і шнуркі-палоскі; белыя харомы і вёскі шэрыя; гучная музыка і дзікія стогны ды звон кайдановы; крыніцы він заморскіх і сьлёзы нядолі сіроцкай; гульні п'яныя і праца пякельная ды праклёны; атласы, брыльянты, шоўк і лахмоцьці зрэбныя, жабрацкія; пагарда і прыніжэньне; вялікасьць і пакорнасьць; зьдзек і надзея; гвалт і цярпеньне ды мальба—дарэмная мальба!—небу, магнату, богу...

Гэта натуральна-пэйзажны і сацыяльна-клясавы малюнак і панска-царскай Беларусі, як яны паўставалі ў выябражэньні паэта, Беларусі —пляцдарму спрадвечных войнаў паміж сабою дзьвюх частак сьвету, шчодра ўсыпанай касьцьмі людзкімі, палітай крывёю бязьвінных ахвяр чалавечых, упрыгожанай зданямі вісельняў чорных, крыжамі пахілымі ды безназоўнымі „брацкімі магіламі“...

Гэта вобразы-зьявы „Краю роднага“, што ў дачыненьні да тагочаснай Беларусі—ня толькі вынік суб'ектыўных купалавых успрыяцьцяў, але і аб'ектыўна-рэальны, у пэўнай ступені, факт. Бо, як толькі перад паэтам шырока адчыніліся дзьверы жыцьцёвыя ў навакольнай рэчаіснасьці ён ня мог не заўважыць пагардна-самаўпэўненых задаволеных жыцьцём і сабою - Патоцкіх, Радзівілавых, Чарскіх... у значнай ступені хоць і капіталізаваных, але, у дачыненьні да тых цёмных і забітых, што працавалі на іх,—захаваўшых усе рысы і формы фэўдальна-прыгоньніцкай эксплёатацыі. Поруч з імі, на вачох у паэта па вар'яцку-дзіка „цывілізавана“ тварылі свае справы іх абаронцы

надзейныя і служкі верныя—прадстаўнікі „креста и маузера“ чорнага, пад скрыдламі вялікарускага арла двухглавага і „его величества“—кароны...

А тым часам на ніве... на ніве, што, дзякуючы ягонай працы, ірдзелася ўсходамі пасеваў, з дня на дзень, з году ў год, з грудзьмі ўпалымі, у лахмоцьцях, бяспраўны і забіты біўся, гінуў і шчасьця ня бачыў, уздыхаў і плакаў пакутнік сярмяжны, мужык-беларус, з яго „каровай“ і „няпрыгожай“ мовою, з якой кожны сьмяяўся, зьдзекваўся,—мужык, якім пагарджаў кожны таму, менавіта, што ён—

„мужык, дурны мужык“...

і яшчэ таму, што гэты раб пакутны каравымі рукамі сваімі маўкліва ствараў і здабываў тое, гаспадаром чаго ніколі не зьяўляўся і чаго цалкам ніколі сам не спажываў.

Вось гэта сацыяльна-клясавая мозаіка з самага пачатку вызначыла асноўны мотыў Купалавае паэзіі і доўгі час станавіла сабою аб‘ект сумна-задумленых, глыбока-эмоцыянальных, лірычных і, пры ўсім гэтым—удумліва-крытычных разважаньняў паэта над існасьцю і сэнсам яе. Менавіта яна, з надзвычайнаю мастацкаю сілаю, беспасрэднасьцю і праўдзівасьцю будучы занатаванай у творчасьці Купалы, надае апошняй сапраўдны яе інтарэс, насычае актуальна-сацыяльным, грамадзкім зьместам, робіць ня страціўшай свайго значэньня і для нашага часу. І яшчэ: менавіта праз недасягнутае, покуль што, адлюстраваньне яе ў слове мастацкім і сам пясьняр нядолі мужыцкай паўстае зараз перад намі ва ўсёй велічыні сваёй мастака-паэта і чалавека.

Прычым, гэта ня юбілейны камплімэнт паэту, не хвалебны дыфірамб, не панігірык, чаго ў дачыненьні да яго баяцца часам некаторыя нашы крытыкі, ці праўдзівей—„крыцікі“... Гэта аб‘ектыўная, хоць і агульная, ацэнка ягонай паэзіі, з улікам уласьцівых ёй і станоўчых, і адмоўных якасьцяй. Бо што-б ня „ўмозаключалі“ зараз некаторыя разумовыя паралітыкі і артадаксальныя гандляры ісьцінай наконт функцыянальнай чыннасьці Купалавай паэзіі і ва ўмовах былой Беларусі, і ва ўмовах Беларусі савецкай; як бы па фарысейску вытрымана ня гнусавілі ўсе пачуцьцёвыя кастраты наконт рэакцыйнасьці гэтай паэзіі з прычыны „празьмернага гуманізму“ і іншых падобных адзнак, уласьцівых нібы та і самому паэту ў падыходзе да чалавека і г. д.; пад якую-б рубрыку спэкуляцыйнай клясыфікацыі не падводзілі яго некаторыя бездарныя „праграмшчыкі“ і „хрыстаматчыкі“,—бясспрэчна адно: Купалава паэзія ёсьць вельмі яскравы факт і магутны чыньнік сацыяльна-нацыянальнага вызваленьня працоўных мас Беларусі, што зараз у вольнай рэспубліцы адзначаюць... юбілей свайго паэта, які па праву прызнан народным. І яшчэ: як бы „ня кічыліся“ некаторыя нашы рыф.

мачы сваей жыдка-забеленай пад халтурны бруд вытрыманасьцю ды імкненьнем супрацьставіць свае ўбогія вершы без разбору ўсяму старому, але нашы сапраўдныя, пралетарскія паэты, на шляху да стварэньня нацыянальнай па форме і сацыялістычнай—па зьмесьце паэзіі, заўсёды зьвернуцца да Янкі Купалы, як да выдатнейшага мастака слова, майстра-віртуоза беларускага вершу, волата беларускай народнай песьні.

Апошняе мы асабліва падкрэсьліваем, выходзячы з меркаваньняў адзначыць важнасьць адпаведнага выкарыстаньня Купалавай паэзіі для нашых сучасных паэтаў і пісьменьнікаў, што абсалютна неабходна ім у зьвязку з задачай стварыць сапраўды дзейную мастацкую літаратуру, якая была-б чыннай зброяй у барацьбе за пабудову бясклясавага грамадзтва. Бо, наогул кажучы, часам мы вельмі шмат разважаем аб стварэньні такой літаратуры; спрачаемся, ламаемся пер'я, фігуруем на старонках ганарарных ведамасьцяй, мітусімся каля вокнаў выдавецкіх кас; „презрительно фыркаем" па адрасу нашых папярэднікаў і тым часам канкрэтна вельмі мала робім у справе набыцьця культурнага парадку прадумоў, у шырокім разуменьні гэтага слова, што абсалютна неабходны для стварэньня патрэбнай нам літаратуры. Дакладней—вельмі мала вывучаем культурную спадчыну папярэдніх кляс для таго, каб шляхам крытычнай перапрацоўкі гэтай спадчыны злучыць, такім чынам, усе дасягненьні чалавецтва (у даным выпадку ў галіне мастацкай літаратуры) у вышэйшым сынтэзе.

Але-ж у парадку агульнай пастаноўкі адзначанага пытаньня—гэта між іншым, т. ск., мімаходам. Што-ж канкрэтна ў дачыненьні да выкарыстаньня Купалавай паэзіі, дык работа ў гэтым кірунку мае сваё значэньне ня толькі для нашых сучасных паэтаў і пісьменьнікаў, але і для самаго паэта асабіста, па колькі ён зьяўляецца зараз таксама нашым сучасьнікам.

Аднак, у стасунку да абгрунтаваньня выказаных вышэй ацэначных агульных сьцьверджаньняў наконт функцыянальна-грамадзкага значэньня паэзіі Янкі Купалы і задач яе выкарыстаньня сучасьнікамі, як літаратурнай спадчыны, было-б недастаткова абмежавацца такой характарыстыкай сацыяльна-клясавых вытокаў гэтай паэзіі, што падана ў самым пачатку гэтага артыкулу. Дакладней—для ацэнкі Купалавае паэзіі ва ўсёй яе паўнаце недастаткова было-б сказаць толькі тое, што вытокамі гэтай паэзіі зьяўляецца сацыяльна-клясавая стракатасьць Беларусі ў канцы XIX і пачатку XX стагодзьдзяў, узятая ў сваім статычным, т. ск., выглядзе, як аб'ектыўная данасьць без выслаўленьня суб'ектыўных дачыненьняў да гэтай апошняй самаго паэта. А з гэтага пункту гледжаньня зусім праўна перад намі паўстае пытаньне—інтарэсы якой сацыяльнай групы ў працэсе клясавай барацьбы сучаснага яму грамадзтва пачаў выражаць Янка Купала ў самым пачатку ягонай літаратурнай дзейнасьці?

На сёнешні дзень у крытыка-біографічнай літаратуры пра Купалу і ягоную творчасьць адказ на такое пытаньне ня выклікае спрэчак і вялікіх разыходжаньняў. Бо для кожнага, падыходзячага да Купалавае паэзіі без усялякіх мудрагельстваў і без вялікадзяржаўнай прадузятасьці, відавочна, што гэтая паэзія ёсьць высокі мастацкі сынтэз думак, настрояў, імкненьняў і пачуцьцяў таго, хто нямой рыбай аб лёд біўся век-вяком і лажыўся ў магілу бедаком; таго, над кім ніва ласкі ня мела, чые грудзі збалелыя бяз літасьці паліла сонца, хто праліваў дні цэлыя крывавы пот на чужых абшарах-сенажацях; таго, хто пакорным рабом не вясны, рукі на крыж злажыўшы, чакаў, а пад песьні паўночнай зімы ямы ў полі сабе-ж будаваў... Карацей кажучы, аб'ектам Купалавае паэзіі з самага пачатку зьявіўся разбураны ці амаль разбураны беларускі селянін, пралетары па сутнасьці, але фармальна зьвязаны са сваёй палоскаю-шнурком, і ў пошуках сродкаў для жыцьця, вымушаны працаваць ці то па найму ці з т. зв. „часьці“ ў абшарніка-пана: на полі, у прадпрыемствах па апрацоўцы прадуктаў земляробства—броварах, напрыклад і інш. Вось з лёсам гэтай сацыяльнай групы і зьвязвае Янка Купала лёс сваіх песень-думак. Аб гэтым вельмі яскрава сьведчыць большая частка ягоных твораў, у якіх становішча гэтай групы абмалёвана з надзвычайнаю мастацкаю сілаю і паўстае перад намі ва ўсёй сваей жудасьці і паўнаце, выклікае і ў самага паэта сьлёзы жалю, пакуты, суму—беспрасьвецьця, болі і крыўды. Прычым Купала вельмі яскрава ўяўляе сабе і прычыны такога жабрацкага становішча свайго брата па долі. Ён добра разумее, што гэтыя прычыны ў той сацыяльнай і нацыянальнай няроўнасьці, няроўнасьці паміж мужыком-беларусом і панам-магнатам,—якая дае апошняму магчымасьць рабаваць селяніна, абапіраючыся пры гэтым на „богам“ ускладзены і чыноўнікам-жандарам правадзімы ў жыцьцё закон.

Такую ацэнку Купалавай паэзіі з самага яе пачатку можна было-б ілюстраваць шматлікімі прыкладамі. Можна было-б падаць цэлы шэраг ягоных вершаў, асноваю якіх зьяўляецца абурэньне на ўціск мужыка, спачуваньне ягонаму гору, бядоце і інш. Аднак у гэтым бадай няма пільнай патрэбы. Бо творчасьць Янкі Купалы наогул зараз добра вядома больш шырокім чытацкім масам, чымся некаторым нізкім на вочы—бываюць і такія! — „дасьледчыкам“ гэтай творчасьці, што маюць нахіл лічыць паэта прадстаўніком буржуазна-кулацкай паэзіі, а ў адпаведнасьці з такім „існінна-рускім“ па сутнасьці „глубокомыслием“, звароты яго да гаротнага мужыка-беларуса надуманымі, фальшывымі, няшчырымі. Ня будзем спрачацца зараз з такімі крытыкамі. Зазначым толькі, што вершаў накшталт „Мужыка“, „Чаго-б я хацеў“, „Плачуць мае песьні“, „Адповедзь“, „Вясна за вясной“, „Мая доля“ і бязьліч падобных да іх,—такіх вершаў ня мог пісаць чалавек не са сьціснутым ад болю сэрцам, без балючага спачуваньня „забытым людзьмі і богам“, бяз шчырасьці.

У гэтым сэнсе нельга ўстрымацца, каб не падаць тут цалкам аднаго з вершаў, што шмат кім з пішучых пра Купалаву творчасьць прыводзіўся ўжо:

„Гора нам, бедным, гора загнаным,
Мучаць нас чорныя долі,
Стогнем пад царам, стогнем пад панам,
Стогнем мы дома і ў полі,
Вечна ня знаем суду і права,
Цёмны народ мы сярмяжны.
Б'емся, працуем сьлёзна, крывава,
Едзе на карку нам кажны.
Нас самавольна земскі карае,
Душыць, саджае ў вадседкі,
Крыўдзіць вураднік, поп абірае,
Воласьць з нас цягне пасьледкі.
Гляньце: паліцыя, войска, вастрогі,
Цэрквы, чыгунка, палацы!—
Гэта наш труд, падаткі, налогі,
Наша мужыцкая праца.
Плача ў няволі край наш радзімы,
Самі-ж ня знаем спакою:
Паляць нас леты, студзяць нас зімы,
Мучыць нас голад вясною".

А ў адпаведнасьці з гэтым, якой горкай праўдай і сілай гучаць радкі другога вершу:

„З нейкім пракляцьцем прыходзім на сьвет,
З нейкім на той сьвет зыходзім.
Потам, крывёю век сьцеліцца сьлед,
Песьню змучэньня заводзім".

І далей:

„Ступіш... і гадзіны ўюцца ля ног,
Крыкнеш... ня чуюць каменьні;
Руку працягнеш ты, повен трывог...
Ласкі ня знаюць паленьні".

Такім чынам, паўтараем яшчэ, Янка Купала вельмі добра разумее, у чым палягаюць прычыны цяжкага становішча, гаротнай долі беларуса-мужыка, беларускіх бядняцкіх сялянскіх мас. Прычым, па сацыяльным паходжаньні, а доўгі час і па становішчы паэт і сам асабіста належыў да гэтых апошніх. Бо ў парадку біографічнай даведкі зазначым, што ў пошуках працы і сродкаў для жыцьця пасьля сьмерці бацькі—дробнага арандатара панскіх зямель, на палову пралетарыя,—Купала вымушан быў доўгі час бадзяцца па маёнтках і маянтковых прадпрыемствах былых Менскай, Магілёўскай, Віленскай губ. ды па іншых кутках свае бацькаўшчыны і за межамі яе. Аднак, апошняе—між іншым, паколькі творчасьць Купалава ўяўляецца зараз нам не як біографічны даведнік (хоць і гэты бок справы мае ў ёй месца), але як мастацкі сынтэз прачуваньня паэтаю настойлівай неабходнасьці той вялікай сацыяльнай перабудовы, што з усёй няўхільнасьцю выні-

кала з супярэчнасьцяй сацыяльна-грамадзкага ладу ў пачатку XX стагодзьдзя,—перабудовы, праз якую і сам паэт мысьліў сабе палепшаньне цяжкага і гаротнага жыцьця сваіх братоў па долі.

Гэтая перабудова, пераводзячы яе на больш канкрэтныя паняцьці, ў першую чаргу, у дачыненьні да сялянства, меркавала зьнішчэньне памешчыцкага землеўладаньня, меркавала зьнішчэньне розьніцы паміж панам і мужыком, а гэта значыць меркавала пэўную зьмену існуючага сацыяльна-клясавага парадку—эканамічнай няроўнасьці, у першую чаргу, што зьяўлялася асноваю сацыяльнага прыгнечаньня адных другімі. Прычым, паколькі сацыяльнае прыгнечаньне працоўнага беларуса ва ўмовах Беларусі—калёніі былой царскай імпэрыі, шчыльна зьвязана было з прыгнечаньнем нацыянальным—перад беларускім вызваленча-рэвалюцыйным рухам наогул і перад песьняром яго ў прыватнасьці паўставала зусім праўна задача і нацыянальнага вызваленьня бацькаўшчыны. А гэта ў сваю чаргу меркавала адраджэньне нацыянальных годнасьцяй беларускага народу, як разумеў гэта паняцьце паэт—адраджэньне роднай мовы, літаратуры, наогул усіх адзнак культурнага парадку ў шырокім разуменьні гэтага слова. Вось чаму зараз ацаніць Янку Купалу, як паэта, гэта значыць ацаніць дачыненьне яго да гэтых абедзьвюх праблем і наадварот. А ў зьвязку з гэтым зусім лёгічным робіцца пытаньне,—што-ж уяўляе сабою Купалава паэзія з такога пункту гледжаньня? Дакладней кажучы,—наколькі правільна з нашага пункту гледжаньня Янка Купала ўяўляў сабе ў той час шляхі і сродкі сацыяльнага і нацыянальнага вызваленьня.

Некаторыя з „артадасканальна-аргадасканальных", калі можна так сказаць, крытыкаў адказваюць на гэтыя пытаньні вельмі адмоўна. Яны ўпарта даводзяць, што Янка Купала ў тагочасных сваіх вершах ня высоўваў задач клясавай барацьбы з самаўладзтвам і абшарнікам-панам; не заклікаў на гэту барацьбу бедняка-селяніна, гаротную долю якога апяваў; абмяжоўваўся пасыўным сузіральніцтвам існуючых супярэчнасьцяй грамадзкага ладу: сацыяльнай няроўнасьці, эксплёатацыі адных другімі і г. д. І яшчэ даводзяць крытыкі, што дзякуючы толькі што адзначанай акалічнасьці функцыянальная чыннасьць Купалавай паэзіі значна зьніжаецца і нават зусім зьнішчаецца. Зьнішчаецца таму, нібы-та, што сам паэт ня здолеў, калі верыць крытыкам, узьняцца на вышыню палітычных задач свайго часу. А ня здолеў ён узьняцца, кажуць, дзякуючы дробна-ўласьніцкай ягонай абмежаванасьці. І таму ў той час, калі на Беларусі ў 1905-6 гадох адбываліся сялянскія паўстаньні (іх крытыкі налічваюць 32), якія праводзіліся ў форме разгрому памешчыцкіх маенткаў, самачыннай парубкі панскіх лясоў і інш.,—у гэты час Янка Купала, кажуць крытыкі, высоўваў пасыўна дробнаўласьніцкія сялянскія патрабаваньні:

„Трэба нам, трэба перш-на-перш хлеба
Хлеба, каб стала на цэленькі год..." і г. д.
(верш—„Чаго нам трэба")

І нарэшце, пагрозы Купалавы па адрасе паноў крытыкі лічаць „узмахамі кардоннага мяча“, а ягоныя прызывы да такіх неакрэсьленых з іх (крытыкаў) пункту гледжаньня паняцьцяў, як „воля“, „роўнасьць“, „шчасьце“, „сьвет“ і г. д.—прымітыўнымі дробнаўласьніцкімі і наіўна-соцыялістычнымі лятуценьнямі і жаданьнямі.

Зараз ня месца ўваходзіць у падрабязны разгляд такога разуменьня па сутнасьці. А таму, пакуль што, абмяжуемся толькі аднэй заўвагай: усё на сьвеце, як той казаў, залежыць ад пункту гледжаньня. Ад пункту гледжаньня залежыць, такім чынам, і адзначанае сьцьверджаньне некаторых крытыкаў. Бо нікому-ж, прынамсі, не забаронена займацца выслаўленьнем таго, які ўплыў робяць, напрыклад, ультра-спэктры Вялікай Мядзьведзіцы на працэс прарастаньня скажам вусоў у бязвусых асоб...

У парадку-ж нашай уласнай ацэнкі Купалавай паэзіі таго часу, ў сэнсе вызначэньня палітычнай арыентацыі паэта, лічым патрэбным выказаць наступнае. Бясспрэчна тое, што гэта паэзія з самага пачатку не становіць сабою шырока і ўсебакова разгорнутай праграмы клясавай барацьбы, як разумеем мы гэту апошнюю зараз.

Але ж з другога боку, ня менш бясспрэчна і тое, што, узятыя цалкам, вершы Янкі Купалы, зьместам якіх зьяўляюцца сьлёзы, скаргі, бядота, жабрацтва беларуса-селяніна, з выразным адзначэньнем прычын цяжкага становішча яго,—гэтыя вершы ў той час станавілі сабою вельмі актыўны і значны чыньнік у справе абуджэньня сьвядомасьці працоўных сялянскіх мас, што ў 1905 г. дамагаліся свайго права на жыцьцё. Бо ўжо ў сваім першым вершы—„Мужык“ паэт вельмі выразна і ня двухсэнсна сьцьвярджае права на жыцьцё за тым, хто трудзіцца, сьцьвярджае сацыяльныя і нацыянальныя, наогул людзкія вартасьці мужыка-беларуса, рашуча заяўляючы, што ён, мужык—таксама чалавек, які будзе і павінен жыць, ня гледзячы ні на якія перашкоды яму ў жыцьці:

„Але хоць колькі жыць тут буду,
Як будзе век тут мой вялік,
Ніколі, браткі, не забуду,
Што чалавек я хоць мужык.
І кожны хто мяне спытае
Пачуе толькі адзін крык,
Што, хоць мною кожны пагарджае,
Я буду жыць!—бо я мужык!“

Такім чынам, паколькі ва ўяўленьні паэта (адпавядаючым рэчаіснасьці) галоўная якасьць селяніна—здольнасьць да ўпартай працы і карыснай работы,—значыць асноваю жыцьця, Янка Купала прызнае выключна гэтыя апошнія і з гэтага пункту гледжаньня патрабуе неабходнасьці вызваленьня гэтага селяніна ад уціску, які ён вельмі выразна бачыў і адчуваў. А ў гэтым—адзін з прагрэсыўных момантаў Купалавай паэзіі ў той час—прагрэсыўны, не зважаючы нават на яе сузіральнасьць. Гэта адно.

Другое. На нашу думку не настолькі наіўны і бяссэнсоўны, як гэта разумеюць некаторыя таварышы, і Купалавы заклікі да „волі", „роўнасьці" і інш. Бо ў тагочасных канкрэтных гістарычных умовах гэтыя заклікі маюць сваё значэньне і сэнс. Маюць таму, што яны выходзяць у Купалы перш за ўсё з меркаваньняў „узяць у мужыцкія рукі" панскую зямлю і такім чынам накіраваны супроць царска-панскага самаўладзтва. Менавіта з гэтае прычыны яны таксама становяць сабою зьяву гістарычна-прагрэсыўную. І таму зусім іншая справа, што Янка Купала, выступаючы ў той час самым фактам сваёй творчасьці супроць астаткаў фэўдальна-прыгоньніцкіх форм землякарыстаньня ў інтарэсах вызваленьня ад апошніх працоўнага селяніна-беларуса, адначасна з гэтым не заўважаў, што ворагам гэтага селяніна зьяўляўся ня толькі памешчык-прыгоньнік, але і прадстаўнік капіталістычнай сыстэмы—масьцісты буржуа. А тым часам, прызываючы да волі, роўнасьці і г. д. паэт, суб'ектыўна не жадаючы гэтага, аб'ектыўна, тым ня менш, прапаведваў менавіта капіталістычную сыстэму, паколькі жаданьні яго, як сялянскага паэта, ня выходзілі за межы ідэалаў селяніна, дробнага ўласьніка ў той час. Вось з гэтага пункту гледжаньня нават і верш—„Чаго нам трэба"—мае для той эпохі дадатнае значэньне і сэнс.

І нарэшце апошняе. Зусім ня віна паэта ў тым, што ён паэт сялянскі. З гэтай-жа акалічнасьцю шчыльна зьвязана і тое, што разуменьне ягонае сэнсу, задач і форм барацьбы пралетарыяту і сялянства ў час дэмакратычнай рэвалюцыі—не пралетарскае, а сялянскае. Менавіта таму Янка Купала не заўважыў неабходнасьці ператварэньня дэмакратычнай рэвалюцыі ў рэвалюцыю сацыялістычную, пралетарскую. Сялянская прырода паэта і ў даным выпадку дала сябе адчуваць Бо справа ня ў суб'ектыўным нежаданьні яго змагацца за рэвалюцыю сацыялістычную, а ў непадрыхтаванасьці сялянства, а разам з імі паэты ў 1905 годзе ўспрыняць яе. Бо не задарма-ж Ул. І. Ленін аднэй з галоўных прычын паражэньня рэвалюцыі 1905 г. лічыць тое, што „сяляне дзейнічалі вельмі распылена, не арганізавана, недастатковa наступацельна і па сваей падрыхтаванасьці да ўсерасійскага рэвалюцыйнага паўстаньня не дагналі рабочае клясы" (падкрэсьлена мною).

Пасьля крывавага прыдушэньня рэвалюцыі 1905 г. наступілі, як вядома, гады чорнай царска-паліцэйскай вялікадзяржаўнай рэакцыі, што праводзілася ў своеасаблівай форме карных экспэдыцый. Разгул чорнай сотні, дзікія паводзіны царскіх сатрапаў не прайшлі і міма Янкі Купалы. З імі зьвязаны ў яго перш за ўсё пэўны налёт пэсымізму, бо грамадзкія рэвалюцыйныя падзеі 1905 года не прынесьлі з сабою жаданага вызваленьня сацыяльнай групе, да якой належыў паэт. Гэта апошняе ў пэўнай ступені пахіснула ягоную веру ў магчымасьць зьнішчыць сацыяльную няпраўду намаганьнямі чалавека. Адгэтуль успрыяцьце цяжкага лёсу адных і сытай раскошы другіх, як

нечага адвечнага, прыроджанага людзям, як нейкай адвечнай засуджанасьці адных на пакуту, другіх—на панаваньне.

Аднак з цягам часу Янка Купала зноў выступае перад намі як вястун вызваленьня, як песьняр сацыяльна-нацыянальнага вызваленчага руху. Прычым, ён вельмі яскрава разумее, што гэтае вызваленьне можа быць дасягнута шляхам барацьбы тых-жа прыгнечаных мас, што станавілі сабою з самага пачатку аб'ект ягонай творчасьці. Гэта насычае ягоную поэзію пэўным сацыяльным рэвалюцыйным зьместам, у зьвязку з чым мастацка-фармальны бок яе становіць сабою недасягаемы ўзор сілы, гучнасьці і музыкі вершу. Варта прыпомніць хоць бы сабе ягоны верш—„Гусьляр“, інструмэнтоўка якога, алітарыцыя і інш. узьняты да свайго апогэя.

„Гэй гусьляр, гусьляр
Ты ўдар, удар,
        Па струнках, званах,
Дай нам з песен дар
Дум вялікіх чар,
        К сонцу зорны шлях.
Дай гусьляр, гусьляр“...

З вельмі дзейным і абураючым настроем Янка Купала ўспрыймае і імпэрыялістычную вайну 1914 г. Гэты настрой свой ён выражае ў вершы, прысьвечаным праходзячаму 1914 году. Прычым, і тут у сэнсе ідэёвым і фармальным верш становіць сабою магутную сілу, гучыць грозным і магутным пракляцьцем па адрасу тых, хто „жыцьцём мільёнаў прышоў затрэсьці“.

„Выходзіш ты скуль ня прыходзяць —
Але сваіх не забярэш сьлядоў...
О, год! Такіх, як ты, час рэдка родзіць
О, год! Ты першы гэткі з між гадоў.
Прышоў ня згоды і свабоды весьцяй
І не ўзьвялічыць праўду між людзьмі,—
Жыцьцём мільёнаў ты прышоў затрэсьці,
Шлях вымасьціць свой трупамі, касьцьмі.
Косьцьлявай зморай з гібелі сталецьцяў
Ты, як пракляцьце, будзеш выціраць;
І будзе маці страшыць табой дзеці,
Ды клікаць той, хто ўздумае ўміраць.
„Не забіваці“—ты трывожыў права,
На сэрца і душу наклікаў цьму:
Людзей на зьвераў пошасьцяй крывавай
Ператварыў і здаў насьледніку свайму.
Га! Хай жа льлецца кроў, дымяць пажары,
Няхай пад крыжам плача сірата!
Крывавы бог, крывавыя ахвяры
Сабраць павінен з сьвету да чыста.
Аж прыдзе новы год з рукою лёгкай
Агледзіны рабіці новых дзён,
Дзе меч нявідзімага бога-Рока
Напіша бескрывавы свой закон“.

Паўтараем, гэта магутнай мастацкай сілы пратэст супроць гвалтоўнага забойства мільёнаў, які даволі яскрава характарызуе сабою сацыяльна-клясавыя сымпатыі Янкі Купалы.

Аднак, гаворачы пра гэты пэрыод поэтычнай дзейнасьці Купалы нельга не адзначыць, што вялікі ўплыў на яго зрабіла ў той час і ідэолёгія нашаніўства. Гэта тым больш дасадна канстатаваць, што, як і раней, жадаючы суб'ектыўна служыць словам мастацкім абяздоленаму селяніну-беларусу, добра разумеючы, што вызваленьне гэтага селяніна—справа не рэформ, а рэвалюцыйнай барацьбы; разыходзячыся ў гэтым кардынальным пытаньні з пануючай ідэолёгіяй „Нашай Нівы“, Янка Купала, тым часам у сваей дзейнасьці аддаў даніну і нацыяналдэмакратызму. Апошняму ў значнай ступені хоць і спрыяла вялікадзяржаўная царская рэакцыя ды беспадстаўнае ня прызнаньне, як і раней, нацыянальных годнасьцяй селяніна-беларуса, але па сутнасьці сваей, справа ад гэтага ніколі не зьмяняецца і факт застаецца фактам. Вось з гэтым уплывам на паэта лібэральна-буржуазнай ідэалёгіі „Нашай Нівы“ у Купалавай паэзіі таго часу патрабаваньні нацыянальнага вызваленьня бацькаўшчыны не прадугледаюць клясавае дыфэрэнцыяцыі ўнутры гэтай бацькаўшчыны. Яны зацямняюць у значнай меры неабходнасьць сацыяльнага, палітычна-клясавага вызваленьня працоўных мас Беларусі, а ў зьвязку з гэтым сацыяльнае палітычна-клясавае вызваленьне гэтых мас мысьліцца паэтам праз вызваленьне беларускай нацыі цалкам, як такавой, але не наадварот. Адгэтуль ідэалізацыя Беларусі бесклясавай, адгэтуль ідэалізацыя мінуўшчыны беларускай нацыі, адгэтуль пэўная рэтраспэктыўнасьць Купалавай паэзіі. Адгэтуль-жа і тое, што ідэалам грамадзкага ладу для Беларусі паэт мысьліў сабе беларускую буржуазную дзяржаўнасьць па сутнасьці хоць і не заўважаў гэтага, хоць і не разумеў, што яна не прынясе вызваленьня працоўнаму селяніну беларусу, якое чакаў і жадаў бачыць ён, якому суб'ектыўна шчыра і ўпарта ён хацеў служыць і служыў, за якое доўгі час змагаўся.

З усім вось гэтым ў сваю чаргу зьвязана і тое, што Янка Купала не заўважыў і сацыяльна-клясавай існасьці Кастрычніцкай Рэвалюцыі з самага яе пачатку. Не заўважыў таго, што гэта рэвалюцыя і становіць сабою адзіна магчымы і верны шлях як сацыяльнага, так і нацыянальнага вызваленьня таго, хто ў мазалёх і поце крывавым рабом пакутным паўставаў з такой выразнасьцю у ягоных першых вершах-песьнях. І таму паэт кастрычніцкую рэвалюцыю, а ў пэўны пэрыод дыктатуру пралетарыяту і інтарэсы будаўніцтва сацыялістычнай гаспадаркі ды культуры, супроцьстаўляў інтарэсам Вольнай Беларусі ў нацыянал-дэмакратычным разуменьні гэтай апошняй. Пад уплывам такога разуменьня справы Янка Купала напісаў некаторыя свае творы—(„Тутэйшыя“, напрыклад), якія, адбіваючы інтарэсы клясавага міру ўнутры беларускай нацыі праз супроцьстаўленьне яе другім нацыям, таксама бяз клясавай дыфэрэнцыяцыі іх, зьяўляюцца

ва ўмовах дыктатуры пралетарыяту і задач інтэрнацыянальнага аб'яднаньня працоўных мас, творамі нясугучнымі нашай эпосе.

Але-ж з цягам часу, пад уплывам пралетарскай ідэалёгіі Янка Купала ўсьвядоміў сутнасьць і клясавую аснову сваіх нацыянал-дэмакратычных памылак, усьвядоміў сутнасьць і зьмест нашага сацыялістычнага будаўніцтва і з уласьцівай яму сілай паэта зараз вітае „дыктатуру працы". Пра гэта вельмі яскрава сьведчыць цэлы шэраг ягоных апошніх вершаў, як і вершаў, напісаных у пэрыод 1918—30 г. (напрыклад—„На сьмерць Сьцяпана Булата" і інш.). Але асабліва паказальны ў гэтым сэнсе—„Зыходзіш вёска з яснай явы", „А ў Вісьле плавае тапелец", „Песьня будаўніцтву", „Настане такая часіна", „Адзінаццаць месяцаў"... (надрукаваны ў газ. „Зьвязда" да 12 гадавіны вызваленьня Беларусі ад белапалякаў). Гэтыя вершы паказваюць, што паэтычны гэні Янкі Купалы ўзьняўся на новую вышыню і працуе ў моцным сугуччы з задачамі пралетарскай дыктатуры.

Узяць хоць бы сабе і „Дыктатуру працы".

„Культуру хамства і даляра,
Князёў і біскупаў палацы
Ад Скандынаваў да Сахары,
Зруйнуеш дыктатура працы".

Гэты верш становіць сабою як бы пралёг да поўнай нізкі вершаў, падобных да яго па зьместу і яшчэ больш моцных па форме. Бо „Песьня будаўніцтву", напрыклад, па гучнасьці і сіле радкоў становіць сабою лепшы ўзор у сучаснай савецкай поэзіі. У ім зьмест: будаўніцтва, якое апіша „гісторык мудры" пераданы паэтам нязвычайна

„Як ішла
рэканструкцыя
сьмела
Па заводах
па полі
па думках.
Перашкоды
зьнішчаючы
ўмела,
Хоць варожы
Табун
Адзічэлы
Ей імшу
Пахавальную
Крумкаў.

———

Як мінулым
Спаганена
Праца
Ад батрацкай
Прыгоннай
Сярмягі,

Сабе ўзносячы
У сонцах
Палацы,
Стала горда
Навек
Называцца
Справай
Гонару,
Славы,
Адвагі
. . . . . . . . . . . . . . .
Як яна,
Бальшавіцкая
Партыя,
Каб да тла
Зруйнаваць
Стары сьвет,
Барацьбою
Зацятай,
Упартай,
Сваю ставячы
Голаў
На карту,
Дасягла
Недасяглых
Пабед!
. . . . . . . . . . . . . .
Прыдзе новы—
А мудры—
Гісторык
А ён прыдзе—
Ужо ён
Ідзе—
І сказ дзіўны,
Праўдзівы
Ад зорак
І да зорак
Аб нашых прасторах,
Аб падзеях,
Людзях,
Павядзе".

У адпаведнасьці з разуменьнем ролі рабочае клясы і ягонае партыі, што зьяўляюцца носьбітамі „дыктатуры працы", паэт надзвычайна ўдала вызначае і новы т. ск. маршрут вёсцы—той вёсцы, у якой раней ён наглядаў сьлёзы, бядоту, стогн падняволены, гвалтоўны прымус да працы:

„Як сон маркотны, нежаданы,
Сыходзіш вёска з яснай явы,
А твой народ вернападданы
Імкнецца, скінуўшы кайданы,
Да новай долі, новай славы.
. . . . . . . . . . . . . .

З жабрацкай торбай твой патомак
Ня пойдзе па сібірным шляху
Шукаць прытулку, як бяздомак;
Жудкі гісторыі абломак
Пад сказ дзён бурных згібне прахам...
. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дзе за пасёлкам лёг пасёлак,
Гіганты ўзьнімуць шлях бунтарны,
І ў бліскух квецістых вясёлак,
Дым гасячы лучын і смолак,
Зайскрыць электрыка ўладарна
. . . . . . . . . . . . . . . .

Тваіх жалеяк сьпеў гаротны
Патопча трактарнае кола,
А сейбіт твой, дасюль самотны,
Абцёршы сонцам воблік потны,
Пад крыж ня пойдзе енчыць квола"
. . . . . . . . . . . . . . . . .

Бо:

„Так сыйдзеш, вёска, з яснай явы,
Як сон маркотны, нежаданы"...

Такім чынам, пададзеныя вершы—яскравы прыклад таго, што Янка Купала добра разумее і захоплен працэсамі нашага сацыялістычнага будаўніцтва ва ўсіх плянах, разумее і захоплен сусьветна-гістарычным значэньнем гэтага будаўніцтва і няўхільнай гістарычнай законамернасьцю і неабходнасьцю пралетарскай дыктатуры. А гэта апошняе ўзьнімае цытаваныя вершы на вельмі высокую ідэёвую і мастацкую ступень і ў пэўнай меры робіць іх узорамі для нашых сучасных паэтаў і пісьменьнікаў. Таму зусім зразумела, чаму такой ўпэўненасьцю ў нашу перамогу гучаць радкі:

„Разьвеюцца ў попел
    кароны і троны,
Штэрлінгі і франкі,
    дукаты, даляры;
Мікадаў, пралатаў
    банкіраў баронаў
Захлынуць паўстаньняў
    народных пажары"
. . . . . . . . . . . . . . . .

Хрыстоў, магамэтаў
    еговаў і будаў,
Бажніцы, капліцы
    усіх вераў і нацый,
Як сьмецьце на сьвеце,
    як тухлыя груды,
Зьмяце дыктатура
    раскованай працы".

І яшчэ: зусім зразумела, чаму такой моцнай нянавісьцю да ворагаў рабочае клясы і працоўных мас—інтэрвэнтаў капіталістычнага захаду—ахоплен паэта і чаму з такой сілай выказвае ён гэтую нянавісьць у сваіх вершах. У гэтай сувязі проста нельга ўстрымацца ад таго, каб не падаць тут цалкам ягонага вершу. „А ў Вісьле плавае тапелец“:

Балюе панская Варшава
Бы дзень скананьня хмелем хмеліць...
А Вісла пеніцца крывава,
А ў Вісьле плавае тапелец.

Шасьцяць мундзіры, аксаміты,
Агнямі зыркаюць палацы
Крывёй работніцкай заліты
Завулкі, вуліцы і пляцы.

* * *

Балюе панская Варшава,
Ксяндзы частуюць сакрамэнтам;
Парадак дня сягоньня—справа
Пра аб'яднаньне інтэрвэнтаў.

Паны з маркізамі Парыжу,
З баярствам Бухарэсту ў хэўры,
Як СССР расьпяць на крыжу,
Плянуюць пляны і манэўры.

* * *

Балюе панская Варшава,
А для гуманнасьці, прагрэсу,
Ідзе аблава за аблавай
На ўсходах „вольных“ „польскіх“ Крэса.

Абрабаваных да кашулі,
Там беларуса і ўкраінца
Вядуць закованых патрулі
Па акрываўленым гасьцінцы.

* * *

Балюе панская Варшава...
Жандарскі конь б'е капытамі,
Пад капытамі жудкай явай—
Людзкія галавы пластамі.

Людзкім жыцьцём набіты турмы,
Бунтуе ў турмах роспач мсьціва...
А ў Бэльвэдэры выюць гурмам:
„Нех жые польска дэфэнзыва“.

. . . . . . . . . . . . . . .

Балюе панская Варшава
Бы дзень скананьня хмелем хмеліць...
А Вісла пеніцца крывава,
А ў Вісьле плавае тапелец“.

Гэта малюнак становішча працоўных мас у фашыстаўскай Польшчы, малюнак дзейнасьці „цывілізаваных“ фашыстаў і ў той жа час абурэньне паэта гэтай дзейнасьцю, да якога па мастацкай сіле ўзьняўся на сёнешні дзень мала хто з нашых сучасных паэтаў. Бо кожны радок вершу заключае ў сабе шмат сацыяльнага зьместу, насычан канкрэтнасьцю, мастацкай сьцісласьцю і выразнасьцю думкі. Паэт паўстаў тут ва ўсёй сваёй сіле і здольнасьці мастака-аблічыцеля сацыяльнай няпраўды і дзікасьці расправы над абяздоленымі масамі...

* * *

На гэтым мы канчаем артыкул. Адсутнасьць месца ды і самы повад напісаньня яго з прычыны пяцідзесяцігадовага юбілею паэта (нарадзіўся 8 ліпеня (25 чэрв. ст. ст.) 1882 г.) пазбавілі нас магчымасьці давесьці выказаныя агульныя заўвагі наконт творчасьці Янкі Купалы (і значаньня яе сталай распрацоўкі) у пляне літаратурнага аналізу. З гэтага пункту гледжаньня артыкул мае, бясспрэчна, вялікі недахоп. Але-ж у нашу задачу ў даным выпадку, па зусім зразумелых прычынах, не ўваходзіла меркаваньне зрабіць сталы, крытычны т. ск.— акадэмічны разгляд Купалавай паэзіі. Гэта задача далейшага часу. І таму мы імкнуліся ў даным выпадку, у сувязі з юбілеем паэта, усяго толькі падкрэсьліць неабходнасьць хутчэйшага вырашэньня гэтай задачы нашай крытыкай. Пры гэтым мы спадзяемся, што другія таварышы, а таксама і нашы газэты ды часопісі агульнымі сіламі дадуць больш і ўсебаковы малюнак жыцьця і дзейнасьці паэта з ягонымі ўзьлётамі і паданьнямі, сілай і слабасьцю, вартасьцямі і недахопамі.

Што-ж у дачыненьні да якасьці данага артыкулу, з пункту гледжаньня ахопу і высьвятленьня ў ім вызначаных толькі што момантаў, поўны дык наконт яго, пішучы гэтыя радкі, шчыра прыгадвае словы Ул. Маякоўскага—

„Да разве так поэта надо бы почтить“...

паэта, які сам пра сябе ў пададзеным эпіграфе сарамліва зазначае:

„Славу паэтаў разносяць па сьвеце,
Вянкі ўскладаюць і звоняць пахвалай,
Я-ж ціха іграю, хто-ж ціхіх прымеце?
Ат! ведама з вёскі!—Янка Купала“...

Менск
5. VII—32 г.

Апанас Пеначкін

# Ідэёвая і мастацкая якасьць творчасьці закліканых у літаратуру ўдарнікаў.

(*Агляд вершаў дасланых у часопісь „Беларусь Калгасная“*)

За пяць месяцаў сваёй дзейнасьці часопісь „Беларусь Калгасная“ атрымала для надрукаваньня каля тысячы адных толькі вершаў, што становяць сабою першыя спробы пачынаючых пісаць ударнікаў— рабочых саўгасаў, МТС, калгасьнікаў, закліканых у літаратуру (апаяданьняў і нарысаў у даным выпадку мы не кранаемся, хоць і іх у рэдакцыі ёсьць шмат). Такая колькасьць вершаў гаворыць перш за ўсё аб тым, што творцамі іх зьяўляюцца не адзінкі, а шырокія колы працоўнай моладзі, якая імкнецца ў мастацкай форме паказаць постаць новай вёскі, узварушанай і абуджанай сацыялістычнай яе перабудовай ва ўсіх плянах. З другога боку, ідэёва-палітычная не акрэсьленасьць і ня выразнасьць большай часткі гэтых вершаў у паасобку, слабасьць мастацка-тэхнічнага іх афармленьня настойліва патрабуюць сталай, сыстэматычнай і чыннай дапамогі пачынаючым пісаць таварышам у справе выпрацоўкі стройнага марксысцка-ленінскага сьветапогляду і набыцьця неабходнай для творчасьці поэтычнай культуры, поэтычнай тэхнікі. Пра гэта ў прыватнасьці гавораць і шматлікія лісты ў рэдакцыю з патрабаваньнем наладзіць у часопісі спэцыяльны разьдзел літаратурнай кансультацыі для дапамогі пачынаючым поэтам і пісьменьнікам.

Шляхам сьціслага агляду, на вялікі жаль, толькі некаторай часткі атрыманых рэдакцыяй вершаў (паколькі ахапіць всю колькасьць іх зараз няма ні фізычнай, ні тэхнічнай магчымасьці) даны артыкул і мае на мэце ў пэўнай ступені задаволіць адзначаныя запатрабаваньні. Разам з гэтым у ім неабходна будзе пэўным чынам закрануць і некаторыя агульна-прынцыповага характару пытаньні, зьвязаныя з разьвіцьцём і арганізацыйным афармленьнем ударніцкага літаратурнага руху на вёсцы, паколькі работа ў гэтым напрамку нават і да гэтага часу наладжана ў нас зусім слаба, каб не сказаць большага..

З меркаваньняў чыста мэтадычнага парадку артыкул разьбіваецца ў далейшым на адпаведныя разьдзелы і будзе пабудаваны пераважна на канкрэтным матар'яле з установкай на канкрэтна-практычныя заўвагі, што могуць быць карыснымі для пачынаючых таварышоў. Бо прынцыпова-палітычны сэнс і непасрэдныя сацыяльна-палітычнага, клясавага зьместу прычыны ўзьнікненьня і разьвіцьця ўдарніцкага літаратурнага руху, як масавай зьявы, на нашу думку больш-менш зразумелы і агульна-вядомы і без асаблівых на гэты конт разважаньняў.

## 1. Тэматыка

Узятыя з пункту гледжаньня тэматычнага зьместу, пераважная большасьць уваходзячых ў даны агляд вершаў напісаны, бясспрэчна, на актуальнейшыя і агульнапрызнаныя тэмы сучаснасьці ў пляне сацыялістычнай перабудовы, галоўным чынам, нашай вёскі. Бо новая вёска з шматлікімі і разнастайнымі падзеямі і зьявамі (калектывізацыяй, машынізацыяй, саўгасным будаўніцтвам і г. д.), што характарызуюць яе сучаснае становішча, зьяўляецца асноўным матывам, якi так ці інакш бытуе ва ўсіх амаль вершах. Такой акалічнасьцю тлумачыцца, між іншым, і той відавочны факт, што малюнкі старой вёскі з яе сацыяльна-эканамічным, палітычным, культурна-бытавым укладам, калі і трапляюцца ў некаторай частцы вершаў, дык толькі як сродак для большага выразнага падкрэсьліваньня таго, што робіцца менавіта ў вёсцы сучаснай, саўгасна-калгаснай і такім чынам адыгрываюць ролю толькі своеасаблівага мастацкага прыёму (прынцып кантрастаў) і ніколі ня маюць самастойнага значэньня, не зьяўляюцца самамэтай.

Для ілюстрацыі апошняга сьцьвярджэньня падамо некалькі прыкладаў. Возьмем хоць бы сабе верш М. Талькова—„З рыштаваньняў—барыкад". Верш напісан на тэму машынізацыі сельскай гаспадаркі, як галоўнага сродку сацыялістычнай яе перабудовы. Тэма, як бачым, цалкам сучасная, зьвязаная з сучаснай калгаснай вёскай. І тым ня менш у вершы мы чытаем:

У палёх—
дзе вецер—ураган
Гуляў у прасторах—
Шматгадовы ўладыка—
дзе бацькаў плуг,
прадзедава саха
пакойніца матыка—
марылі гадамі бедака.
Там—
У крышталях
Сёньняшніх прастораў
Рукой бальшавіка
Пушчаны!
Гудзяць!..
. . . . . . . . . . .
Рытмамі напеваў
Трактар і камбайн.
На сацыялістычны лад—
Руйнуюць межы
бедачкі трохпалеўкі
аджыткі старога—
хутары...[1]).

[1]) Арфаграфію і сынтакс цытаваных вершаў, а таксама і прынцып разьбіўкі радкоў, усюды пакідаем такімі як яны ёсьць у арыгіналах.

Як бачым, прынцып супрацьстаўленьня мінулага сёняшняму у паданым вершы на віду. Пры чым вершы М. Талькова зусім не становяць сабою выключэньня ў гэтым сэнсе з цэлага раду вершаў другіх таварышоў. Бо ў такім жа параўнальным пляне (якасьці цытуемых вершаў і індывідуальных асаблівасьцяй кожнага з іх мы покуль што не кранаемся ў данай сувязі) пачынае свой верш—„Песьня“—і П. Вязоўскі:

Мы паўсталі рашуча на бой
Супроць меж і пакосак—і стужак.
Дзе блудзілі гора з бядой,
Там калгас расьвітае дужы...

Тое-ж самае робіць і С. Мітраховіч у вершы, які так проста і называецца—„Тады і цяпер“.

Прайшлі гады пакуты
Настаў інакшы час:
Дзе жыў раней пан люты
Сягоньня там саўгас.
Зьмяніла твар свой вёска
І час пакуты згас
Там, дзе была палоска—
Сягоньня там калгас.

Прынцып супроцьстаўленьня старога новаму ўласьцівы і вершам: М. Шванкова—„У асьнежаную шыр“ і „На былым балоце“, Шыракова Пятруся—„За калгас“, Зьм. Лясьнічага—„А калі сыгналы“; Тамаша Курбацкага—„Паўстаўшая зямля“, Васіля Кудраўцава—„МТС“ і цэламу раду іншых.

Такім чынам, паўтараем, тэматычнае кола большасьці дасланых у часопісь вершаў замыкаецца ў межах новай вёскі, выходзіць непасрэдна з жыцьця гэтай вёскі.

З гэтага пункту гледжаньня варта адзначыць таксама і тое, што „вясковы ўхіл“, калі можна так сказаць, наглядаецца нават і ў тых вершах, што напісаны на выходзячыя за межы ўласна вясковага парадку тэмы. Бо калі ўзяць, скажам, торфараспрацоўкі і наогул працу па асушцы і асваеньню балот, дык нельга не заўважыць, што яны цікавяць некаторых таварышоў (вершаў на гэтыя тэмы вельмі мала) толькі ў той меры, у якой асушаныя балотныя масывы зьяўляюцца падставай для будаўніцтва саўгасаў і калгасаў, наогул—падставай для разьвіцьця сельскай гаспадаркі. Як прыклад у гэтым сэнсе можна падаць верш скажам М. Шванкова—„На былым балоце“, які па другому поваду вышэй мы называлі ўжо:

„Там, дзе богна
ланцугамі землю
спавівала
ў мулкія карчы—
сёньня трактар
Працай жыцьцяпеніць
У цемры,
у начы!

Там калгас
узьняўся між балотаў...
Дзе лазьняк
схіляўся ніцым вецьцем
Ды чарот
свой смутак раздзіраў—
Збажыну калыша
вольны вецер...

Апошняе мы знарок адзначаем таму, што зьвяртаючыся да „балотных“ т. ск. тэм, таварышы нідзе ня ставяць іх і не разглядаюць у сувязі з торфаздабычай, тады як і торф ва ўмовах Беларусі мае надзвычайна вялікае гаспадарча-эканамічнае значэньне. Бо ён зьяўляецца, павінен і будзе зьяўляцца асноўнай энэргэтычнай крыніцай для нашых заводаў, фабрык, электрастанцый. А гэта значыць, што балота ў нашых умовах ня толькі адзін са сродкаў пашырэньня плошчы для сельскай гаспадаркі, але і крыніца нязьлічанай колькасьці тон апалу. А між тым, паўтараем, з такога пункту гледжаньня падыходзіць да асваеньня і выкарыстаньня балота літаральна адзін толькі В. Лісаковіч, які ў вершы—„Над абшарамі багнаў—балот“ вельмі проста і зразумела адзначае, што становяць сабою балотныя багны Беларусі і для сельскай гаспадаркі, і для прамысловасьці, параўнаўча ўдала выражаючы спалучэньне абодвых гэтых момантаў:

„Над абшарамі богнаў—балот
Ня кудзеліць туман валасы
І ня звоніць шумлівы чарот,
Таямнічасьць ня гоняць лясы.

Бо замест гэтага (малюнка былога балота, што пададзены аўтарам праз пералік ягоных (балота) ранейшых адзнак, але са сьцьверджаньнем адсутнасьці апошніх зараз пры дапамозе дзеясловаў—„ня кудзеліць“, „ня звоніць“, „ня гоняць“)—замест гэтага—

„...З асінаўскіх шэрых балотаў
Над бязьмежнаю гладзьдзю палёў—
Перакроілі шыр пазалотай
Сотні стальных правадоў.

Замест гэтага—

„... Растуць карпусы на руінах
І фармуецца ў роліках торф
А па венах сталёвай краіны
Пульсуе на фабрыкі ток.

А з другога боку, поруч з „пульсацыяй на фабрыкі току“ у выніку фармоўкі „у роліках торфу“ на тых-жа балотах.

„...За бярозавым трактам,
Дзе з ракітаю слаўся лазьнік
З кучараваю грываю трактар
Адбівае рытмічныя дні...

І ў выніку—

„Над балотамі лоз і ракіты  
Ня куліць туман валасы—  
Збожынаю прастор апавіты,  
У пазалоце рунеюць аўсы"....

Аднак, падкрэсьліваем яшчэ раз, вершы на паданыя тэмы—адзінкі. І не яны характарызуюць сабою асноўны тэматычны струмень творчасьці пачынаючых пралетарска-калгасных паэтаў. Бо на падставе разгляду іх вершаў трэба асабліва падкрэсьліць, паколькі такі факт мае свае прычыны, што яны цікавяцца галоўным чынам перабудовай і разьвіцьцём сельскай гаспадаркі, пры чым гаспадаркі сацыялістычнай, саўгасна-калгаснай. Пра гэта з ўсёй відавочнасьцю сьведчыць тое, што тэмай для большасьці разглядваемых зараз вершаў зьяўляецца саўгас, калгас, МТС, а ў зьвязку з гэтым—гул трактароў, зьнішчэньне палосак-істужак, калектыўная работа на полі, работа паасобных таварышоў—ударнікаў і г. д. Пры чым, у данай сувязі цікава адзначыць, што вельмі значная колькасьць вершаў прысьвечана трэцяй бальшавіцкай вясьне—падрыхтоўцы да яе, першым калектыўным выездам у поле і інш. Усё гэта тэмы, што ў пэўнай ступені канкрэтызуюць вельмі ўмоўна ўжытае намі вышэй разуменьне—„новая вёска", да якога мы зьвярнуліся толькі для таго, каб папярэдне адзначыць у агульных рысах прадмет поэтычнага захапленьня пачынаючых паэтаў—ударнікаў.

Якія-ж вывады ў сэнсе ацэнкі ідэёва-палітычнай і мастацкай якасьці творчасьці закліканых у літаратуру ўдарнікаў неабходна зрабіць на падставе разгляду тэматычнага зьместу гэтай творчасьці? Інакш, у якой ступені тэматычны зьмест яе вызначае сабою ступень сьвядомасьці поэтаў-ударнікаў у дачыненьні да мастацкага адлюстраваньня працэсаў і зьяў, што адбываецца ў сучаснай вёсцы ў зьвязку з уступленьнем яе ў перыод сацыялізму?

У парадку адказу на гэтыя пытаньні трэба перад усім асабліва падкрэсьліць той факт, што, узятая цалкам, тэматыка творчасьці закліканых у літаратуру ўдарнікаў зьяўляецца вельмі яскравым паказальнікам непасрэднай сувязі гэтай творчасьці з жыцьцём. Апошняе-ж мае вельмі вялікае сымптоматычнае значэньне, бо ўжо і зараз акрэсьлівае і вызначае шлях разьвіцьця яе ў далейшым, ужо і зараз гарантуе шырокія пэрспэктывы гэтага разьвіцьця, шырокія творчыя магчымасьці. Гарантуе таму, што самы зьмест жыцьця, якое імкнуцца адлюстраваць у сваіх вершах поэты-ўдарнікі, хавае ў сабе неабмежаваныя творчыя магчымасьці. Імкненьне-ж пабудаваць гэта жыцьцё—хай сабе значнай колькасьцю пішучых пра яго ва ўсіх яго-ных дэталях і якасьцях не прадуманае і ва ўсёй паўнаце сваей не асмысьленае—гэта імкненьне ў большасьці вершаў, аб якіх зараз ідзе ў нас гутарка,—бясспрэчны факт.

І яшчэ падкрэсьліваем: творцы гэтых вершаў, не адзінкі, не абраньнікі Апалона[1]), а непасрэдныя ўдзельнікі і будаўнікі таго новага, што моцнай струменьню ўрываецца—хай сабе пакуль што ў значнай ступені, як стыхійны пачатак, у іх творчасьць, у іх часам нязграбныя і шурпатыя радкі. І таму, хіба-ж ня маем мы права ўжо і зараз прадбачыць магутны росквіт новай паэзіі там, дзе, паводле глыбокіх слоў паэта—

„Сам народ пясьняр"...

Такі першы агульны і вельмі станоўчы вывад наконт творчасьці ўдарнікаў, вывад, што дае права зрабіць тэматычны зьмест яе.

Аднак, не зважаючы на гэта, было-б вельмі вялікай памылкай і блізарукасьцю заключаць на аснове такога вываду, што творчасьць ударнікаў ужо і на даным этапе свайго разьвіцьця становіць сабою т. ск. „ідэал" сапраўднай пралетарска-калгаснай паэзіі. Бо поруч з ідэёвай насычанасьцю большасьці вершаў, калі за апошнюю можна лічыць прагнае імкненьне большасьці таварышоў адлюстраваць у сваіх творах, скажам, калектывізацыю і г. г.,—той жа тэматычны зьмест іх у ачавідку ўскрывае і вельмі сур'ёзныя недахопы, што пазбаўляюць гэтыя вершы патрэбнай дзейнай сілы, як твораў мастацтва, і зводзіць іх да ступені сваеасаблівай фатаграфіі. Дакладней—канкрэтызацыя тых тэм, што зьяўляецца асновай большасьці вершаў, з усей відавочнасьцю даводзіць перад усім нізкую ступень палітычна-грамадзкай арыентацыі пачынаючых таварышоў, што вельмі адчуваецца ў гэтых вершах і ўрэшце-рэшт вызначае сабою сапраўдны ідэёва-мастацкі зьмест іх у поўным сэнсе гэтага разуменьня. У сваю чаргу, канкрэтна гэта выражаецца ў разглядзе калгасаў, напрыклад, як вышэйшага „ідэалу" сельскай гаспадаркі, што бярэцца па-за сувязьзю з чалавекам і ягонай сьвядомасьцю—ці інакш, як самамэта, як канечны пункт арганізацыі людзкога грамадзтва. Выражаецца гэта таксама і ў чыста-культурніцкай трактоўцы працэсаў, напрыклад, машынізацыі і ролі машын у сельскай гаспадарцы і зноў такі па-за сувязьзю са зьменамі ў сьвядомасьці чалавека, што адбываюцца ў выніку перабудовы сацыяльна-эканамічнай, клясавай асновы гэтай гаспадаркі, якая адбываецца праз ужываньне тых жа машын.

Таму і атрымоўваецца, што як калгасы, так і саўгасы, а разам з гэтым машынізацыя сельска-гаспадарчых працэсаў наогул, разглядаюцца самі па сабе, як нешта самастойнае, самадаўлеючае, як нешта такое, што мае нейкую самастойную мэту, што існуе і павінна нібы-та існаваць без чалавека, не для чалавека. А ў зьвязку з гэтым знаходзіцца і той факт, што, забываючыся на чалавека, на жывых людзей, якія будуюць гаспадарку ў адпаведнасьці са сваімі мэтамі,

[1]) Апалон—міталёгічны бог у старода́ўніх народаў (грэкаў), што загадваў нібыта паэтычнымі справамі.

пачынаючыя таварышы зусім забыліся, зусім „прагледзелі“ клясавую барацьбу на вёсцы, „прагледзелі“ той складаны пераплёт сацыяльна-клясавых узаемадачыненьняў, у якім праходзіць будаўніцтва сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, „прагледзелі“ трагічную калізію паміж старымі і новымі тэндэнцыямі, што маюць значнае месца нават унутры саміх калгасаў, паміж самімі калгасьнікам. „Прагледзелі“ пачынаючыя таварышы і кіруючую ролю партыі у справе перабудовы сельскай гаспадаркі, якой (сельскай гаспадарцы) своеасабліва падпарадкавалі па сутнасьці і ролю сацыялістычнага гораду.

Такі другі вывад, што неабходна папярэдне зрабіць пасьля павярхоўнага азнаямленьня нават з аднэй толькі тэматыкай разглядаемых вершаў. Але-ж гэты вывад, паколькі ён закранае пытаньне пра неабходнасьць для маладых паэтаў усебаковай вучобы і працы над сабою, патрабуе свайго абгрунтаваньня, а г. зн. ускрыцьця пералічаных толькі што недахопаў на канкрэтным матар'яле, на канкрэтных прыкладах (вершах) пры адначасовым вызначэньні таго, як гэтыя недахопы канкрэтна-ж адбіліся і на мастацкім баку творчасьці ўдарнікаў. Пра апошняе гутарка ў наступным разьдзеле.

## 2. Сьветапогляд, мэтад, мастацкі бок

Для некаторых асабліва паслужлівых пісак альбо т. зв. „трудолюбивых медведей“ пытаньні сьветапогляду і творчага мэтаду, як яны выражаюцца ў творчасьці пачынаючых пісаць таварышоў, вырашаюцца вельмі лёгка. Бо выходзячы пры разглядзе творчасьці гэтых таварышоў не з імкненьняў па сапраўднаму дапамагчы ім, а перш за ўсе з сваіх асабістых інтарэсаў і таму строга ўлічваючы той факт, што ўдарніцкі літаратурны рух мае ў нашых умовах вялікае і агульна прызнанае грамадзка-палітычнае значэньне, а кожны з ударнікаў патрабуе, у зьвязку з гэтым, пільнай увагі да сябе, у сэнсе ўсебаковай і сталай дапамогі яму ў ягонай вучобе,—выходзячы з гэтага іншы „трудолюбивый медведь“ „умозаключает“ прыблізна такое:

— Эг-гэ!.. Стоп: раз ударнікі „ў павазе“, значыць іх абявязкова трэба хваліць. Дык от жа: „разыдись плечо, размахнись рука“!.. Падсып больш грамагучных слоў і цьвердакаменных выразаў. І тады кожны скажа: „Бач,—ён за ўдарнікаў“. А пасьля... пасьля ты знай—твары!..

І таму зусім зразумела, што, захапіўшыся часам імкненьнем „тварыць“ нібы та для дапамогі ўдарнікам, іншы „поощритель оных“ пералічыўшы, у лепшым выпадку, асноўныя тэмы іх творчасьці, а таксама і паасобныя абстрактныя словы і агульныя выразы накшталт „калгасы“, „бальшавіцкі сеў“, „бальшавіцкая вясна“, „трактар“, „трэцяя завяршаючая“, „рэспубліка“, „краіна“ і інш.—патэтычна „вещает“:

„З паказанага відаць (?), што творчасьці ўдарнікаў прысутны асноўныя адзнакі матарыялізму, дыялектыкі, дынамізму, што яна ёсьць

„ідэал“ творчасьці „имя рек“, даводзіць факт зьнішчэньня розьніцы паміж... разумовай і фізычнай працай, што яна..., што яна..., што яна... адным словам, вот“...

Пры чым, усё гэта ўглядаецца, бачыце, „у асноўным“ (зласчасны тэрмін, што становіць сабою неабходны стылістычна-фармальны выверт кожнай пасрэднасьці). Бо ўжыўшы з пачатку гэта зласчаснае— „у асноўным“, кожны „трудолюбивый медведь“ тым самым дае самому сабе лёгічна-фармальнае права зьвяртацца для працягу ягонай ўласнай убогай думкі да ня менш злосчаснага „але“. Апошнім і пачынаецца, звычайна, наступная „глыбокадумная“ тырада іншага такога мудраца, што пасутнасьці адмаўляе заўсёды ягонае першае патэтычнае сьцьверджаньне:—„Але поруч з паказанымі (??) станоўчымі адзнакамі, творчасьці ўдарнікаў уласьцівы і нед-дах-хопы: адсутнічае канкрэтнасьць, няма глыбокага паказу рэчаіснасьці з усімі яе супярэчнасьцямі, адсутнічае паказ дзеяньняў жывых людзей; якія (дзеяньні) зьмяняюцца апавяданьнем пра іх самага аўтара, адсутнічае..., адсутнічае... адсутнічае...“ і інш.

Такім чынам і атрымоўваецца, у выніку такога тлумачэньня справы, што пачынаючыя маладыя паэты і пісьменьнікі, не спакушоныя казуістычнай словатворчасьцю іншага свайго (часта няпрошанага) „настаўніка“, нахабна ім жа прымушаюцца вельмі часта шукаць у сваёй творчасьці „адсутнай прысутнасьці“... Бо, з аднаго боку, як мы бачылі, такі „настаўнік“ заяўляе безапэляцыйна ўдарнікам, што ў іх творчасьці ёсьць нібыта ўсе адзнакі матарыялізму, дыялектыкі і г. д., а з другога—пералічваючы моманты, што ў творчасьці іх адсутнічаюць,—тым самым ня менш безапэляцыйна адмаўляе па сутнасьці свае першыя сьцьверджаньні. Інакш: сказаць, што ў творчасьці ўдарнікаў ёсьць асноўныя адзнакі дыялектыка-матарыялістычнага мэтаду, а значыць і сьветапогляду і ў той-жа час сьцьвярджаць адсутнасьць канкрэтнасьці, супярэчнасьцяй, адсутнасьць шырокіх абагульняючых ідэй і вывадаў—значыць сапраўды займацца гульнёй у пустыя і нікому непатрэбныя словы. Больш таго—гэта значыць ставіцца да ўдарнікаў і іх творчасьці ў такое дачыненьне, у якое ставіцца заўседы гаспадар, скажам, да свайго каня, якога ён мяркуе абавязкова прадаць і таму трымаецца правіла „хваліць, ды з рук валіць“...

Але ж—

„Смешивать два этих ремесла
Есть тьма охотников —
мы не из их числа“.

Бо дапамога пачынаючым пісаць паэтам-ударнікам павінна заключаць у сабе сталыя, канкрэтныя заўвагі наконт іх творчасьці, сталыя канкрэтныя адказы на ўсе пытаньні, што зьвязаны так ці інакш з іх творчай вучобай і практыкай. А ў зьвязку з гэтым яна не павінна

складацца з абстрактных, агульных, расплыўчатых разважаньняў, т. сказаць „па поваду“, „наогул“ „у асноўным“ і г. д. Ва ўсякім разе, заключэньні ацэначнага парадку наконт уласьцівых творчасьці пачынаючых пісаць таварышоў ідэёва-палітычных і фармальна-мастацкіх вартасьцяй ня могуць выходзіць з уліку аднэй толькі тэматыкі самой па сабе і патрабуе ўсебаковага вызначэньня таго, якім чынам закранутая канкрэтна ў вершы тэма афармляецца, якім чынам выражаецца. Бо ўзятая сама па сабе кожная тэма ў дачыненьні да пэўнага вершу—абстракцыя, якой бы актуальнай яна ня была. Абстракцыя, не зважаючы нават на сваю відомую „канкрэтнасьць“.

Да больш сталага абгрунтаваньня апошніх сваіх палажэньняў мы зараз і пераходзім, пры чым пастараемся давесьці гэтыя палажэньні на канкрэтных прыкладах, г. зн.—вершах, разглядаючы іх з пункту гледжаньня неабходнасьці выславіць ідэёва-палітычны зьмест творчасьці ўдарнікаў, а такім чынам і сьветапогляд іх.

Для гэтае мэты дазволім сабе падаць верш, напрыклад, С. Фронкіна—„Беларусь“. З тае прычыны, што гэты верш зьяўляецца тыповым для пэўнае групы пачынаючых таварышоў, якіх мы ў сваім месцы назавем—пададзім яго поўнасьцю і пасьля ўсебакова разгледзім для выслаўленьня на аснове такога разгляду палітычнага ўзроўню і сьветапогляду ягонага аўтара:

Беларусь старонка наша,
Ты пануеш[1]) у Саюзе ССР
І як у вольнай Савецкай краіне,
Расьце будаўніцтва без мер.
У нас будуюцца заводы
І фабрык ёсьць ня мала
Мы ў калгаз загонім вёскі
У чым быто ні стала
Хутка прыдзе такі час,
Калі замест Беларускіх вёсак
Будзе сплашны калгаз
Тады ня будзем мы трудзіцца
Капацца ў зямлі, як чарвяк
А пабудуем сацыялізм
Сказаў наш Ленін так.

Між іншым зазначаем, што С. Фронкін, дасылаючы свой верш у рэдакцыю зусім правільна зьвяртаўся да яе з просьбаю альбо надрукаваць яго, альбо паказаць ягоныя недахопы і памылкі.

У чым-жа гэтыя недахопы? У чым памылкі?

Каб мы належылі да ліку „трудолюбивых медведей“ мы пачалі-б адказваць на гэтыя пытаньні абавязкова са сьцьверджаньня, што верш „у асноўным“... заключае ў сабе матарыялізм, скажам, бо ягоная тэма, як бачыце, зусім „канкрэтная“—„Беларусь“... Больш

[1]) Усюды падкрэсьлена мною. А. П.

таго, зусім відавочна і імкненьне аўтара паказаць тыя дасягненьні, што мае Беларусь, як сустаўная частка Савецкага саюзу. Гэта імкненьне назавем умоўна ідэяй вершу.

Але-ж такое сьцьверджаньне азначала-б непатрэбнае па плячу— пахлопваньне т. Фронкіна і не давала-б яму магчымасьці пазбавіцца ад памылак і недахопаў, што ёсьць у ягоным вершы. Да іх належыць перш за ўсе няправільнае разуменьне ўзаемадачыненьняў паміж нацыянальнымі рэспублікамі, уваходзячымі ў склад СССР. Бо, як мы бачылі, С. Фронкін выражае гэта ўзаемадачыненьне праз слова „势пануеш“.

„Беларусь старонка наша,
Ты пануеш у Саюзе ССР“.

А ў выніку гэтага атрымоўваецца, што Беларусь „господствует“ у „Союзе СССР“, бо слова „п а н а в а ц ь“ у перакладзе на расійскую мову азначае—„господствовать“ у той час як Беларусь на самой справе не зьяўляецца „господствующей“ ў дачыненьні да іншых нацыянальных рэспублік...

Такім чынам няправільна ўжытае слова ў даным выпадку зьмяніла адмоўна і самы сэнс брацкага супрацоўніцтва працоўных мас розных нацыянальнасьцяй, г. зн. самая памылка—з слоўна-фармальнай, на першы погляд, ператварылася ў п а л і т ы ч н у ю па сутнасьці.

Апошня-ж вымагае ад пачынаючых пісаць таварышоў, як і наогул ад кожнага паэта і пісьменьніка, вельмі ўважлівых і крытычных адносін да кожнага ўжываемага ў вершы слова, да кожнага сказу, да кожнай сфармуляванай думкі.

Аднак пойдзем далей. Працягваючы тое-ж першае чатырохрадкоўе, у двух апошніх радкох С. Фронкін піша:

„І як у вольнай савецкай краіне—
р а с ь ц е б у д а ў н і ц т в а б я з м е р“...

У гэтых радкох перад усім кідаецца ў вочы слабасьць слоў „расьце будаўніцтва бяз мер“ для выражэньня тэмпаў разьвіцьця нашай гаспадаркі ва ўсіх галінах. У лепшым выпадку—гэта не канкрэтны, не мастацкі паказ росту гэтага будаўніцтва, а вельмі агульная, неазначальная, няўдалая нават газэтная інфармацыя пра яго: Але-ж ня ў гэтым справа, хоць і гэта, канечне, недахоп з пункту гледжаньня мастацкага адлюстраваньня нашых посьпехаў. Уся сутнасьць у тым, што і самая ступень росту нашага будаўніцтва, галоўныя прычыны гэтага росту С. Фронкіным не ўцямлены і правільна ён іх не разумее. Бо будаўніцтва наша расьце сапраўды не „б я з м е р“- ня стыхійна, а строга п а д п а р а д к а в а н а менавіта пэўным м е р а м, падпарадкавана п л я н а в а м у п а ч а т к у разьвіцьця, падпарадкавана п л я н а в а м у к а н т р о л ю з боку п р а л е т а р с к а й д з я р ж а в ы. І толькі таму, што гэта так—яна пазбаўлена няўхільных вынікаў анар-

хічнага стыхійнага разьвіцьця капіталістычнай гаспадаркі—крызісаў. А ў гэтым і сакрэт, у гэтым і адна з галоўнейшых прадумоў буйнага росквіту нашай соцыялістычнай гаспадаркі.

У наступным чатырохрадкоўі С. Фронкін, як памятае чытач, таксама вельмі агульна, газэтнай мовай, паведамляе, што „у нас будуюцца заводы і фабрык ёсьць ня мала“ (два першых радкі) і поруч з гэтым фармулюе за ачы ў дацыненьні да калектывізацыі (два апошніх радкі).

„Мы ў калгаз загонім вёскі
У чым бы то ні стала“...

А ў адпаведнасьці з гэтым, у наступным чатырохрадкоўі дадае:

„Хутка прыдзе такі час,
Калі замест Беларускіх вёсак
Будзе сплашны калгаз“...

Як відаць, пададзенымі радкамі С. Фронкін імкнуўся мусіць давесьці няўхільнасьць калектывізацыі для сельскай гаспадаркі, пры чым калектывізацыі суцэльнай. Узятая сама па сабе—думка, бясспрэчна, правільная, думка вартая ўвагі. Але-ж справа ў тым, што імкненьне С. Фронкіна „загнаць вёскі ў калгаз“—сродак да ўтварэньня замест іх „сплашнога калгазу“—палітычна-шкоднае варожае, „лявацкае“ імкненьне, рашуча асуджанае партыяй і рашуча адкінутае ў практыцы калгаснага будаўніцтва. Бо вёскі—не авечкі, скажам, ня козы, якіх можна загнаць, напрыклад, у хлявы. Вёскі—сукупнасьць жывых людзей (маем на ўвазе працоўную частку іх), якіх нельга адміністрацыйна „загнаць у калгаз“. Ды і задача наша ня ў гэтым. Бо нам неабходна, апіраючыся на добраахвотнасьць і сьвядомасьць гэтых людзей скарыстаць іх, як сьвядомых і актыўных будаўнікоў калектыўнай гаспадаркі. І ішчэ—зусім ня маем мы патрэбы „замест Беларускіх вёсак утварыць „сплашны калгаз“..., хоць апошняе ў С. Фронкіна і атрымалася ў выніку няправільнага словаўжываньня. Бо, як відаць, ён хацеў падкрэсьліць няўхільнасьць суцэльнай калектывізацыі і выразіў гэта праз словы—„сплашны калгаз“. Але-ж разуменьне „суцэльная калектывізацыя краіны“ і „сплашны калгаз“—не адно і тое самае. Бо суцэльная калектывізацыя азначае, што ўсё працоўнае сялянства аб'яднаецца ў калгасы, захаваўшы пры гэтым прынцып падзелу на раёны, скажам, вёскі і г. д., захаваўшы нават нацыянальныя адзнакі—польскі, напрыклад, нацыянальны калгас, літоўскі і інш. Разуменьне-ж—„замест беларускіх вёсак будзе сплашны калгаз“ азначае, што нібы та ўсе вёскі БССР будуць аб'яднаны абавязкова ў адзін калгас, што зусім немагчыма, зусім непатрэбна.

Нарэшце варта адзначыць у данай сувязі няправільнае скарачэньне двух слоў, праўдзівей няправільнае арфаграфічнае выражэньне іх—праз адно слова—калга-з, што трэба разумець як калгас. Бо кал-

гас азначае скарочанае—„калектыўная га(с)падарка“, тады як калга-з прадпалагае напісаньне слова гаспадарка праз літару „з“ намесьце—„с“, а г. зн. трэба было-б пісаць замест га(с)падаркі—га(з)падарка. Апроч гэтага, само слова калга-з асацыіруецца з ўяўленьнем разуменьня—газ (атрутны сродак, напрыклад) і тады атрымоўваецца, што калга-з ёсьць нешта накшталт „калектыўнага газу“.

Што-ж да граматыкі і правапісу, дык трэба сказаць толькі, што слова „беларуская“ пішуць з малай літары, калі яно не азначае імя ўласнага. Напрыклад, з вялікай літары трэба было-б абавязкова напісаць назву былой беларускай сялянскай газэты, якая называлася „Беларуская вёска“ (зараз „Калгасьнік Беларусі“). Але-ж нельга пісаць з вялікай літары словы „беларуская вёска“ ў тым выпадку, калі гэтым хочуць сказаць пра гэту вёску толькі тое, што яна напрыклад ня руская, ня польская і г. д. Бо ў даным выпадку само слова „беларуская“ ёсьць простае азначэньне (определение), але ня імя ўласнае.

І на астатак—вельмі няўдала выражана думка пра тое, што калгас дасьць магчымасьць зьмяніць формы і сродкі апрацоўкі зямлі. Бо С. Фронкін піша аб гэтым так:

„Тады ня будзем працаваць,
Капацца ў зямлі, як чарвяк.
А пабудуем сацыялізм“...

Паводле гэтых слоў можна падумаць, што калгас—такая форма гаспадаркі, у якой з у с і м нібы та ня трэба будзе і сапраўды працаваць, што зразумела няправільна. Бо калгасная гаспадарка толькі зусім па іншаму арганізуе ўсе галіны працы перш за ўсе праз ужываньне машын, але патрэбнасьці працаваць не выключае, не адмаўляе.

Такім чынам разгледжаны верш С. Фронкіна дае падставы зрабіць наступны вывад.

Перш за ўсё ён дазваляе заключыць, што суб'ектыўнаму асабістаму жаданьню ягонага, аўтара паказаць будаўніцтва ў БССР у галіне прамысловасьці і сельскай гаспадаркі вельмі і вельмі шкодзіць нізкі ўзровень грамадзка-палітычнага разьвіцьця Фронкіна, нізкі культурны ўзровень наогул, адсутнасьць поэтычнай культуры, поэтычнай тэхнікі ў прыватнасьці. У зьвязку з апошнім знаходзіцца і вельмі слабая літаратурная апрацоўка вершу: нявытрыманасьць рытму пасобных радкоў, мэханічнае словаўтварэньне рыфм праз ужываньне слоў, што не знаходзяцца паміж сабою ў лёгічнай сувязі, беднасьць лексыкону (слоўніка), які складаюць абмежаванай колькасьці агульныя выразы накшталт—„пабудуем“, „згуртуем“, „расьце“, „ідзе“, „прыдзе“, і інш.; адсутнасьць уласна-мастацкіх сродкаў: увасабленьняў, параўнаньня, мэтафар, эпітэтаў і г. д., што робіць верш празаічна-газэтнай і вельмі слабай інфармацыяй. А ўсё гэта ўзятае цалкам абумоўлівае то, што верш не захапляе чытача, не пакідае пасьля сябе ніякага ўражаньня і такім чынам траціць сваю сілу, як мастацкі твор.

І яшчэ, як асабліва вялікі і асноўны недахоп трэба адзначыць, што верш ня мае справы з канкрэтнымі людзьмі і таму пабудаваны ў пляне абяцанак: „пабудуем“, „згуртуем“. „загонім“, „утворым“, „будзе“ і г. д., у пляне будучага часу. Сапраўды-ж справа стаіць ня так. Сапраўды мы і зараз ужо будуем і вельмі шмат пабудавалі. А адгэтуль пытаньне—хто будаваў? Зразумела, людзі. Але дзе яны? Пакажыце іх у працэсе будоўлі і разам з ёю, у змаганьні за яе—вось задача, што мы ўправе ставіць перад кожным паэтам і пісьменьнікам. Больш канкрэтнасьці, больш сапраўднага патосу сацбудаўніцтва, больш узораў ударнай працы людзей і іх грамадзкіх узаемадачыненьняў у працэсе будоўлі. Менш тарабарнай, штучна (праз мэханічны падбор громкіх слоў) узьнятай „отсебятины“, казённага „патрыятызму“, надуманасьці!

Такія-ж альбо амаль такія памылкі і недахопы ўласьцівы і вершам: А Трасьніка—„Фардзоны заравуць“, Юркі Сныткі—„Бальшавіцкая сяўба“, Васіля Лапіцкага—„Бальшавіцкай вясьне“, Янкі Лукашэнкі—„Трэцяя завяршальная“, П. Вязоўскага—„Першая баразна“, Пятруся Марозава—„Коні“, А. Карпачэнкі—„Калгасныя будні“, М. Журамскага—„Другу, ударніку калгасу“, В. Мазіліна—„Усе наперад“, М. Талькова—„Днямі—дзень тварылі мы калгасы“, і „Як Мікіта-бядак выбраў шлях адзін“, Янкі Журамскага—„За калгасы“, В. Якімовіча „Рай“, М. Пацеенка—„Усе разам“, С. Салаўёва—„Вясна“, Штормава—„Яна ідзе“, Сымона Хаміцэвіча—„Песьня трактарыста“, Маркава—„Вышэй сьцяг да трэцяй вясны“, Ул. Камарова—„Бальшавіцкі шлях“, С. Шыдлоўскага—„Трэці рашаючы год пяцігодкі“. Ян. Шкурдзь—„Агітатар“, Янкі Журдыка—„Кулак“, Якуба Лукашонка—„Стройка“ І. Каваленка—„Красавіца пяцігодка“, Г. Курылава—„Савецкаму краю“ С. Мітраховіча—„Вольная Беларусь“, М. Бярозкі—„Чатырнаццатаму“ і цэлага раду іншых таварышоў.

Пры чым, для таго, каб папярэдзіць непаразуменьні, якія могуць узьнікнуць у зьвязку з далёка няпоўным пералікам дасланых у рэдакцыю вершаў,—агаварваемся зараз жа, што зрабіць гэтага нельга з-за адсутнасьці месца. Гэта перш за ўсё. А па другое, мы прынцыпова лічым, што з пункту гледжаньня карыснасьці для маладых пачынаючых паэтаў агляду іх творчай прадукцыі, гэты агляд не абавязкова павінен станавіць сабою пералік усіх вершаў з абавязковым указаньнем імя іх аўтараў. Бо гутарка можа і павінна ісьці пра другі бок справы,—пра больш дэталёвае акрэсьленьне тыповых і характэрных адзнак спэцыфічна-прысутных і ўласьцівых большасьці з пачынаючых пісаць таварышоў.

(Працяг будзе).

---

# ХРОНІКА

## У аргкамітэце Саюзу савецкіх пісьменьнікаў БССР

### Аб папулярызацыі пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б пра перабудову літаратурна-мастацкіх організацый

Для папулярызацыі пастаноў партыі аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый і для аказаньня канкрэтнай дапамогі ў справе перабудовы раённых літаратурных арганізацый, аргкамітэтам вылучаны на гэтую справу брыгады пісьменьнікаў.

У г.г. Гомель і Жлобін выяжджалі таварышы Чорны, Барашко, Александровіч і Даўгапольскі. У Віцебск т.т. Лынькоў, Хведаровіч, Гарцман, Хадыка. У Магілеў і Воршу т.т. Галавач, Вольны і Таўбін.

Брыгады правялі сходы літаратурных гурткоў, арганізавалі вечары з дакладамі аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый і прынялі ўдзел у стварэньні літаратурных груп.

### Рэарганізацыя часопісяй

Камісія аргкамітэту па справах друку на сваім паседжаньні ўхваліла праэкт рэарганізацыі літаратурна-мастацкіх часопісяй БССР.

Лік часопісяй астаецца і надалей такі-ж. Толькі часопісі рэарганізуюцца, а ў некаторых будуць яшчэ зьменены і назвы.

Так, часопісь „Полымя" (са зьмененай назвай) перетвараецца ў асноўную літаратурна-мастацкую часопісь. Лістаж часопісі вызначаецца 12—17 аркушоў. У часопісі заводзяцца рэгулярныя аддзелы крытыкі і бібліяграфіі, дзе павінны ставіцца і распрацоўвацца асноўныя праблемы марксысцка-ленінскага літаратуразнаўства, пытаньні канкрэтнай крытыкі.

На сваіх старонках часопісь будзе зьмяшчаць найболыш кваліфікаваны, як мастацкі, так і тэорэтычны матар'ял. Часопісь разьлічана на падрыхтаванага чытача партыйнага і камсамольскага актыву, савецкай інтэлігенцыі.

Часопісь „Маладняк" (са зьмененай назвай) рэарганізоўваецца з разьлікам на канцэнтрацыю навакол сябе новых кадраў і ў першую чаргу рабочых ударнікаў, закліка081ных у літаратуру.

Вялікая ўвага ў часопісі аддаецца аддзелу літаратурнай марксысцка-ленінскай вучобы для пачынаючых і выяўленых маладых пісьменьніцкіх кадраў. Часопісь разьлічваецца на шырокія чытацкія масы беларускай індустрыі.

Часопісь „Беларусь Калгасная" усім сваім зьместам будзе арыентавацца на калгасныя і працоўныя сялянскія масы Беларусі. Часопісь будзе яднаць навакол сябе новыя літаратурныя сілы, што ідуць у літаратуру з гушчаў працоўных мас калгасаў і вёсак.

Аднак, змагаючыся ў асноўным за паказ героя калгасных палёў, адлюстроўваючы на сваіх старонках працэсы сацыялістычнай рэканструкцыі вёскі, распластаваньне на аснове калектывізацыі, часопісь „Беларусь Калгасная" будзе адводзіць значнае месца жыцьцю і працы гораду: фабрык і заводаў.

Да ўсебеларускага зьезду савецкіх пісьменьнікаў часопісі „Полымя" і „Маладняк" (са зьмененымі назвамі) будуць выдавацца як органы арганізацыйнага камітэту Саюзу савецкіх пісьменьнікаў БССР. Часопісь „Беларусь Калгасная" да зьезду будзе выходзіць як орган Беларускага аб'яднаньня пралетарска-калгасных пісьменьнікаў.

### Творчыя камандыроўкі

З мэтай глыбейшага ўключэньня асноўных мас савецкіх пісьменьнікаў у практыку сацыялістычнага будаўніцтва арг. камітэт вызначыў каля 30 пэрсанальных творчых камандыровак для паездкі на сацыялістычныя прадпрыемствы, у саўгасы, калгасы.

Адна з брыгад будзе паслана на торфараспрацоўкі Мар'інскага тарфянога масыву і Асінторфу. Пасьля вывучэньня пісьменьнікамі справы здабычы торфу і азнаямленьня з формамі і мэтадамі торфараспрацовак, пісьменьнікі прыступяць да напісаньня мастацкіх твораў.

Па лініі БелЛАЧАФ паслана некалькі брыгад пісьменьнікаў у розныя часьці Чырвонай арміі. Пісьменьнікі прабудуць у часьцях Чырвонай арміі ад 3-х тыдняў да паўтара месяца, дзе, добра азнаёміўшыся з жыцьцём чырвонаармейцаў, прыступяць да напісаньня твораў на абаронную тэматыку.

### Будаўніцтва дому пісьменьніка

СНК БССР усклаў будаўніцтва Дому пісьменьніка на Народны Камісарыят Асьветы БССР.

22 чэрвеня г.г. пры НКА БССР адбылося паседжаньне, на якім прымалі ўдзел Наркамасьветы т. Платун, старшыня арг. камітэту т. Клімковіч, інжынэр Лаўроў і старшыня камісіі па будаўніцтву Дому пісьменьніка т. Барашка.

Нарада распрацавала плян будаўніцтва, вызначыла пляц і ухваліла канчатковы тэрмін пабудовы Дому.

### Над чым працуюць пісьменьнікі

● **Аркадзь Куляшоў** працуе над новымі вершамі. Ім здадзена ў ДВБ вершаваная аповесьць „Аманал“, друкуецца і хутка выйдзе яго кніга эпосу „Медзі дождж“. Вышла з друку яго кніжка вершаў „Па песьню, па сонцу“.

● Здадзена ў ДВБ М. **Хведаровічам** кніжка вершаў „Вайна за мір“. Хутка выходзіць яго зборнік вершаў „Рытмы“ другім выданьнем.

● **Зьмітрок Астапенка** здаў у ДВБ зборнік вершаў „Абураныя“.

● **Алесь Дудар** перакладае з нямецкай мовы „Фауст“ Гётэ. Ён-жа канчае пісаць паэму „Слуцак“.

● Гэтымі днямі выходзіць з друку кніга пародый С. **Старобінскага** „Ха“. Кніга багата ілюстравана мастакамі „Дэвэбекі“.

● **Васіль Сташэўскі** напісаў п'есу з жыцьця Чырвонай арміі, якая будзе пастаўлена БДТ-2 да 15-ай гадавіны Кастрычніка. Вышла ў перакладзе на яўрэйскую мову яго аповесьць „Пад местачковым месяцам“.

● Вышла з друку дзіцячая кніжка **Ілары я Барашкі** „Газэта Ганначкі—Хаваначкі“. Ён-жа піша кнігу для юнацтва „Падарожжа за рубель“. Адначасова распрацоўвае матар'ял для новай п'есы „Латвія будзе савецкай“ на тэму пра ператварэньне вайны імпэрыялістычнай ў вайну грамадзянскую.

● **Янка Скрыган** рыхтуе зборнік апавяданьняў „Смага“. Адначасова працуе над цыклем апавяданьняў.

● Выходзіць з друку кніжка **Макара Пасьлядовіча** „Па шляхох вялікіх перамог“, напісаная разам з ударнікамі калгасьнікамі, рабочымі МТС і саўгасаў. Ім-жа перапрацоўваецца для выданьня асобнай кніжкай аповесьць „Хада ў заўтрае“.

● Неўзабаве выходзіць з друку дзіцячая кніжка **Усев. Шыдлоўскага** „Ля граніцы“. Зараз ён працуе над зборнікам дзіцячых апавяданьняў. Адначасова піша аповесьць з камсамольскага жыцьця.

● П. **Глебка** працуе над паэмай з жыцьця Заходняй Беларусі „Асуджаныя на кару сьмерцю“ і адначасова паводле яе, піша лібрэта для опэры. Друкуецца яго кніга паэм „Хада падзей“ і асобнаю кніжкаю паэма „Арлянка“.

● І. **Шапавалаў** працуе над сцэнарыем з пагранічнага жыцьця. Адначасова піша паэму „Большевики границы“. Выходзіць з друку яго кніга вершаў на расейскай мове „Товарищ“, друкуецца паэма-аповесьць „Ян Рендзя“.

● Выходзіць кніжка вершаў **Пятруся Броўкі** „Поэзія“ і ў сэрыі для бібліятэкі малапісьменных „Цэхавыя будні“. Зараз П. Броўка піша нізку новых вершаў.

## Тэатр

### Брыгада актараў на сяўбе

У сувязі з летнім адпачынкам акторы БДТ—2 прынялі актыўны ўдзел у правядзеньні 3-й бальшавіцкай сяўбы. Тэатр вылучыў дзьве брыгады для арганізаванай паездкі ў калгасы.

Адна з брыгад наведала Вэндароўскі, Храпялеўскі, Рафалаўскі, Бялевіцкі і Хонаўскі сельсаветы (на Магілеўшчыне). У рэпэртуары сваім брыгада мела тры аднаактавыя п'есы („Яма“, „Сенажаць“, „На новым шляху“) і канцэртныя выступленьні.

Калгасьнікі з вялікай зацікаўленасьцю праглядалі пастаноўкі брыгады, слухалі канцэрты.

У часе паездкі брыгада не абмяжоўвалася аднымі паказамі—пастаноўкамі. Яна прымала актыўны ўдзел у працы грамадзкіх арганізацый, наладзіўшы абмен вопытам паміж калгасамі. Брыгадай выяўлен цэлы рад недахопаў у працы паасобных калгасаў.

Паездка ў калгасы дала вялікую карысьць як для брыгады ў сэнсе азнаямленьня з сацыялістычным будаўніцтвам на вёсцы, так і для калгасаў у наладжваньні культмасавай работы ў часе правядзеньня 3-й бальшавіцкай сяўбы.

### Усесаюзная алімпіяда самадзейнага мастацтва

З 1-га па 10-е жніўня адбудзецца ў Маскве Усесаюзная алімпіяда самадзейнага мастацтва.

Усяго на Усесаюзнай Алімпіядзе будзе удзельнічаць 77 самадзейных мастацкіх брыгад і калектываў, якія адабраны ў выніку папярэдняга агляду. Пяць лепшых брыгад прэм'яваны пасылкай для ўдзелу ў інтэрнацыянальнай рабоце тэатральнай алімпіяды, якая адбудзецца паміж 15 і 25 кастрычніка г. г. у Маскве.

У часе Усесаюзнай Алімпіяды, якая будзе праходзіць у цэнтральным парку культуры і адпачынку, вырашана арганізаваць музычна-харавое сьвята. У сьвяце возьмуць удзел аб'яднаны духавы аркестр з 2000 чалавек і хор з 3000 чалавек.

### Запрашэньне Беларускага дзяржаўнага ансамблю народных інструмантаў Закаўкаскай фэдэрацыяй савецкіх рэспублік

1 сьнежня 1930 году калегія НКА надала калектыву музыкантаў, што існаваў пры клясе народных інструмантаў Музтэхнікуму, годнасьць Беларускага дзяржаўнага ансамблю музычных інструмантаў. Сваю годнасьць

калектыў заслужыў упартаю працаю над пашырэньнем свайго рэпэртуару, над удасканаленьнем яго.

Ансамбль, які складаецца з рабочых, з студэнтаў, за апошні час значна вырас мастацкі. Апрача беларускіх народных сьпеваў у добрым мастацкім выкананьні можна пачуць новыя песьні сац. будаўніцтва—творы беларускіх кампазытараў, а таксама рэчы клясычнае музыкі—творы такіх кампозытараў як Шубэрта, Моцарта, Крэйсьлер, Ліста.

За кароткі час свайго існаваньня Беларускі дзяржаўны ансамбль народных інструмантаў мае багатую гісторыю службы сац. будаўніцтву.

Ансамбль нясе пралетарскую культуру ў працоўныя масы, на фабрыкі, заводы, у калгасы, дзе слухаюць яго з вялікім задавальненьнем на блізкіх, зразумелых працоўным масам інструмантах. За 1931 год ансамбль абслужыў паасобныя прамысловыя цэнтры і калгасы БССР, выступаў на фабрыках і ў клюбах у Маскве. знаёміў працоўных УССР з дасягненьнямі культурнага будаўніцтва БССР, выступаючы ў г. Харкаве і іншых мясцовасьцях савецкай Украіны.

Сваю работу ў Данбасе ансамбль падпарадкаваў задачам ліквідацыі вугальнага прарыву ў 1931 г., даючы шмат дарэмных выступленьняў непасрэдна на шахтах, у рабочых казармах, праводзячы адпаведную растлумачальную работу. За ўдарную работу рабочыя шахт паднесьлі ансамблю падарунак шахцёрскую лямпачку.

Сёлета ансамбль наведае Закаўкаскую фэдэрацыю савецкіх рэспублік, адкуль ужо мае запрашэньне. СНК БССР аказана адпаведная дапамога для гэтай паездкі.

Уся каштоўнасьць ансамблю, як мастацкай адзінкі складаецца з таго, што ансамбль цалкам і поўнасьцю ўсю сваю работу падпарадкаваў задачам сацыялістычнага будаўніцтва, што ён праводзіць работу выключна сярод шырокіх гушчаў працоўных.

### Адчыненьне Польскага дзяржаўнага тэатру ў БССР

Да дню сьвяткаваньня вызваленьня Беларусі ад белапалякаў было прыўрочана ўрачыстае адчыненьне новага будынку польскага Дзяржтэатру ў г. Менску.

Тэатр адчынен у былым касьцельным будынку на Савецкай вул. Перабудова будынку зроблена паводле праэкту інжынэра Лаўрова.

Адчынены польскі тэатр зьяўляецца па сваім унутраным мастацкім афармленьні найлепшым з усіх існуючых тэатральных будынкаў БССР.

Пастановай Наркамасьветы БССР тэатру нададзена імя 11-га ліпеня. Лепшыя ўдарнікі пабудовы тэатру прэм'яваны.

У ліпені месяцы ў будынку тэатра адбыліся гастролі польскага Дзяржаўнага тэатру Украіны.

### Стварэньне расійскага Дзяржаўнага драматычнага тэатру ў БССР

Пастановай НКА БССР з 1-га верасьня гэтага году арганізоўваецца Расійскі дзяржрамтэатр БССР.

Да гэтага часу было на расійскай мове ў Беларусі два драматычныя тэатры, яны працавалі бяз пэўнага вытворчага і мастацкага пляну.

Асноўным мастацкім ядром новага тэатру зьявіцца рад лепшых работнікаў з абодвух расійскіх тэатраў БССР. Новы тэатр будзе папоўнен дадатковымі сіламі актораў з тэатраў РСФСР.

НКА зацьверджан каштарыс новага тэатру і вызначана датацыя. Гэта дасьць магчымасьць тэатру шырока разгарнуць работу.

Уся праца па арганізацыі тэатру даручана кіраўніком абедзьвюх расійскіх труп т. т. Кумельскаму і Скальскаму.

### Гастролі БДТ I у Гомелі

БДТ I, пасьля сканчэньня свайго сэзону ў Менску, выехаў у буйнейшы прамысловы цэнтр—у Гомель.

З вялікай зацікаўленасьцю прынялі рабочыя масы, пралетарская грамадзкасьць сваіх гасьцей. Новая, апошняя пастаноўка тэатру—п'еса М. Ірчана—„Плацдарм“ прайшла з надзвычайным посьпехам.

Досыць значная работа праведзена калектывам тэатру па сувязі з рабочым гледачом. Зроблены культурныя вылазкі на Гомсельмаш і рад вылазак у чырвонаармейскія часьці.

За час гастроляў тэатр падрыхтаваў і выпусьціў новую прэм'еру А. Міровіча „Лён“. 10-га ліпеня тэатр паставіў прэм'еру ў будынку тэатру імя Леніна.

Вярнуўшыся з Гомелю ў Менск, тэатр пасьля адпачынку распачне падрыхтоўку да 15-й гадавіны Кастрычніка. Будзе рыхтавацца п'еса Кузьмы Чорнага „Бацькаўшчына“ ў пастаноўцы мастацкага кіраўніка БДТ I Л. Літвінава.

### У БДТ III

Трэці Беларускі дзяржаўны тэатр, які створаны з Беларускага дзяржаўнага вандроўнага тэатру пад кіраўніцтвам народнага артысту рэспублікі Галубка, пачаў сваю работу ў Віцебску 15-га сакавіка пастаноўкай п'есы „Энтузіясты“.

Вялікі творчы ўздым у рабоце тэатру паказала пастаноўка гэтай п'есы. Як з боку зьместу, так і па сваім мастацкім афармленьні, па выкананьні роляў артыстамі пастаноўка „Энтузіясты“ задаволіла віцебскага гледача. Аб гэтым сьведчыць рад водгукаў у мясцовай прэсе. П'еса „Энтузіясты“ ішла ў Віцебску 25 разоў выключна для арганізаванага гледача.

Пастаноўка п'ес „Дыктатура“—Мікітэнкі і „Віхор“—Сташэўскага таксама сьведчыць аб бясспрэчным росьце калектыву тэатру.

Тэатр не абмяжоўваецца работай у сьценах будынку,—калектыў артыстаў прымаў актыўны ўдзел у правядзеньні месячніка ліквідацыі прарыву на Віцебскім чыгуначным вузьле. Рабіліся культвылазкі ў час абедзеных перапынкаў, начных зьмен на буйнейшыя прадпрыемствы г. Віцебска. Дадзены бясплатныя канцэрты рабочым лесасплаву на Заходняй Дзьвіне. Вялікая работа праведзена па культабслугоўваньні студэнтаў навучальных устаноў г. Віцебска і таксама старэйшых груп сямігодак.

Плянавым правядзеньнем культурна-масавай работы тэатр абслужыў увесь Віцебскі гарнізон у парадку шэфства над Чырвонай арміяй.

Тэатр наведаў за межамі гораду рад прадпрыемстваў: ф-ку „Дзьвіна", фанэрны завод (Маркаўшчына), дзе былі пастаўлены спэктаклі і канцэрты.

Артысты выяжджалі на пасеўную кампанію для культмасавага абслугоўваньня саўгасаў.

Пасьля сканчэньня сэзону ў Віцебску БДТ III выехаў на абслугоўваньне торфараспрацовак і новых пабудоў.

Сталая база БДТ III ў гэтым годзе будзе ў г. Гомелі.

### Новы тэатр

15-га студзеня 1932 г. пры Рэспубліканскім камітэце рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў арганізаван тэатр.

У калектыве тэатру 29 актораў з рабочых і калгасьнікаў.

За кароткі час сваёй работы тэатр у сваім рэпэртуары мае літмантаж „Энтузіясты", „Прарыў", канцэрт. З гэтым рэпэртуарам тэатр ужо выяжджаў у саўгасы і калгасы, дзе прарабіў вялікую работу па культурнаму абслугоўваньню рабочых саўгасаў і калгасьнікаў.

Зьвярнуўшыся з паездкі тэатр падрыхтаваў да пастаноўкі п'есу беларускага драматурга Т. Блісьцінава „Грунт".

## У РСФСР

### Зборнік чырвоных партызанаў

Бюро творчай групы пісьменьнікаў—былых чырвонагвардзейцаў пастанавіла выдаць да 15-й гадавіны Кастрычніка літаратурна-мастацкі альманах „XV-ты Кастрычнік".

Бюро просіць усіх пісьменьнікаў Савецкага саюзу, былых дружыньнікаў, чырвонагвардзейцаў і чырвоных партызан прыняць удзел у стварэньні гэтага альманаху.

Матар'ял накіроўваць па адрасу: Москва, 1, Тверской бульвар, 25, Горком писателей (для писателей-красногвардейцев).

### Да пастаноўкі „Железного потока"

Тэатр Чырвонай Прэсьні (былы Рэалістычны) прыўрочвае да 15-ай гадавіны Кастрычніка пастаноўку „Железный поток" А. Серафімовіча.

Асноўная мэта спэктаклю—паказаць гэроіку грамадзянскай вайны, паказаць пафас рэвалюцыйнай барацьбы сялянскіх працоўных мас, паказаць як растуць гэтыя масы, як перарабляюць яны сябе, перавыхоўваюцца ў працэсе гэтай барацьбы і ўсьвядомляюць сябе сапраўднымі барацьбітамі за рэвалюцыю, за агульныя інтарэсы з рабочай клясай і яе партыяй.

Пастаноўшчык „Железного потока" Н. П. Охлопкаў зазначае, што тэатральныя сродкі выражэньня і афармленьня „Железного потока" зьявяцца разьвіцьцём таго творчага разьбегу, які быў ажыцьцёўлены ў пастаноўцы „Разбег" В. Стаўскага і Г. Паўлючэнка.

Навакол пастаноўкі тэатр разгорне на заводах, на фабрыках, у калгасах вялікую работу па ўцягненьні тысяч будучых гледачоў у непасрэдны ўдзел у стварэньні спэктаклю.

### Гастролі маскоўскага дзіцячага тэатру

Маскоўскі тэатр для дзяцей у сувязі з пастановай ЦК УсеКП(б) аб узмацненьні камуністычнага выхаваньня дзяцей зрабіў паездку у Данбас—Макееўку (мэталюргічны завод і шахты), Марыупаль (мэталюргічны завод імя Ільліча). У Макееўцы за 18 дзён тэатр абслужыў спэктаклямі 18 тысяч дзяцей. Мясцовыя рабочыя арганізацыі далі ўзнагароду тэатру—чырвоны сьцяг. У рэпэртуары тэатру: „Бей, барабан, борьбу", „Крекинг", „Ребячий фронт", „Лягавый" і інш. Акрамя пастановак тэатр праводзіў інструктаж мясцовых самадзейных гурткоў.

*Рэдкалегія*: С. Баранавых, Іл. Барашка, Н. Міхайлаў

*Адказны рэдактар* Н. Міхайлаў